23 сакавіка 2018 | № 10 (573)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
ISSN 2218-2144

Расія: канец эры дыназаўраў
стар. 21

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

4 **АЛАНА СМІТА МОГУЦЬ ЗАТРЫМАЦЬ ПАСЛЯ ВЫХАДУ З КАЛОНІІ**

Грамадзянін Вялікабрытаніі Алан Сміт працягвае знаходзіцца ў беларускай калоніі агульнага рэжыму. Ён настойвае на тым, што не парушаў беларускае заканадаўства, і не прызнае сябе вінаватым



5–6 **ЧАЛАВЕК, ЯКОГА НІХТО НЕ ЗМОГ ВЫКАРЫСТАЦЬ**

Павел Аляксюк — адна з найбольш таямнічых асобаў сярод «айцоў» БНР



7–18

Літаратурная Беларусь

23 **У ЧАСЫ БНР У ЖАНЧЫН АМАЛЬ НЕ БЫЛО ПРАВОЎ**

Жанчыны адыгралі ў станаўленні і развіцці БНР важную ролю — былі на самых складаных і «негераічных» напрамках

# Агульнанацыянальнае свята



Сяргей ПУЛЬША



Краіна адзначыць стагоддзе БНР. Але тое, што папярэднічала гэтаму адзначэнню, на мой погляд, было значна цікавейшым за само свята. А менавіта тыя спрэчкі і жарсці, якія разрывалі палітызаваную прастору ўвесь гэты час.

Найперш гэта, канешне, наўпроставы эфір «Радыё Свабода» з пасяджэння аргкамітэта па святкаванні, нязгода БНК адмаўляцца ад шэсця і абвінавачванні ў розныя бакі. Адных — у «правакатарстве», іншых — у «здрадзе ідэалам».

Гледзячы на ўвесь гэты вэрхал, было нават сумна. Не з таго, што «апазіцыя ў чарговы раз не дамовілася», а ад таго, як Аляксандр Рыгоравіч за 20 гадоў нас усіх пашыхтаваў. Маўляў, ёсць рашэнне аргкамітэта — з ім усе павінны пагаджацца. Усе павінны ўстаць у адзін шэры шэраг — і «Левай, левай! Хто там крочыць правай?» Але нагадвае гэта ўсё ж не Маякоўскага, а Бутусава: «Скаваныя адным ланцугом».

Але ніхто не павінен быў шыхтавацца. Ні ў каго не было абавязкаў выконваць рашэнні аргкамітэту, калі гэтыя рашэнні не падабаюцца. Спадарства, гэта і ёсць дэмакратыя. Плюралізм думак і дзеянняў. І на гэты плюралізм думак і дзеянняў — выбар свайго (а не агульнага) шляху — мы, на жаль, ужо забываемся.

Усе спрэчкі і сваркі на аргкамітэце, усё, што закінулі пасля гэтых спрэчак апазіцыі — гэта, насамрэч, нармальна. Сапраўднае адзінства і сапраўдная роўнасць — толькі на могілках. Сваркі і спрэчкі, па-першае, азначаюць, што мы яшчэ жывыя, а па-другое — што ідзе нармальны дэмакратычны працэс. Хто не верыць, хай паглядзіць на дэбаты ў парламентах Польшчы ці Украіны. А каму ўжо зусім карціць — дык падымайце запісы пасяджэнняў Вярхоўнага Савета 12 склікання, і глядзіце, што было там у часы дэмакратыі. Будзеце вельмі здзіўленыя.

Не трэба наракаць: «Не дамовіліся, не шыхтуюцца!» І добра, што не шыхтуюцца! Значыць, ёсць варыянты дзеянняў.

Калі прыйдзе такая чаканая для некаторых дэмакратыя, калі будзе нармальна абраны парламент, мы расчаруемся яшчэ больш. Спрэчкі ў аргкамітэце нам падаадуцца кветачкамі. Але варта памятаць — без гэтага дэмакратыі проста не бывае.

Другі вэрхал узнік, калі арганізатары вырашылі запрасіць на канцэрт Аляксандра Саладуху. Нехта ўспрыняў гэта як жарт, але былі і тыя, хто вырашыў — Саладуху там не месца.

Усе тыя гады, пакуль мы хадзілі адзначаць Дзень Волі на Бангалор, нам заўсёды казалі са сцэны: «Дзень Волі павінен стаць агульнанацыянальным святам!». Агульнанацыянальным, спадарства! А калі дайшло, урэшце, да справы, аказалася, што раптам у агульнанацыянальную прастору не ўпісваецца Саладуха. Прычым, не ўпісваецца не толькі ён, але і дзясяткі тысяч яго фанатаў.

Не, спадарства, калі мы ўжо марылі пра «агульнанацыянальнае свята», дык давайце рабіць яго агульнанацыянальным. У ім павінна знайсціся месца не толькі Вольскаму і Хаменку, але і Саладуху. І Грыбалёвай, і «Дзецюкам», і Агурбаш, і гурту «Краскі», калі ён яшчэ існуе.

І ўжо зусім не зразумелыя крыўды на Міхалка, які не адмяніў канцэрт у Мазыры дзеля выступу ў Мінску. На Вольскага і Алега Латышонка, якія не пагадзіліся перанесці канцэрт у Беластоку. На Кулінковіча...

Чаму свята павінна праходзіць у сталіцы, а ў Мазыры — не? Чым беларусы Беластоку горшыя за беларусаў Мінска?

Усё роўна гучаць папрокі: «Яны павінны!» Гэтае «яны павінны» — са стылю Аляксандра Рыгоравіча, які кажа пра «жэстачайшэ выканаць». Міхалок, Вольскі, Кулінковіч, калі каму нешта і завінаваціліся, — самі пра гэта ведаюць.

Карацей, уся падрыхтоўка да святкавання стагоддзя БНР, апроч усяго іншага, нам нагадала, што ж насамрэч ёсць дэмакратыя. Найперш — гэта права быць нязгодным. І права рэалізаваць тую самую нязгоду.

І не трэба гэтага палохацца. Гэта не страшна. Страшней — калі ўсё ў адным шэрым шэрагу.

# Ва ўладаў здаюць нервы

Генадзь КЕСНЕР

**Затрыманні актывістаў апазіцыі Уладзіміра Някляева, Вячаслава Сіўчыка, Максіма Вінярскага напярэдадні Дня Волі для некаторых сталі нечаканасцю, для кагосьці — заканамернасцю. Сітуацыю тлумачыць палітолаг Валерый Карбалевіч.**

***— З чым звязаны такія дзеянні праваахоўных органаў?***

— Зразумела, каб не дапусціць шэсця. Я так разумею, што ва ўсіх гэтых людзей ёсць непагашаныя адміністратыўныя судзімасці, што да Някляева, то дакладна. Таксама нешта ёсць і ў Статкевіча. Ім у свой час давалі тэрміны адміністратыўнага арышту, але не затрымлівалі, а чакалі моманту, калі можна будзе гэта рэалізаваць. Таму тактыка ўладаў тут зразумелая: даваць тэрміны, але браць толькі тады, калі ёсць небяспека вулічнай акцыі.

***— Як ахарактарызаваць такія паводзіны ўладаў напярэдадні святкавання 100-годдзя БНР?***

— Зразумела, што нервы ўладаў у такія часы даволі напружаныя, ёсць перастрахоўка. Я нядаўна бачыў такую дзіўную сітуацыю: ідзе міліцэйскі патруль у складзе падпалкоўніка і маёра. Уяўляеце ўзровень? Да дня БНР яшчэ шмат, а міліцэйскі патруль складаецца з афіцэраў такога высокага ўзроўню. Можна сабе ўявіць, што там адбываецца, як нервова людзі там рэагуюць. Але тут нічога асаблівага новага.

***— Ці можна чакаць, што нейкія асаблівыя дзеянні праваахоўных органаў будуць 25 сакавіка?***

— Так. Калі людзі паспрабуюць зладзіць несанкцыянаванае шэсце, то рэакцыя будзе даволі рэзкая.

***— Як цяперашнія затрыманні спалучаюцца з тым, што ўлады дазволілі святкаваць Дзень Волі з мітынгам і канцэртам?***

— Гэта спалучаецца так, што ўлады вызначаюць месца для канцэрта і мітынгу — і на гэтым усё. То бок, яны жорстка абмяжоўваюць фармат святкавання, і любыя спробы выйсці за гэты фармат будуць прасякацца, пра што надоечы і казаў Лукашэнка.

# Пачаўся прыём матэрыялаў на Конкурс імя Аляксея Караля — 2018

**«Новы Час» сумесна з Саюзам беларускіх пісьменнікаў распачынае прыём матэрыялаў на конкурс маладых журналістаў імя Аляксея Караля.**

Вы любіце Беларусь, яе гісторыю і культуру, валодаеце беларускай мовай? Вы лічыце, што Беларусь павінна быць вольнай і дэмакратычнай краінай, дзе выконваюцца законы і паважаюцца правы чалавека? Вы ўпэўненыя, што вам ёсць што сказаць людзям? Вы думаеце, што ваша пакліканне — журналістыка? Але вы не ведаеце, з чаго пачаць? «Новы Час» запрашае вас прыняць удзел у конкурсе імя нашага галоўнага рэдактара Аляксея Караля, які адышоў у лепшы свет у верасні 2015 года.

Больш падрабязна пра ўмовы конкурсу чытайце на адмысловай старонцы на нашым сайце novychas.by. Вы таксама можаце пазнаёміцца з мінулагоднімі конкурснымі працамі і нашымі лаўрэатамі.

**УВАГА!** У гэтым годзе дадалася новая намінацыя — «найлепшы літаратурна-крытычны матэрыял», — намінанты і пераможца якой будуць вызначаны сакратарыятам ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».

Уручэнне ўзнагарод адбудзецца 29 мая 2018 года.

**ЗРАБІЦЕ СВОЙ ПЕРШЫ КРОК У «НОВЫ ЧАС». ПАДЗЯЛІЦЕСЯ ТАЛЕНТАМ! ЧАКАЕМ НА ВАШЫ МАТЭРЫЯЛЫ!**

# Беларуская АЭС больш не можа вытрымаць удар вялікага самалёта

**Намеснік міністра энергетыкі Беларусі Міхаіл Міхадзюк даў літоўскаму тэлеканалу LRT вялікае інтэрв'ю пра Беларускую АЭС.**

Літоўцаў цікавіла, ці зможа атамная станцыя вытрымаць удар самалёта. Міхадзюк адказаў — не, не зможа. «Сёння ў свеце няма ні адной станцыі — у свеце! — якая вытрымала б вялікі самалёт. Гэта такія капітальныя ўкладанні [у абарону] трэба зрабіць, што станцыя ніколі не акупіцца», — заявіў Міхаіл Міхадзюк.

Прагучыць дзіўна, але яшчэ ў 2015 годзе той жа Міхадзюк быў упэўнены ў тым, што АЭС здольная ацалець пасля падзення вялікага самалёта. Распавядаючы пра перавагі станцыі, ён заяўляў, што ступень яе надзейнасці дазваляе вытрымаць «падзенне самалёта з хуткасцю 215 м/с». А 215 м/с (774 км/г) — гэта хуткасць буйнога пасажырскага самалёта, а не «кукурузніка», які ў прынцыпе не лятаюць хутчэй за 300 км/г.

### Праекціроўшчыкі казалі пра вялікія пасажырскія самалёты

У тым, што Беларуская АЭС вытрымае падзенне пасажырскага самалёта, пераконвалі праектанты станцыі. У 2006 годзе, калі пытанне аб будаўніцтве яшчэ абмяркоўвалася ў грамадстве, а многія сумняваліся ў яе надзейнасці, прыклад з самалётам выглядаў асабліва эфектна. На малюнку, які ілюструе абарону будучай АЭС ад знешніх уздзеянняў, намаляваны не "кукурузнік", а самалёт з турбавінтавымі рухавікамі.

Сайт кампаніі «Атамбудэкспарт», якая ўваходзіць у структуру «Расатама», пераконвае ў надзейнасці сваіх АЭС інфаграфікай з яшчэ больш вялікім самалётам — «вагой 400 тон, з хуткасцю 200 м/с». Гэта супастаўна з максімальнай узлётнай вагой аднаго з самых цяжкіх пасажырскіх «Боінгаў» — «Boenig 747-400ER» важыць 412 тон. Праўда, максімальная ўзлётная вага цяжкага «Airbus», накшталт А380-900, перавышае 550 тон — гэта істотна больш заяўленай трываласці БелАЭС.

### Што кажуць афіцыйныя дакументы Беларускай АЭС?

На сайце www.belaes.by можна знайсці дзве рэдакцыі справаздачы аб ацэнцы ўздзеяння БелАЭС на навакольнае асяроддзе. У абедзвюх — і ў папярэдняй, і ў фінальнай — слова «самалёт» згаданае тройчы. Два з трох разоў гэта проста самалёт. І толькі адзін раз гаворка вядзецца пра падзенне «невялікага самалёта».

Сайт РУП «Беларуская атамная электрастанцыя» паведамляе канкрэтныя лічбы — і яны на парадак больш сціплыя, чым тыя, якімі пераконвалі нас у надзейнасці БелАЭС праекціроўшчыкі. Там сказана, што станцыя вытрымае падзенне самалёта вагой у 20 тон.

### Вытрымае — не вытрымае. Гадаем на АЭС

Зрэшты, кіраўнік групы БелАЭС Мікалай Груша ў 2016 годзе сцвярджаў, што станцыя разлічаная на пападанне «прыкладна на 7 тон баявога самалёта з канцэнтраванай масай», але вытрымае і падзенне самалёта масай у 200 тон. Бо «гэта маса, якая разгрупаваная ў маторных адсеках, паліўных баках». Спецыяліст падкрэсліваў, што верагоднасць падзення самалёта на Астравецкую АЭС нікчэмна малая:

«Да таго ж, краіна ведае, колькі самалётаў у суткі лётае, якія самалёты. Пры неабходнасці авіялініі змяняюць трасы… У нас будуць стаяць свае воінскія часткі… Да таго ж, што такое маса самалёта? Разлічана прыкладна на 7 тон баявога самалёта з канцэнтраванай масай. Калі казаць пра самалёт «Боінг» масай 200 тон — гэта маса, якая разгрупаваная ў маторных адсеках, паліўных баках… Гэта не тая нагрузка на адзінку плошчы, якая не дазволіла б абалонцы вытрымаць», — казаў Мікалай Груша.

**Паводле euroradio.fm**

# Як прэсуюць у Магілёўскай калоніі №15: поўная ізаляцыя і пагроза новага тэрміну

**Асуджаны Пётр Кучура, які адбывае пакаранне ў Магілёўскай папраўчай калоніі №15, цягам двух тыдняў атрымаў ад адміністрацыі ўстановы тры спагнанні.**

Цяпер яго можа чакаць альбо пераход у турму, альбо ўзбуджэнне крымінальнай справы па арт. 411 Крымінальнага кодэкса (Злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы).

Паводле яго жонкі, Людмілы Кучура, траўля мужа пачалася менавіта пасля стварэння петыцыі за перадачу паўнамоцтваў Дэпартамента выканання пакаранняў Міністэрству юстыцыі. Занепакоенасць у адміністрацыі калоніі выклікала тое, што раскрылася інфармацыя пра катаванні і неаказанне медыцынскай дапамогі ў калоніі №15, якія прывялі да некалькіх смерцяў, у тым ліку жонкі аднаго з асуджаных падчас працаглага спатканння.

Паводле слоў Людмілы Міхайлаўны, начальнік ПК №15 Аляксей Лазаранка і яго намеснік па рэжымна-аператыўнай працы Аляксандр Слесараў прад'явілі прэтэнзіі Пятру Кучуры аб перадачы жонцы гэтай інфармацыі. Пасля чаго на яго пачаўся ціск: спачатку яму абвясцілі спагнанне нібыта за самаробны кіпяцільнік, а потым перавялі ў ШІЗА.

«Кіраўніцтва калоніі трымае яго ў поўнай ізаляцыі: яму не дазваляюць тэлефанаваць родным, не выпускаюць з калоніі лісты. Выключэннем стала хіба што паштоўка з кароценькім тэкстам, адпраўленая 14 сакавіка. І гэта сведчыць аб тым, што пошта працуе спраўна, а лісты, напісаныя да гэтай даты, у лютым і сакавіку, проста не дасылаюць», — распавяла праваабаронцам Людміла Кучура.

**Паводле spring96.org**

# Паведамляць пра тых, хто жыве не па сродках? Запісвайце адрасы!

Святлана МЯЦЁЛКІНА

**Журналістаў «Салідарнасці» натхніла незвычайная ініцыятыва падатковай па пошуку тых, хто хавае даходы, і яны вырашылі дапамагчы.**

«Грамадзяне, якія маюць інфармацыю аб фізічных асобах, якія аказваюць паслугі без выплаты падаткаў (нелегальна), могуць паведаміць пра гэта штодня з 09.00 да 18.00 па тэлефонах ...» — заклікае падатковая. І, вядома, дае тэлефоны, куды тэлефанаваць, калі чыёсьці жыццё «не па сродках» не дае вам спакою.

Прычым гэта не першая падобная акцыя па «здачы нядобрасумленных грамадзян». Раней такім чынам падаткавікі шукалі нелегальных таксістаў і тых, хто здае кватэры і гаражы без дамовы.

Цяпер вось прыйшоў час нелегальных працаўнікоў. Праўда, такое і раней было. Папросту раней нелегальных працаўнікоў адшуквалі пад іншай назвай — «дармаеды». І з усімі вынікаючымі наступствамі ў выглядзе падатку. Зараз, каб не шукаць «дармаедам» афіцыйную працу, улады сталі называць іх самазанятымі. А каб пры гэтым не застацца ў страце, вырашылі такіх тэрмінова выявіць і раскулачыць. Адчуваеце розніцу?

Але толькі не там шукаюць падаткавікі тых, хто жыве не па сродках. Ім бы не на тэлефоне сядзець, чакаючы званка ад бабулі Зіны, якая заўважыла, як яе сусед набыў у краме палку сыравэнджанай каўбасы, хоць вось ужо 5 гадоў як скарочаны са збанкрутавалага прадпрыемства. І не чакаць, калі дзядзька Пеця заплаціць штраф за тое, што за 100 долараў адрамантаваў у сваім гаражы сябру аўтамабіль.

Ёсць значна больш эфектыўны спосаб папоўніць падатковую скарбонку. І мы з задавальненнем падкажам, па якіх адрасах выязджаць.

Знайсці гэтых людзей нескладана. Дастаткова наведаць некалькі элітных катэджаў Драздоў, Вяснінкі і іншых раёнаў, дзе атабарыліся нашы чыноўнікі. Паверце, вас чакаюць дзіўныя адкрыцці!

Ды і нам было б цікава даведацца, дзе так добра «падпрацавала», напрыклад, намеснік старшыні Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Мар'яна Шчоткіна, што здолела пабудаваць сабе катэдж, на які сярэдняму беларусу без ежы і вады давядзецца адкладаць 184 гады? Ці што за вагоны па начах разгружаў уладальнік катэджа ў Драздах віцэ-прэм'ер Васіль Жарко, што здолеў пабудаваць сабе вялізны дом (акрамя яшчэ аднаго існуючага), на які ўсё той жа беларус павінен збіраць паўтара стагоддзя?

**Пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Шчасце — не ў рэйтынгах

Сяргей САЛАЎЁЎ



Фота www.lifesecrets.in.ua

**Жыццё — яно стракатае. Калі на мінулым тыдні ў нас былі пэўныя падставы для аптымізму, гэты тыдзень вяртае нас у рэальнасць. Але без аптымізму, расчараванняў, радасці, жыццё — і не жыццё зусім.**

Усаматараў замежнага шопінгу зноў кепская навіна. Услед за Польшчай Літва збіраецца абмежаваць гандаль у супермаркетах выходнымі днямі. Як паведамляе delfi.lt, міністр сацыяльнай абароны і працы Лінас Кукурайціс 20 сакавіка сустрэўся з кіраўніком Літоўскай асацыяцыі гандлёвых кампаній, а таксама Літоўскай федэрацыі бізнесу, дзе ішло абмеркаванне пытання аб працы ў выходныя дні.

Парламент Літвы ўжо разглядаў гэта пытанне. У 2016 годзе былі прапанаваныя змены ў Працоўны кодэкс краіны на забарону працы крамаў у святочныя дні. Аднак тады парламентарыі так і не здолелі зацвердзіць законапраект.

Як падкрэсліў Кукурайціс, калі рашэнне будзе прынятае, то змены адбудуцца не на ўзроўні закону, а праз сацыяльныя дамоўленасці і кантракты. А кіраўнікі буйных гандлёвых цэнтраў Літвы праводзяць адмысловае апытанне сярод супрацоўнікаў, ці згодныя яны выходзіць на працу ў выходныя.

І тут магчымыя варыянты. Бо нікому — ні кіраўніцтву гандлёвых сетак, ні іх працоўным — грошы губляць не хочацца. Па словах гендырэктара кампаніі «Maxima» Крысціна Мэйдэ, калі супрацоўнікі выкажуцца за дадатковыя выходныя, гандлёвая сетка прыслухаецца да іх. Аднак дагэтуль такіх праблем не ўзнікала, а жадаючых працаваць у гэтыя дні заўсёды хапала.

Так што, хутчэй за ўсё, зменаў у працы ўлюбёных нашымі пакупнікамі «Акрополісе» і «Ікеі» не адбудзецца. Але ўсё ж сітуацыя дзіўная. Бо літоўцы, як і мы, мяжуюць з Польшчай, і павінны былі ўлічыць іх негатыўны досвед.

Галоўнае, канешне, каб у нашых грамадзян былі грошы — і на еўрасаюзаўскія візы, і на шопінг у той самай Літве. А грошай застаецца ўсё менш і менш. У нас іх аджымаюць пакрысе.

Мабільны аператар velcom павялічвае тарыфы на мабільную сувязь. У апошні раз кошт мабільнай сувязі velcom змяняўся год таму — 12 красавіка 2017 года. Тады падаражанне склала 9% і закранула большасці паслуг. Зараз паведамляецца, што падаражанне не перавысіць 3%. Стала большай абаненцкая плата, таксама вырас кошт выходных выклікаў, мабільнага інтэрнэту, SMS, MMS і іншых паслуг.

Рост, пагадзіцеся, нязначны, і не апераджае афіцыйную інфляцыю. Аднак усё роўна не вельмі добрая навіна — асабліва таму, што рэальныя заробкі ў нас не растуць.

Сінхронна з velcom і на тыя ж 3% з 1 красавіка павялічвае тарыфы «Белтэлекам». Як гаворыцца на сайце кампаніі, у асноўным павышэнне закране тэлефонную сувязь і інтэрактыўнае тэлебачанне Zala. Доступ у інтэрнэт па тарыфах «Ясна» застанецца без зменаў — і на тым дзякуй.

Беларуская чыгунка таксама падымае кошт квіткоў. Праўда, міжнародных ліній гэта не тычыцца. З 20 сакавіка ў Беларусі падаражэў праезд у цягніках гарадскіх ліній (2–6% у залежнасці ад тарыфнага пояса) і рэгіянальных ліній эканомкласа (24%). Акрамя таго, з 1 красавіка падаражэе праезд у цягніках рэгіянальных ліній бізнес-класа (24%) і міжрэгіянальных ліній (32%).

Гэтая навіна ўзрушыла насельніцтва больш, чым падаражанне сувязі. Зразумела, чаму. Хоць мы і атрымалі «бонусны месяц» зімы ў сакавіку, але ж і зіма калі-небудзь скончыцца. Наперадзе — пасяўная, Вялікдзень, Радаўніца, майскія святы... І ўсе паедуць займацца адвечным беларускім фетышам — бульбу саджаць.

Але не толькі ў бульбе справа. Справа ў справядлівасці. Багата каментатараў абураюцца: падвышэнне коштаў адбылося пасля таго, як улады прыцiснулі «нерэгулярных перавозчыкаў». То бок, людзей пазбавілі зручных для іх маршрутак, і на гэтым фоне палянуюць народ абдзерці — менавіта такія меркаванні пераважаюць у сацсетках.

Падавалася б, насамрэч змены не вельмі балючыя — падаражанне праезду ў электрычках складае ад 2 да 6 капеек за квіток. Аднак калі пералічыць гэтыя капейкі на пасажырапаток... Нездарма кажуць: «Капейчына да капейчыны — вось і рубель».

І, як заўсёды, пытанне: куды пойдуць гэтыя грошы?

Аляксандр Лукашэнка падчас сустрэчы з творчай моладдзю ў Беларускім дзяржаўным маладзёжным тэатры 20 сакавіка сказаў, што ён быў вельмі ўсцешаны працай над дэкрэтам пра лічбавую эканоміку, і назваў той працэс прыкладам творчага падыходу у сваёй працы. А таму задумаўся пра тое, каб стварыць міністэрства лічбавай эканомікі. «Хутчэй за ўсё, я такое рашэнне падтрымаю», — дадаў ён.

Заява, мякка кажучы, шакуе і выклікае сумневы ў тым, што кіраўнік краіны «творча падыходзіў» да таго дэкрэту. Бо лічбавая эканоміка, шчыра кажучы, скіраваная на «дэгуманізацыю» працы. Гэта адкрытыя базы дадзеных замест клеркаў, якія выдаюць даведкі. Гэта запіс да доктара праз інтэрнэт і лічбавыя гісторыі хваробы, што пазбаўляе бальніцы і паліклінікі рэгістратур. Гэта безнаяўныя разлікі і карткі, якія скарачаюць колькасць касіраў. І пошта неаднаразова скардзілася, што людзі не пішуць лісты асадкамі — усё больш мэйлы...

А ў нас у выніку лічбавай эканомікі ствараецца цэлае міністэрства! То бок, не скарачаецца, а павялічваецца колькасць чыноўнікаў! Парадокс.

Зразумела ж, гэтым чыноўнікам трэба плаціць заробак. Прычым, не ў крыптавалюце, а ў беларускіх рублях.

І яшчэ на тыдні, аднačасова з днём вясенняга раўнадзенства незаўважаным прайшоў Міжнародны дзень шчасця. Гэтым днём ААН абвясціла 20 сакавіка, адзначаючы, што «імкненне да шчасця з'яўляецца неад'емным жаданнем кожнага чалавека на планеце».

Кожны год Інстытут даследавання шчасця, які знаходзіцца ў Капенгагене, складае рэйтынг самых шчаслівых краін свету. Згодна гэтаму рэйтынгу, беларусы за год сталі менш шчаслівымі. Нашая краіна трапіла на 73-е (са 156) месца, а ў мінулым годзе мы былі на 67-й пазіцыі.

Краіны, з якімі мяжуе Беларусь, апынуліся больш шчаслівымі — за выключэннем толькі ваюючай Украіны, якая трапіла на 138-е месца.

Але паняцце шчасця ўсё ж у кожнага сваё. І рэйтынгамі гэта не памераеш.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Мікалай Статкевіч



**Нягледзячы на тое, што Мінгарвыканкам забараніў шэсце ў дзень стагоддзя БНР, экс-кандыдат у прэзідэнты і адзін з лідараў БНК збіраецца на акцыю.**

Мікалай Статкевіч перадаў сталічным уладам ліст з паведамленнем пра маючую адбыцца акцыю. «У адпаведнасці з правам, гарантаваным артыкулам 35 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і падпісанымі нашай краінай міжнароднымі дамовамі, паведамляю пра намер Беларускага Нацыянальнага Кангрэсу правесці 25 сакавіка Марш годнасці і свабоды, прымеркаваны да сотай гадавіны абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі», — гаворыцца ў дакуменце.

Статкевіч падкрэсліў, што ў Беларусі адсутнічае законна абраны парламент і, адпаведна, легітымная працэдура рэалізацыі канстытуцыйнага права на свабоду мітынгаў і дэманстрацый. Таму, у адпаведнасці з прынятай у суседніх краінах практыкай, ён паведаміў аб намеры правесці Марш годнасці і свабоды за пяць дзён да яго пачатку.

«Прапаную выканаць патрабаванні Канстытуцыі і забяспечыць бяспеку і беспрашкоднае правядзенне масавага мерапрыемства», — дадаў Статкевіч.

Нагадаем, што Мінгарвыканкам адмовіў прыхільнікам Статкевіча ў правядзенні 25 сакавіка шэсця ад плошчы Якуба Коласа да Опернага тэатра. Заяўнікаў папярэдзілі аб адміністрацыйнай адказнасці, калі яны будуць праводзіць акцыю без дазволу гарадскіх уладаў.

## Мітрапаліт Павел



**Беларуская праваслаўная царква не будзе праводзіць мерапрыемстваў, прысвечаных 100-годдзю БНР, і наогул супраць «спробаў палітызаваць малітву».**

Раней паведамлялася, што 25 сакавіка, у дзень 100-годдзя ўтварэння БНР, у кафедральным саборы Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі ў 10.00 пройдзе малітва за Беларусь. Імшу ўзначаліць мітрапаліт мінска-магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. Кіраўнік каталіцкай царквы адзначаў таксама важнасць даты стварэння БНР для Беларусі.

Tut.by спытаў у мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла, ці плануе памаліцца за Беларусь да 100-годдзя БНР Беларуская праваслаўная царква. «У нас штодня моляцца за Беларусь», — адзначыў мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Павал.

Што ж да асобных мерапрыемстваў з нагоды стварэння БНР, то БПЦ іх праводзіць не плануе. «Гэта спроба палітызаваць малітву, мы супраць гэтага, — распавёў кіраўнік Беларускай праваслаўнай царквы. — Ці можна выйсці на пляцоўкі, на трыбуны, можна заклікаць людзей, але ў гэтым выпадку малітва будзе мець характар гвалту».

## Дзяніс Шунто



**Футбольны арбітраж АБФФ адхіліў апеляцыю ФК «Крумкачы» на адмову выдаць ім ліцэнзію на ўдзел у чэмпіянаце Беларусі–2018 у вышэйшай лізе.**

Прэс-служба АБФФ пракаментавала рашэнне футбольнага арбітражу адхіліць апеляцыю «Крумкачоў» пра нядопуск клуба да ліцэнзавання: «Падчас пасяджэння чальцамі Футбольнага арбітражу была разгледжана заява ТАА «Футбольны клуб «Крумкачы» ад 13.03.2018 аб аспрэчванні Акту рашэння Камітэта па клубным ліцэнзаванні АБФФ ад 26.02.2018 аб адмове ў разглядзе заявы на выдачу ліцэнзіі АБФФ «Вышэйшая ліга» на сезон 2018 года. Па выніках пасяджэння ў задавальненні заяўленых патрабаванняў ТАА «Футбольнага клуба «Крумкачы» адмоўлена».

У вышэйшай лізе «Крумкачоў» заменіць мінскае «Тарпеда». «Крумкачы» без праходжання ліцэнзавання могуць заявіцца толькі ў другую лігу.

Заснавальнікі «Крумкачоў» кажуць пра «беспрэцэдэнтнасць» выпадку. Было такое, што клубы паміралі і зніклі з футбольнай мапы краіны, аднак гэта першы выпадак, калі тое адбылося не па волі каманды, а па рашэнні чыноўнікаў.

Яшчэ летась Дзяніс Шунто казаў, што развітанне з вышэйшай лігай будзе азначаць смерць «Крумкачоў» як з'явы. І зараз ён павінен вырашыць, распускаць каманду альбо пачаць з нуля і ўсё ж заявіцца ў другую лігу чэмпіянату.




**Калі замежнік трапляе ў беларускую турму, а ён не звязаны з гісторыяй СССР, ГУЛАГу, нават кніжак пра такое не чытаў, ён разумее, што нават да асобаў, якія здзейснілі нейкае злачынства ці правапарушэнне, мусяць ставіцца па-чалавечы, не прыніжаць іх годнасць, не падвяргаць катаванням**

# Алана Сміта могуць затрымаць пасля выхаду з калоніі

Генадзь КЕСНЕР

**Грамадзянін Вялікабрытаніі Алан Сміт працягвае знаходзіцца ў беларускай калоніі агульнага рэжыму. Ён настойвае на тым, што не парушаў беларускага заканадаўства і не прызнае сябе вінаватым у спробе вывазу на Захад з Беларусі грамадзян трэціх краінаў. Паводле праваабаронцы Паўла Левінава, правы брытанца ў месцы пазбаўлення волі рэгулярна парушаюцца.**



Алан Сміт у судзе

Нагадаем, Алан Сміт быў затрыманы супрацоўнікамі беларускіх праваахоўных органаў напрыканцы верасня 2016 года быццам бы за арганізацыю незаконнай міграцыі замежных грамадзян у краіны Еўрапейскага саюза. Ён стасаваўся з грамадзянамі Іраку, якія знаходзіліся ў нашай краіне легальна і якіх затрымалі ў машынах грамадзян Беларусі. Праваахоўнікі палічылі, што гэтыя людзі хочуць незаконна перасекчы межы Беларусі ў заходнім накірунку. Павел Левінаў, які займаецца справай Сміта, адказаў на пытанні НЧ.

***— Чым абгрунтоўвалі сілавікі затрыманне паддадзенага Вялікабрытаніі Алана Сміта? Якія былі іх меркаванні?***

— Цяжка сказаць, я не магу залезці ў мазгі беларускіх праваахоўнікаў і адказаць, на чым яны грунтаваліся пры затрыманні. Я мяркую, яны кіраваліся тым, што наша краіна атрымлівае ад Захаду гранты на абарону ад незаконнай міграцыі, і трэба было прадэманстраваць сваю дзейнасць, паказаць грантадаўцам, што такая праца вядзецца, што, маўляў, мы паспяхова дзейнічаем.

***— У якіх умовах зараз знаходзіцца Алан Сміт?***

— Беларускія турмы — гэта спадчына савецкіх турмаў. Мы ўсе ведаем з прэсы, што тэрарыст Брэйвік скардзіцца на тое, што яму падаюць каву неналежнай тэмпературы — халодную, на нейкія іншыя ўмовы ўтрымання. Калі замежнік трапляе ў беларускую турму, а ён не звязаны з гісторыяй СССР, ГУЛАГу, нават кніжак пра такое не чытаў, ён разумее, што нават да асобаў, якія здзейснілі нейкае злачынства ці правапарушэнне, мусяць ставіцца па-чалавечы, не прыніжаць іх годнасць, не падвяргаць катаванням. Натуральна, апынуўшыся ў беларускіх месцах зняволення, замежны грамадзянін, у прыватнасці, Алан Сміт, зразумеў, што ён трапіў, так бы мовіць, папросту на нейкую іншую планету.

У судзе апеляцыйнай інстанцыі ён распавядаў пра тое, якім здзекам падвяргаецца, і ён не можа разумець, чаму такое адбываецца ў цэнтры Еўропы ў XXI стагоддзі. Калі Алан апынуўся ў папраўчай калоніі №3, я напісаў заяву, каб мне прадаставілі кароткатэрміновае спатканне з ім у сувязі з тым, што ў мяне ёсць падпісаная ім даверанасць на права прадстаўляць яго інтарэсы ў Камітэце ААН па правах чалавека, і мне было неабходна атрымаць ад яго дадатковую інфармацыю. Але мне было ў гэтым адмоўлена. З іншых крыніцаў, ад людзей, якія вызваліліся з калоніі, ад сваякоў іншых вязняў інфармацыя, якую распавёў Алан падчас судовага пасяджэння, пацвярджаецца.

У Алана на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь няма блізкіх сваякоў. Паводле нашага заканадаўства, перадачы, пасылкі, бандэролі, дробныя пакеты могуць накіроўваць тым, хто адбывае пакаранне, толькі блізкія родзічы. Ад сваякоў перадача мусіць быць уручана вязню, за выключэннем тых прадметаў, якія забароненыя для выкарыстання ў месцах пазбаўлення волі, а вось ад іншых грамадзян перадача ўручаецца па асабістым распараджэнні кіраўніцтва папраўчай установы. Я накіраваў Алану калядную прадуктовую 2-кілаграмовую бандэроль, там былі арэхі, сухафрукты, шакалад, але адміністрацыя вярнула гэтую бандэроль назад.

Я накіраваў Алану часопісы і газеты на спартовую тэматыку, дзве кнігі на англійскай мове, якія прыйшлі з Англіі, але адміністрацыя папраўчай калоніі адмовілася ўручыць Сміту і гэтую бандэроль ды вярнула мне яе назад. Калі была зроблена спроба перадаць Алану рэчавую перадачу, то частка гэтай перадачы не была прынятая, бо на майцы, якую перадалі Сміту, былі нейкія надпісы. То бок гэтак вырашылі зрабіць не з-за зместу надпісаў, бо ў іх ніхто не ўчытваўся, а толькі таму, што ўсе павінны быць у чорным, цёмным, аднолькавым, без усялякіх надпісаў. Вось такія незразумелыя ўмовы. Таксама было адмоўлена ў перадачы яму коўдры, хоць ён скардзіўся, што там не зусім камфортная тэмпература.

Алан скардзіўся таксама на стан здароўя, на неаказанне належнай медычнай дапамогі не толькі яму, але і іншым зняволеным. Ён скардзіўся на тое, што яго прымушаюць падпісваць нейкія паперы на рускай мове, а ён не разумее, што гэта, а перакладчыка яму не даюць. У Алана зараз ёсць праблемы з перапіскай, не ўсе лісты ад яго выходзяць і не ўсе лісты даходзяць да яго. Ёсць праблемы з тэлефоннымі размовамі, ужо больш за месяц сваякі за мяжой не маюць ад яго ніякіх звестак.

Ён фактычна мае права на кароткатэрміновыя і доўгатэрміновыя спатканні, але Алан — замежны грамадзянін, і для таго, каб прыехаць у Беларусь, яго сваякам патрэбная віза. І яшчэ не значыць, што пры адкрыцці візы яны адразу атрымаюць спатканне. Зараз ёсць надзея, што ў сакавіку ці красавіку, магчыма, яго наведае консульская служба амбасады Вялікабрытаніі, і мы зможам атрымаць нейкую дадатковую інфармацыю пра жыццё і стан здароўя Алана Сміта.

***— Колькі яшчэ яму знаходзіцца ў зняволенні?***

— Сміт быў асуджаны на два гады пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі агульнага рэжыму. Нягледзячы на тое, што ён адседзеў ужо больш за дзве траціны тэрміну і мог трапіць пад умоўна-датэрміновае вызваленне, ён адмаўляецца прызнаваць сваю віну ў інкрымінаваных яму дзеяннях. Такім чынам, ён не раскайваецца ў тым, чаго не здзяйсняў, таму на гэтай падставе яго ўмоўна-датэрмінова не вызваляюць.

Але сітуацыя з ім неадназначная. 28 верасня завяршаецца тэрмін ягонага зняволення. Але калі яму дазволяць выйсці на волю, то ён можа быць зноў затрыманы, бо ў яго адсутнічае віза, і ён фактычна незаконна знаходзіцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Таму, як я падазраю, у тэрмін ягонага пакарання, які завяршаецца 28 верасня 2018 года, Алан наўрад ці апынецца на волі, зноў будзе затрыманы і будзе чакаць дэпартацыі альбо на радзіму, альбо ў краіну, з якой ён прыбыў у Беларусь.

***Лісты (паштоўкі) можна накіроўваць Алану Сміту па адрасе:***

***Беларусь, 211300, Віцебская вобласць, Віцебскі р-н, п. Віцьба, ВУ ДВП «ВК №3», атрад №5.***



# Чалавек, якога ніхто не змог выкарыстаць



Алесь КІРКЕВІЧ

**Павел Аляксюк — адна з найбольш таямнічых асобаў сярод «айцоў» БНР. Чалавек, які меўся ўзначаліць урад у рэспубліцы Балаховіча, абвешчанай у Мазыры, але быў зацкаваны як «здраднік» учарашнімі паплечнікамі па беларускім руху яшчэ ў 1920-х.**

За прозвішчам Алексюка заўсёды цягнуўся шлейф фінансавых скандалаў ды абвінавачванні ў здрадзе на карысць палякаў. А яшчэ — гэта шлейф таямніцы: ён апынуўся ці не адзіным з масцітых палітыкаў 1917–1920-х гадоў, які сышоў у цень ды цалкам адышоў ад справаў. Сёння мы нават не ведаем года ягонай смерці і месца вечнага спачыну.

Хто ж ён: агент, карупцыянер, здраднік альбо таленавіты палітык, адзіны рэаліст і прагматык у «абойме» БНР? Дамо слова гісторыку і даследчыку беларускага руху **Андрэю Чарнякевічу**, з-пад пяра якога ў мінулым годзе выйшла кніга «Чужы сярод чужых. Павел Аляксюк і беларускія паланафілы».

## «Алексюка зашмат у беларускім руху»

***— Чаму ў якасці героя вы абралі Алексюка, а не, скажам, Ластоўскага ці Луцкевіча?***

— Я звярнуў увагу на асобу, якую 99 адсоткаў сучаснікаў залічылі да негатыўных персанажаў. Калі ўсе кажуць, што нейкі персанаж — квінтэсенцыя зла — гэта выклікае цікавасць. З іншага боку, Алексюка ў прынцыпе зашмат у беларускім руху. Ён быў паўсюль. Прычым, не на другасных пасадах, але ў якасці пачынальніка, арганізатара, заснавальніка.

Беларускі Гродна шмат у чым пачынаўся акурат з яго. Ён быў адным з арганізатараў, духоўным бацькам гуртка беларускай моладзі «Наша хатка» ў 1909–1910 гадах. Быў карэспандэнтам «Нашай Нівы» па Гродзеншчыне. Быў адным з арганізатараў беларускага гуртка ў Пецярбурзе, дзе ўдзельнічаў у першай пастаноўцы «Паўлінкі». І вось гэтага «першага» накапілася вельмі шмат яшчэ да 1918 года і абвяшчэння БНР. Нават з Антонам Луцкевічам ён здолеў пасварыцца яшчэ ў 1915 годзе.

***— А з-за чаго пасварыліся?***

— Невядома. Найхутчэй, нейкія амбіцыі, розныя бачанні. Магчыма, нейкія фінансавыя плыні — гэтае пытанне суправаджала Алексюка на працягу ўсяго жыцця... А ўжо ў 1917-м Аляксюк выступае адным з першых на беларускамоўным мітынгу ў Мінску, выступае ў Гарадской думе, спрачаецца з Фрунзэ на сялянскім з'ездзе, едзе разам з Варонкам прадстаўляць беларусаў у Петраградзе перад Часовым Урадам Расіі, узначальвае выданні «Вольная Беларусь» і «Беларускі шлях», выдавецтва «Заранка».

Больш за тое, напрыканцы 1917 года як беларускі прадстаўнік ён едзе ва Украіну з даручэннем арганізоўваць беларускія часткі, а пасля прывезці ўкраінскія грошы. І гэта ўражвае. Але разам з тым, у Алексюка ёсць рэнамэ, якое ўжо склалася ў нашай гістарычнай літаратуры: здраднік, паланафіл, агент Дэфензівы — усё самае кепскае.

## Прамаўляў як патрыёт, а не сацыяліст

***— Выглядае вельмі энергічным чалавекам...***

— Так, безумоўна. Энергічны чалавек, прагматык, палітычны менеджар і піяршчык. Пры ўсім гэтым, у ягоных прамовах шмат той рамантычнай мовы, да якой мы ўжо прызвычаіліся. На той час гэта было выключэннем. Большасць беларускіх дзеячаў размаўляла мовай сацыялістычных лозунгаў, а ён прамаўляў як беларускі патрыёт. Ён звяртаўся да гістарычнай спадчыны, праводзіў паралелі... Ён запальваў і на Усебеларускім з'ездзе, і на іншых выступах.

***— То бок, яшчэ і харызматычны лідар?***

— Не ведаю, у сучаснікаў менавіта такое слова не гучыць. Але ягоныя прамовы цытуюцца. Характэрна, што ў канцы 1921 года, калі ягонае негатыўнае рэнамэ ўжо склалася, ён вырашае ехаць у Прагу на палітычную канферэнцыю. Там збіраюцца найперш эсэры, якія ўжо неаднойчы заявілі аб сваіх радыкальных поглядах, а гэта ўжо час перманентнага канфлікту... Таму гэта місія хай і не смяротніка, але ён аддаваў сабе справаздачу, што едзе ў вельмі непрымальны стан. Луцкевіч не паехаў, а ён паехаў. І пачаў там казаць!

Па вяртанні з Прагі Аляксюк пачынае бэсціць не толькі эсэраў, што зразумела, але і Лявона Дубейкаўскага, таксама беларускага паланафіла. Чаму? Бо яму не патрэбныя былі канкурэнты. У прыватнасці, Аляксюк вінаваціць яго ў сімпатыях да Ураду БНР Ластоўскага, які падтрымлівала Літва, што адразу ж адштурхнула ад Дубейкаўскага польскіх партнёраў... Вось такі палітычны стыль.

## Вельмі таленавіты і... амаральны

***— Сама паездка — смелы крок, але падобныя сваркі, падаецца, вельмі характэрныя наогул для БНР, варта адно пагартаць архівы...***

— Уявіце сабе, што праз нейкі час гісторыку дастанецца перапіска ў фэйсбуку сучасных палітыкаў ці наша з вамі. Што яны пра нас падумаюць? Якая гэта частка нашага жыцця?.. Зноў жа, мы настолькі мала ведаем беларускіх дзеячаў, што пасля чытання іхных перапісак, першае, што прыходзіць у галаву, — гэта расчараванне. Маўляў, мы бачылі іх небажыхарамі, а тут — цалкам жыццёвыя рэчы. У выпадку Алексюка цікава, што яго ці не першым пачалі бэсціць публічна. Усё, што было напісана пра яго ў газетах напярэдадні выбараў у Сейм Сярэдняй Літвы — гэта чорны піяр.




**Калі ўсе кажуць, што нейкі персанаж — квінтэсенцыя зла — гэта выклікае цікавасць. З іншага боку, Алексюка нават зашмат у беларускім руху. Ён быў паўсюль. І не на другасных пасадах, але ў якасці пачынальніка, арганізатара, заснавальніка**

***— Раней такога не было?***

— Усе спрэчкі паміж Луцкевічам і Ластоўскім адбываліся прыватна. Пазней ужо ўсё гэта стала часткай публічнага жыцця, а ў часы «Грамады» расцвіло пышным цветам... Бачыце, і тут Аляксюк апынуўся першым. Агулам жа сучаснікі сыходзяцца ў дзвюх рэчах наконт Алексюка. Ён вельмі таленавіты і здольны ва ўсіх напрамках. Адначасна, цалкам амаральны. Прычым пра гэта кажуць людзі з розных лагераў і кірункаў.

***— Аляксюк браўся за безліч праектаў — выдавецтва, культура, войска, палітыка — ці ўсё атрымлівалася? Ці даводзіў нешта да канца?***

— Цяжка ацаніць. Усё, чым займаўся Аляксюк — гэта калектыўная праца. Ён падыходзіў да гэтага як да твору нацыянальнага руху, таму і за вынік нясе адказнасць не ён адзін. Добры прыклад — Беларуская вайсковая камісія (БВК). Менавіта Аляксюк здолеў атрымаць ад Пілсудскага дазвол на яе арганізацыю. Але ўжо арганізоўваў справу не ён. Яму супрацьстаялі і «эндэкі», якія непрыхільна ставіліся да Пілсудскага, і Рак-Міхайлоўскі, і беларускія эсэры, і той жа Сільвестр Ваявудскі, а з ім Другі аддзел польскага Генштабу. Таму ацэньваць БВК як няўдалы твор асабіста Алексюка — не зусім карэктна.

Працяг на стар. 6 »

## Грошы пайшлі на балахоўцаў

***— Яму часта закідаюць карупцыю: маўляў, браў грошы пад праекты, грошы зніклі, праекты развальваліся... Ці так было насамрэч?***

— З пункту гледжання права, нічога не даказана. Але абвінавачванняў было поўна, яшчэ ад з часоў беларускага гуртка. З грашыма яму не шанцавала ці... шанцавала, залежыць, як глядзець на справу. Нават апошняя ягоная справа завязаная на грошах. Гэта гісторыя таго, як ён у 1930 годзе падпаліў сваю маёмасць, каб атрымаць страхоўку, і трапіў пад суд, але быў апраўданы.

***— А што сталася з украінскім крэдытам на беларускае войска?***

— Яшчэ ў канцы 1917 года Аляксюк ад імя Цэнтральнай Беларускай Рады едзе ў Кіеў да Цэнтральнай Украінскай Рады. Прычым, едзе не проста за грашыма, а за грашыма для арганізацыі беларускіх аддзелаў. Гледзячы па ўсім, грошы ён атрымаў, але па вяртанні ў Мінск яго чакала ўжо цалкам новая расстаноўка сілаў. Паміж Радай Усебеларускага З'езду і Аблвыкамзахам адбыўся канфлікт, бальшавікі арыштоўваюць і ўкраінцаў, і беларусаў, у тым ліку Езавітава.

Каму аддаць грошы ў такой сітуацыі? Для яго, відаць, гэта быў момант выбару. Ён палічыў, што даваць грошы Язэпу Варонку і «левым» на невядома што не варта. Згодна маёй думцы, ён грошы выкарыстаў для беларускай справы, на выданне «Новага шляху» ды іншага. Так ён стаў арганізатарам розных праектаў: у яго быў для гэтага рэсурс. Часта мы дапускаем, што ўсё гэта рабілася за кошт Скірмунта, але ў таго ў 1918 годзе грошаў наўпрост не засталося. А ў Алексюка яны былі.

***— І гэта не адзіны выпадак?..***

— Вельмі падобная гісторыя пазней сталася з касай БВК. Аляксюк прывозіць чарговыя грошы на войска ў Мінск, а сітуацыя за час яго адсутнасці зноў карэнна змяняецца. Тут застаюцца эсэры, Рак-Міхайлоўскі, гатовыя іх узяць... Але куды тое пойдзе? У лепшым выпадку, на прыватныя патрэбы, але ўлічваючы, што большасць іх сімпатызуюць бальшавікам, а Рак-Міхайлоўскі наогул пасля апынецца ў гродзенскім рэўкаме... Аляксюк вырашае ўсё па-свойму, грошы застаюцца ў яго.



**Станіслаў Булак-Балаховіч**

Але ў жніўні 1920-га ён пачынае ствараць Беларускі Палітычны Камітэт, актыўна дапамагае Балаховічу... Дапускаю, што грошы пайшлі на балахоўцаў. Ці засталося нешта Алексюку? Напэўна засталося. Але, зноў жа, гэта можна разглядаць як палітычную інвестыцыю. Гэта давала яму магчымасць больш-менш свабодна дзейнічаць, тым часам як большасць беларускіх дзеячаў пры адсутнасці грошай заставаліся ад некага залежнымі.

## Палітычны менеджар Балаховіча

***— Што можна сказаць пра гісторыю Алексюка, Балаховіча ды Палескі паход 1920-га года?***

— Балаховіч стаў беларусам, дзякуючы Езавітаву. Але Езавітаў на той момант паспеў знікнуць з поля зроку, яны разышліся. І тут надышоў момант, калі Балаховічу спатрэбілася палітычнае заплечча. Ён не быў у стане яго ствaрыць. У Латышонка ёсць узгадка, якая шмат што тлумачыць: Аляксюк ведаў Балаховіча яшчэ да ўсіх гэтых падзеяў. А значыць, ім лёгка было знайсці агульную мову. Аляксюк прапанаваў яму палітычную схему, а Балаховіч наўпрост дапасаваў яе да сябе.

Стварэнне Беларускай дзяржавы ў Мазыры ў лістападзе 1920 года — гэта кульмінацыя паходу. Уявіце, Аляксюк з 1909 года выношваў у сабе беларускасць, пасля яму ўсе запярэчвалі, адсоўвалі, бэсцілі. А тут — шыкоўная магчымасць пачаць усё з чыстага ліста. Так у Мазыры паўстае Беларусь. Але калі на нейкі момант сабе ўявіць, што бальшавікі саступілі, а ў Балаховіча з Алексюком атрымалася, мы б займелі адзіны магчымы сцэнар незалежнай Беларусі на той момант. І Аляксюк быў бы там прэм'ерам ці віцэ-прэм'ерам пры Балаховічы.

***— Ёсць нават думка, што ў такім выпадку Беларусь перажыла б эпоху аўтарытарызму яшчэ ў 1920-я...***

— Развагі пра тое, што Балаховіч — тагачасны Лукашэнка — гэта, безумоўна гульня. Але гульня, якая дазваляе зразумець гісторыю. У іх шмат чаго агульнага, праўда. Гэта найперш стаўленне да палітычных дагматаў, якія можна выкарыстоўваць для сваёй карысці, для ўлады. Яны хочуць і рэалізуюць уладу. Дарэчы, Аляксюк быў тады адным з нешматлікіх палітыкаў, якія мелі волю да ўлады. Таксама, як Балаховіч, як Лукашэнка.

## Рэдактар баяўся, што жонка Алексюка яго застрэліць...

***— Ці вядома нешта пра сям'ю Алексюка?***

— Гэта вельмі драматычная гісторыя. Ягоная малодшая сястра была рэдактаркай гродзенскай газеты «Зорка». У канцы 1919 года яна нават атрымала ўзнагароду БНР за тое, што здолела перайсці ўкраінска-бальшавіцкі фронт і перанесці вэксаль на частку ўкраінскіх грошай. Пазней яна яшчэ раз узгадваецца як адзін з кіраўнікоў партызанскіх атрадаў «Зялёнага Дубу» ў 1921 годзе. Пазней, як і большасць Алексюкоў, яна губляецца.

Жонка Алексюка была літоўкай. Яны ажаніліся напярэдадні Першай сусветнай вайны. Варта памятаць, што Аляксюк — адзін з першых перакладчыкаў з літоўскай на беларускую мову. Разам з тым, ад 1921 года Аляксюк, як прыхільнік Польшчы, стаў ворагам Літвы №1 з ліку беларускіх дзеячаў. Ёсць згадка, як ягоная жонка прыйшла ў выдавецтва аднаго часопіса ў Вільні, а рэдактар-літовец баяўся, што яна яго застрэліць: сачыў увесь час за ейнай рукой.



**Геаічны вобраз балахоўца сёння набывае папулярнасць.** Фота istpravda.ru

> **Развагі пра тое, што Балаховіч — тагачасны Лукашэнка — гэта, безумоўна гульня. Але гульня, якая дазваляе зразумець гісторыю**

***— У іх былі дзеці?***

— Ягонага сына напаткаў трагічны лёс. Вітольд Аляксюк, вучань адной з віленскіх каталіцкіх семінарыяў, у 1926 годзе прыехаў да бацькоў у Навагрудак і застрэліўся. У прэсе пісалі, што ён выпадкова стрэліў сабе ў галаву, але, улічваючы моду на самагубствы сярод моладзі ў той час, магло быць і па-іншаму. Магіла Алексюка-малодшага дагэтуль захавалася на каталіцкіх могілках у Навагрудку.

Цікавы і гродзенскі след Алексюкоў. Старэйшая сястра Яўгенія была жонкай аднаго з прадстаўнікоў гродзенскага старастата. Згодна дакументам польскай выведкі ад 1921 года, і яна, і ейны муж праходзяць як прамоўтары беларушчыны. Муж памёр у першай палове 1920-х гадоў, жонка невядома ці засталася, ці з'ехала. Ёсць і іншыя згадкі пра Алексюкоў, але невядома, ці тое крэўныя, ці з адным прозвішчам. Наогул жа, усе яго сваякі — гэта энергічныя і яскравыя асобы, якія самі выскокваюць на старонкі гістарычных дакументаў.

## Данясенні на Алексюка пісаў сам Аляксюк...

***— Усё ж такі, ці быў Аляксюк кадравым супрацоўнікам польскай выведкі? Ці праўдзівыя абвінавачванні супраць яго з боку беларускіх дзеячаў?***

— Дакладна можна сказаць, што ў Алексюка, у адрозненне ад іншых цалкам падкантрольных асобаў, не было тэчкі ў Другім аддзеле польскага Генштабу. Ёсць тэчкі і на Ладнова, і на Зямкевіча — яны дакладна супрацоўнічалі. З іншага боку, ён дакладна карыстаўся ўплывамі, і гэтыя ўплывы выкарыстоўваў. Але шмат што было на асабістым узроўні. Гэта цікавая палітычная гульня...

Дзіўна, але ў часы Савецка-польскай вайны 1920 года, калі ў Польшчы ішла канкурэнцыя паміж рознымі сіламі, «паланафіл» Аляксюк быў у контрах з Другім аддзелам. Пра гэта сведчыць той момант, што ў 1921 годзе Дэфензіва сачыла за Алексюком, але... у гэтым увесь Аляксюк! На матэрыялах выведкі, якія захоўваюцца ў Цэнтральным вайсковым архіве Польшчы, ёсць вельмі цікавая нататка алоўкам, напісаная адным з аналітыкаў Другога аддзелу: «У мяне вельмі моцныя падазрэнні, што гэтыя данясенні на Алексюка пісаў сам Аляксюк...»

***— Я разумею, што гэта даволі не тыповы фармат стасункаў...***

— Такіх беларускіх дзеячаў вельмі мала, насамрэч. Усе прадстаўляюцца альбо ахвярамі, альбо апантанымі ідэяй, а гэта быў чалавек, здольны самастойна мацаваць свой лёс. Столькі разоў яго ламала праз калена, столькі разоў яго публічна праклінали... а ён штораз вяртаўся, як птушка-фенікс. Алексюка не здолеў выкарыстаць ніхто. А ён — выкарыстаў шмат каго.

## Падчас вайны з ім магло быць усё, што заўгодна...

***— Якім чынам Аляксюк сышоў з палітычнай гонкі?***

— У Заходняй Беларусі на той момант ужо ўсё «пасыпалася». Засталіся камунізаваныя рэшткі «Грамады», нешта ад хадэкаў, розныя маргінальныя праекты... Ва ўсё гэта ён ужо не ўпісваецца, адыходзіць ад беларускіх справаў. І ў 1931-м ён арганізоўвае хіба самую бліскучую гульню: знікае з грамадскага жыцця. З таго, што можна адсачыць, з'яджае ў Острув Мазавецкі. У 1944 годзе ці пазней паглыбляецца яшчэ далей у карэнную Польшчу.

Год і месца ягонага пахавання невядомыя. Я вырашыў для сябе не працягваць пошукі ў гэтым кірунку, скончыць кнігу. Гэтае зніжненне — ягонае права на забыццё. З іншага боку, калі недзе яшчэ захаваўся ягоны архіў... гэта была б бомба! Ва універсітэце вучаць, што гісторыю чалавека трэба заканчваць ягонай смерцю. Але 1931 год — канец менавіта ягонай палітычнай біяграфіі.

***— Няўжо Аляксюк ніяк не засвяціўся ў гады Другой сусветнай вайны? Няўжо не вярнуўся ў Беларусь?***

— З таго, што я ведаю пра гэтага чалавека, дапускаю, што ён вяртаўся. Усё, што заўгодна магло быць. Магчыма, Аляксюк недзе ўдзельнічаў, прычым актыўна. Я не здзіўлюся, калі знойдуцца дакументы пра яго ўдзел у АК альбо ў паваенным польскім СБ. А можа, у 1931 годзе ён зрабіў для сябе нейкую катэгарычную выснову і шчыра ад усяго адышоў.

## Пячатка з сонцам па-над хвалямі

***— На вокладцы кніжкі мы бачым разбітую рамку з партрэтам Алексюка, а зверху — адбітак падэшвы. Гэта стаўленне аўтара да героя?***

— Такую вокладку мне зрабіў выдавец, але трапіў у самую сутнасць. І падэшву, і разбіты партрэт можна інтэрпрэтаваць зусім па-рознаму. Можна трактаваць як вобраз, збэшчаны сучаснікамі і нашчадкамі. А што за гэтым партрэтам? Што ўвасабляе гэты чалавек?.. Я вельмі хачу, каб выснову рабіў чытач.

Ну і апошняе: калі Аляксюк пісаў у рэдакцыю «Нашай Нівы» лісты ў 1910 годзе, нешта па-беларуску, нешта па-польску, на сваіх капэртах ён заўжды пазначаў на зваротным адрасе: «Беларусь». То бок, ён яшчэ тады дакладна вызначыў прыналежнасць свайго гораду, а пісаў ён з Гродна. Дарэчы, на лістах была і ягоная асабістая пячатка: узыходзячае сонца па-над хвалямі. Можна сказаць, што Аляксюк прыдумаў і частку сучаснага беларускага гербу. Але гэта ўжо жарт.

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №3 (139)
(сакавік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

## Змест



# Напачатку была свабода

## «Змагайся і стань вольным, Беларускі Народ!»

Янка КУПАЛА

…Мы жадаем ад душы, каб як найхутчэй сыны беларускія самі сталі пад сваім беларускім сцягам бараніць вольную і незалежную Беларусь.

…У Менску закіпела праца. Арганізаваўся Беларускі нацыянальны камітэт, пачала выходзіць штодзённая беларуская газета, а 12 лістапада была адкрыта сесія Рады БНР. Здавалася, што ўсё пойдзе добра. Але выйшла не тое…

…Толькі поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу.

На беларускай зямлі было і цяпер ёсць шмат фальшывых прарокаў, шмат рэнегацкіх душ, што за лыжку поліўкі з чужой міскі западаюць сябе і свой народ у рабства чужынцам, але гэтага няма чаго баяцца… Будзем верыць, што і ў нас, беларусаў, прыйдуць новыя людзі, новыя прарокі і будуць па-божаму над фальшывымі прарокамі і прадажнымі душамі суды судзіць… З квяцістымі сонечнымі думкамі, з нязломнай верай у лепшую долю і волю пойдзем наперад і наперад пад святым сцягам вольнай Беларусі.

Змагайся і стань вольным, Беларускі Народ!

**1919–1920 гг.**




## Ніл Гілевіч: «І запануе воля»

**Урывак з перадачы Міхася Скоблы «Вольная студыя» (Радыё Свабода)**

Ніл Гілевіч: «<…> У 1991 годзе на вераснёўскай сесіі назва дзяржавы «Рэспубліка Беларусь» была зацверджаная, герб «Пагоня» быў зацверджаны, бела-чырвона-белы сцяг быў зацверджаны. Назву сталіцы не зацвердзілі. Як я як старшыня парламенцкай камісіі і дакладчык па гэтых пытаннях ні даказваў, што трэба «Менск» зрабіць, што «Мінск» нам насадзілі чужакі, — не прайшло. А святы зацвярджаліся на наступнай сесіі, у кастрычніку. І мне зноў выпала быць дакладчыкам. У праекце закона была дата 25 сакавіка — як Дзень Рэспублікі. І не было ў тым спісе 7 лістапада. Бальшыня дэпутацкага корпуса, камуністы, былі пакрыўджаныя, абражаныя, і яны пачалі змагацца супраць 25 сакавіка і адначасова за тое, каб вярнуць 7 лістапада ў спіс дзяржаўных святаў. Урэшце не прайшло ні тое, ні другое <…>.

Я — за яднанне нацыі, за еднасць беларускага народа. Але пры адной катэгарычнай умове: яднанне павінна адбывацца на грунце нацыянальнай ідэі, свабоды, незалежнасці, суверэнітэту, пры ўмове вяртання нашай нацыянальнай сімволікі, сапраўднай дзяржаўнасці беларускай мовы. Але смешна гаварыць пра яднанне, стоячы на дыяметральна супрацьлеглых пазіцыях. У Беларусі сёння пры ўладзе знаходзіцца антынацыянальны, антыбеларускі рэжым. А як яго іначай назваць, калі з тыднямі па БТ не чую беларускай мовы, не бачу перадачаў, дзе б гаварылася праўда пра нашую гісторыю, у тым ліку й пра БНР, пра Акт 25 Сакавіка. А калі гэтага нічога няма, то якое можа быць яднанне? З кім? Усе народы ў свеце, наколькі я ведаю гісторыю, аб'ядноўваліся ўрэшце на грунце нацыянальнай ідэі. Нават калі знаходзіліся пад не самымі прагрэсіўнымі рэжымамі. Дык чаму мы не змагаемся за нацыянальныя інтарэсы?.. Давайце з гэтага пачнём. Па-за гэтым мне вельмі сумнеўнай здаецца любая палітычная дзейнасць — і правых, і левых. Нас можа з'яднаць толькі беларуская нацыянальная ідэя. Толькі з'яднаныя гэтай ідэяй, мы дойдзем да беларускай Беларусі.

Натхнёныя святлом Хрыстовай веры,
Мы выйдзем, вымкнем на прастор-разлог!
І грымнуць долу д'яблавы хімэры!
І блаславіць нас на змаганне Бог!
І запануе воля ў нашым стане,
Жыццё памкне свабодна, як рака.
І першым святам Бацькаўшчыны стане
Дзень Дваццаць Пятага Сакавіка!»

## «25 сакавіка — самая значная падзея ў нашай гісторыі»

Васіль БЫКАЎ

<…> Знакаміты акт 25 сакавіка 1918 года — самая значная падзея ў нашай гісторыі, у якой засярodзілася ці не ўся сутнасць нашай нацыянальнай ідэі. З вышыні мінулага часу добра ўжо відаць, што нават мала важна тое, ці дасягнутая заяўленая мэта. Для нас не меней важна, што яна была заяўленая — рашуча, па-дзяржаўнаму, на ўсю Беларусь і на ўвесь свет. Тыя, што вартыя яе былі пачуць, — пачулі, для іншых жа яна засталася без карысці. З тае пары стала зразумела, што менавіта гэтая мэта ёсць ключом да нацыянальнага шчасця і дабрабыту, што асабліва важнае ў наш ліберальны век.

Колькі будзе жыць нацыя, столькі будзе памятаць герояў 25 сакавіка, яго шараговых чыннікаў. І незалежна ад таго, ці хутка мы дамажэмся тагачасных мэтаў. А калі і не дамажэмся нават, дык мець тое на мэце тым болей важна заўсёды.

Таму: жыве Беларусь! — гукаю я сёння разам з тымі, хто пад бел-чырвона-белым сцягам абараняе на беларускай зямлі галоўнае права свабоды і незалежнасці. Вам, дарагія мае землякі, гонар і слава!

## «Святая свабода»

Вацлаў ЛАСТОЎСКІ

Напачатку была свабода, і свабода была ў руках народа, і народ быў свабодным.

Свабода была напачатку ў руках народа. Праз народ усё сталася, і без яго нічога не сталася. Народ быў незалежны, а свабода і незалежнасць былі радасцю людзей. І памяць аб страчанай свабодзе свяціць у паняволенні нашым, і няволя не пагасіла ў нас жадання свабоды…

У імя беларускага народа, за яго славу, шчасце і свабоду. Станься.

Ойча наш, каторы ёсць у небе, вярні нам волю і валадарства на зямлі нашай, даўно і цяжка паярэмленай. Хай не адымаюць чужынцы хлеб штодзённы ад вуснаў нашых дзяцей. Адпусці грахі нашым продкам, каторыя не ўмелі абараніць сваёй і свайго патомства свабоды…

Не ўводзь нас у спакусу падлегласці тым, што паярэмілі нас, але збаў нас ад чужацкай апекі.

Святая зямелька, Маці наша! Табе ў ахвяру складаем мы ўсе сілы свае цяпер і ў момант смерці нашай.

Веру ў Бацькаўшчыну нашу Беларусь і ў Народ наш, сына яе адзінага, каторы на свет прыйшоў свабодным…

Святая свабода, выражаная дзяржаўнай самаістасцю, ты наша пацяшыцелька і надзея, адзіная мэта і праўда наша, прыйдзі, усяліся ў нас і ачысці нас ад усякага рабства і збаў нас ад няволі.

**1926**

# Літаратурны конкурс да 100-годдзя БНР

**Саюз беларускіх пісьменнікаў абвясціў пра пачатак прыёму творчых прац на конкурс «Экслібрыс», які сёлета прысвечаны 100-годдзю Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Да ўдзелу запрашаюцца аўтары і аўтаркі ва ўзросце да 35 гадоў, якія пішуць творы на гістарычную тэматыку ў паэзіі, прозе, эсэістыцы, драматургіі. Да разгляду прымаюцца толькі тэксты, не апублікаваныя ў друку.

Абмежаванні па аб'ёме: разглядаюцца творы аб'ёмам да 1 аўтарскага аркуша (40 тысяч знакаў з прабеламі — для прозы і эсэістыкі; 700 радкоў для паэзіі).

У журы штогадовага літаратурнага конкурсу «Экслібрыс» сёлета ўвайшлі Уладзімір Арлоў, Ірына Багдановіч, Валерый Герасімаў, Вольга Іпатава і Анатоль Сідарэвіч.

Тэксты на конкурс можна дасылаць файламі ў фармаце .doc да 1 жніўня 2018 года на адрас sbp@lit-bel.org, пазначыўшы тэмай ліста «Экслібрыс».

У лісце мусіць быць наступная інфармацыя: імя, прозвішча, дата нараджэння ўдзельніка (удзельніцы), кантактны нумар тэлефона і e-mail.

Па выніках конкурсу мяркуюцца публікацыі ў часопісе «Дзеяслоў» і ў «Літаратурнай Беларусі».

**Прэс-служба СБП**

# Беларуская «Амерыканка»

**Кніжная серыя «Амерыканка» завяршае збор грошай на выданне культавых кніг у беларускім перакладзе. Падчас кампаніі ўдалося сабраць ахвяраванні на друк «Байцоўскага клубу» Чака Паланюка.**

Наступнай кнігай, якая атрымала шанец на друк, стала «Пенелапіяда» Маргарэт Этвуд. У выдання з'явіўся генеральны спонсар — Вашынгтонская філія Беларуска-Амерыканскага Задзіночання.

«Для Беларуска-Амерыканскага Задзіночання Вашынгтона (BAZA-DC) «Амерыканка» — важная падзея ў беларускай культурнай прасторы, — кажа каардынатарка збору сродкаў Аляксандра Мілянцей. — Сябры БАЗА сачылі за кампаніяй па зборы сродкаў на выданне серыі і вырашылі падтрымаць ініцыятыву перакладчыкаў, якія перастварылі творы паўночна-амерыканскіх аўтараў пра свабоду і чалавечую годнасць».

Сакавік у ЗША — месяц, прысвечаны ролі жанчын у гісторыі, і таму папулярызацыя твора канадскай пісьменніцы, паэткі і літаратуразнаўцы Маргарэт Этвуд на беларускай мове падалася беларускам (усе ўдзельніцы акцыі — жанчыны) выдатнай магчымасцю звярнуць увагу на гэту важную тэму.

У сваю чаргу, «Амерыканка» дасягнула адну са сваіх патаемных і важных мэтаў: кніжная серыя становіцца мастком, перакінутым цераз акіяны, злучаючы беларусаў па ўсім свеце. Перакладчыцы «Пенелапіяды» шчыра дзякуюць BAZA-DC за аказаную падтрымку.

# У Дзятлаве прыгадалі настаўніка і паэта



У Дзятлаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі адбылася літаратурная сустрэча, якую зладзілі Гарадзенскае аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў, Дзятлаўская суполка ТБМ і супрацоўнікі музея. Сустрэча адбылася з нагоды 85-годдзя з дня нараджэння дзятлаўскага паэта і настаўніка Міколы Грышана (1933–2016). На сустрэчу ў Дзятлава завіталі Юрка Голуб, Валянцін Дубатоўка, Аляксей Пяткевіч, Сяргей Чыгрын.

«Гэты чалавек усё жыццё размаўляў толькі на роднай мове, ён быў не проста настаўнік, а глыбока-творчы інтэлігент. Я яго ведаў даўно. Ён завочна вучыўся ў Гарадзенскім педінстытуце. Ён часта гасцяваў у мяне, нават начаваў, заўсёды чытаў свае вершы», — прыгадаў пра Міколу Грышана Аляксей Пяткевіч. «Мікола Грышан быў не толькі паэтам, але і публіцыстам, ён некалі напісаў і апублікаваў рэцэнзію на мой першы паэтычны зборнік вершаў «Шчырая Шчара», пісаў таксама матэрыялы на педагагічныя, гістарычныя і літаратуразнаўчыя тэмы», — адзначыў Сяргей Чыгрын. А Юрка Голуб успомніў той час, калі працаваў літкансультантам у «Гродзенскай праўдзе», куды дасылаў свае вершы паэт з Дзятлаўшчыны і яны друкаваліся на старонках абласной газеты...

# Прэмія «Дэбют»

**27 сакавіка а 19-й гадзіне ў «Грай-кафэ» (вул. Інтэрнацыянальная, 33) будуць названыя пераможцы прэміі «Дэбют». Музычны госць «Helious». Уваход вольны.**




Сёлета на перамогу прэтэндуюць наступныя кнігі:

**Проза**

Аліна Длатоўская. Ген зямлі.

Зараслава Камінская. Русалкі клічуць.

Іван Стома. Па жывых сьлядах даўно памерлых продкаў.

**Пераклад**

Алена Казлова (пераклад з фінскай): Ціма Парвела. Эла і сябры.

Андрэй Кім (пераклад з ангельскай): Клайв Стэплз Льюіс. Хронікі Нарніі: Леў, Вядзьмарка і Гардэроб.

Ганна Комар, Юля Цімафеева, Наталля Бінкевіч (пераклад з ангельскай): Чарльз Букоўскі. Святло, і паветра, і месца, і час.

Журы прыняло рашэнне сёлета не вызначаць шорт-ліст і пераможцу ў намінацыі «Паэзія».

Таксама на цырымоніі ўзнагароджання будзе ўручана спецпрэмія.

Пераможцы прэміі ў кожнай з намінацыяў атрымаюць чэк ад Фонду «Вяртанне» на суму, эквівалентную 2000$ паводле курсу Нацыянальнага банка РБ. Таксама журы можа прыняць рашэнне пра ўручэнне заахвочвальных прызоў.

Сёлета ў журы прэміі ўвайшлі Ігар Бабкоў, Міхал Бараноўскі, Павал Берагавіч, Марына Весялуха, Сяргей Дубавец, Марыя Мартысевіч, Усевалад Сцебурака.

Прэмія «Дэбют» імя Максіма Багдановіча была заснаваная ў 2010 годзе Дабрачынным фондам «Вяртанне», Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Беларускім ПЭН-цэнтрам. Сярод папярэдніх пераможцаў прэміі — Віталь Рыжкоў, Андрусь Горват, Наталка Харытанюк, Антон Францішак Брыль, Віктар Марціновіч, Андрэй Адамовіч, Міхал Бараноўскі, Адэля Дубавец, Ганна Янкута, Уладзь Лянкевіч, Кацярына Оаро, Кацярына Мацiеўская, Аляксей Палачанскі, Таццяна Нядбай, Анатоль Івашчанка, Святлана Рогач і іншыя.

# Мядовая прэмія-2017

**Сёлетні лаўрэат прэміі — сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў Валерый Гапееў.**



Ён — жыхар Івацэвічаў — атрымаў вядро мёду «за заўважныя літаратурныя дасягненні». А гэта найперш раманы «Праклён», «Пастка для рыцара», «Ноч цмока» і апошняя кніга, «Мая мілая ведзьма», якую аўтар з бачным задавальненнем, — «не парэзалі», — зняў з горкі «меданосных» кніг і паказаў на ўручэнні прэміі ў Пружанскім палацыку.

«Прэмія рэгіянальная, — заснавальнік — Мікола Папека — жыве паблізу, і правільна, што яна праз некалькі гадоў вандровак вярнулася ў Палацык», — сказаў дырэктар музея-сядзібы Юрый Зялевіч.

Імпрэза прайшла ў прыязнай атмасферы, створанай найперш гаспадарамі дома і фундатарам прэміі, а таксама тутэйшымі інтэлектуалкамі, аматарамі літаратуры. Вядовец Мікола Пракаповіч паказаў свой нядаўні тэлефільм пра цяперашняга лаўрэата. Літаратар, краязнавец і настаўнік Алесь Зайка ўсебакова ахарактарызаваў В. Гапеева, з якім даўно знаёмы, і падараваў яму «загаворанную» манету. Маўляў, калі пішаш містычныя тэксты, то няхай «містыка ад Зайкі» прынясе грошай на новыя кнігі.

Лаўрэат не адмаўляўся ад містычных прэферэнцый. Але не «напускаў туману». Наадварот, патлумачыў: «Містыка — гэта калі мы не разумеем. Прыкладам, людзі пакінулі сялібу, сад. Яблыні праз дзесяць гадоў дзічэюць. А варта чалавеку вярнуцца — праз тыя сама дзесяць гадоў дрэвы зноў даюць плады свайго гатунку. Містыка? Яшчэ і якая...».

Журналіст, пісьменнік і лаўрэат распавёў, што прывялo яго з Гомельшчыны ў Івацэвічы («даведаўся, што людзі цікавыя ёсць»), як працуе над сваімі творамі і нават «выдаў» тое, што «нікому яшчэ не адкрываў», — назву новага рамана. <...>

Прачытаныя вершы Валерыя Гапеева на слых асабіста мне спадабаліся менш. Але двухрадковы аргумент, які ён прыводзіць на сустрэчах з навучэнцамі/студэнтамі, — менавіта ім адрасаваная большасць твораў сёлетняга мядовіята, — кранае: «Каб не знікала наша мова // Ніколі з роднае зямлі».

Адпавядала паэтыцы прозы В. Гапеева ў сваім выступе Настасся Хмель. Песні прагучалі a capello і пад джамбей (від бубна). Фальклор арганічна нагадваў пра заклёны і нават меў гісторыю («падслухала ў суседкі песню»). Гэта тое, што любіць М. Папека, таму ён, нядоўга думаючы, уручыў пявунні Мікрамядовую прэмію — два літры мёду.

Мядовая прэмія была ўручана ў 16-ты раз. Двойчы літаратары атрымлівалі яе не за аўтарскія творы (2007, Леанід Галубовіч, за ўкладанне пасмяротнай кнігі Міколы Купрэева; 2013, Ніна Горык, за дзве кнігі ўзаемаперакладаў берасцейскіх і валынскіх паэтаў; тым самым прэмія набыла міжнародны статус).

Ці будзе сямнаццаты раз? У Палацыку Мікола Папека ўздыхаў, маўляў, цяжка. Але ж адступаць не выпадае...

**Яўген Бяласін, фота аўтара**

# Новая «Брама»

**Пабачыў свет пяты выпуск выдання, якое прадстаўляе літаратурнае жыццё Магілёўшчыны і выдаецца Магілёўскім абласным аддзяленнем ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**

Проза, паэзія, пераклады, мініяцюры, запісы, успаміны, крытыка і літаратуразнаўства, матэрыялы да юбілеяў Міхася Булавацкага, Івана Бурсава, — гэты нумар «Брамы» выяўляе самы шырокі жанравы і тэматычны дыяпазон, рэпрэзентуе аўтараў розных пакаленняў — ад пачаткоўцаў да старэйшын рэгіянальнага друку. На вокладцы пазначаныя імёны 26 аўтараў, чые творы размешчаныя ў зборніку. Прадмову да выдання напісаў сябар рэдакцыйнай рады, паэт, даследчык Сяргей Украінка.



# Пімен Панчанка

Кастусь ЦВІРКА

**У студэнцкія гады мяне паланіў «Іранскі дзённік» Пімена Панчанкі. Мне так прыйшліся даспадобы звонкія, не зусім звычайныя вершы гэтага «дзённіка», што я выбраў іх тэмай сваёй курсавой.**

Захацелася дазнацца і пра самога аўтара ўпадабанага цыкла, паэта з рэдкім імем — Пімен, імем, якое апроч пушкінскага манаха-летапісца з «Барыса Гадунова» мне нідзе не сустракалася.

Бацькаўшчынай паэта, пэўне ж, трэба лічыць Ашмяншчыну, дзе жыла сям'я Панчанкаў. Хоць нарадзіўся паэт у сталіцы Эстоніі Таліне, куды на нейкі час доля закінула яго бацькоў.

Неўзабаве пасля нараджэння сына Панчанкі вярнуліся на Беларусь. Толькі пасяліліся ўжо на Бягомельшчыне, радзіме мацеры паэта. Тут, сярод вольных палявых разлогаў, прытуманеных бакасовых лугоў і векавечных лясоў ды пералескаў і бегала маленства Пімена.

Стаўшы настаўнікам, Пімен Панчанка вучыў дзяцей любіць сваю радзіму. Ды тут пачалася вайна... Малады паэт адразу ж падаўся ў ваенкамат, каб ісці на фронт.

«Да штыка прыраўняўшы пяро», пяро армейскага журналіста, змагаўся Пімен Панчанка з нямецкім фашызмам цягам усёй вайны. Ён прымаў удзел у баях на Бранскім, Заходнім, Калінінскім, Паўночна-Заходнім франтах...

*Пяць франтоў мяне пылам*
*гарачым абсыпалі,*
*За вайну перамерана тысячы вёрст.*
*З успамінамі крочыў*
*пад ветрамі сіпльмі*
*І з надзеяй на студзеньскім*
*холадзе мёрз.*

З надзеяй, што той агнявы вал вайны павернецца з расійскіх разлогаў назад і пачнецца так доўга чаканае вызваленне роднай Беларусі. І гэтая надзея нарэшце пачала спраўджвацца:

*Мы на захад ішлі за рыкаючай*
*душнай сцяной,*
*Нашы вусны засмяглі з гарачыні.*
*У вароты жалезныя грукаў*
*бязлітасны бой:*
*— Беларусь, адчыні!*

Калі пачалося вызваленне Беларусі, гвардыі капітана Пімена Панчанку выклікала да сябе камандаванне арміі, у якой ён служыў. Заданне было вельмі незвычайнае: яго ў складзе савецкіх войскаў вырашылі паслаць у далёкую паўднёвую краіну — Іран. Па ўзгадненні з кіраўніцтвам гэтай краіны туды ўводзіліся войскі саюзнікаў — Вялікабрытаніі, ЗША і Савецкага Саюза, каб перакрыць дарогу гітлераўцам.

І вось перад вачыма беларускага паэта-воіна Пімена Панчанкі — зялёныя, поўныя шматколерных красак даліны і паднебныя аграмадзіны-горы невядомай дагэтуль краіны — экзатычнай Персіі.

Пра яе Пімен Панчанка ведаў толькі з даўно ўпадабанай лірыкі Сяргея Ясеніна, які, зрэшты, ніколі там не бываў. Рускі паэт уявіў яе нейкай ідэальнай, высненай у мроях зямлёй, праўдзівым зямным раем. Увесь цыкл вершаў «Персідскія матывы» пісаўся Ясеніным у рамантычных мроях.

Што ж да Пімена Панчанкі, то ён, пасланы туды як савецкі воін, «не заваёўнік, а жаданы друг», убачыў Персію (вядомую ўжо як Іран) такую, якая яна была ў сапраўднасці, зусім рэальную, не прыхарошаную паэтычнай фантазіяй.



**Пімен Панчанка быў не толькі па званні, а папраўдзе народным паэтам. Ён не праходзіў міма ўсялякай подласці і маны, прымаў блізка да сэрца ўсё, чым жыў народ**

*Мы першы раз за межамі Радзімы.*
*Бывай, зямля савецкая мая!*
*Насустрач горы выплываюць з дыму,*
*Якія апяваў калісь Хаям.*

*Тужэй падцягваем франтавыя дзягі,*
*Глянцуем боты, чысцім шынялі.*
*Не так, як паэтычныя бадзягі,*
*Прайду па тэгеранскай я зямлі.*

Так пачынае свой «Іранскі дзённік» беларускі паэт. Не, і ён не можа не захапляцца незвычайнай красой па-свойму цікавай паўднёвай краіны: «Якія горы! А сады якія!»; «Тут вецер вільготны і пругкі, і ружы ў духмянай расе»; «З гаёў апельсінавых сонечны лівень цябе залівае. А пах — на ўвесь свет». Паэту-беларусу, натуральна, захацелася ўплесці ў сваю «сетку рыфмаў» і прывезці «хоць кавалак сонца поўдня ў палескую краіну».

Але часам Пімен Панчанка стрымлівае сябе ў захапленні чужой, да таго ж «буржуазнай» краінай. Ён жа — «пасланец Рэспублікі Саветаў», таму імкнецца годна трымацца перад чужаком, як некалі і Маякоўскі («У советских собственная гордость: на буржуев смотрим свысока»).

Галоўнае для яго: глыбей пазнаць і зразумець малавядомую краіну. Ягонае пільнае вока чапка схоплівае ўсе яе адметнасці. Ён, напаткаўшы, дзівіцца на маленькіх, але цягавітых іранскіх ішакоў, што і сёння «не то ў Кабул, не то да Гіндукуша» валакуць на сабе цюкі славутых з даўніны персідскіх шаўкоў, з цікавасцю праводзіць вачыма караваны флегматычных вярблюдаў, што ідуць «з паклажай фантастычнай на гарбах, з пагардаю сухою на губах», адзначае для сябе мноства «крамаў, крамачак і крамак», каля якіх малыя іранскія гандляры так і кідаюцца да ніколі раней нябачаных байцоў-чырвонаармейцаў: «Зорку дай!»

Ну і, вядома ж, малады савецкі афіцэр, праходзячы міма, ці ж мог не заглядзецца на чарнявых, поўных агню пад прамяністымі вейкамі юных іранскіх красунь-смуглянак:

*І калі гарачымі вачыма*
*З-пад чадры іранка шугане,*
*Мімаволі ты прашэпчаш імя,*
*Чутае калісьці, — Шаганэ...*

Марудліва, як тыя вярблюды, цягнуліся месяцы прабывання савецкіх вайскоўцаў у Іране. Прайшоў увесь 1944 год, пачаўся наступны, 1945-ы, а камандаванне не адпускала іх з гэтай горнай, вельмі спякотнай улетку краіны. Савецкая місія ў Іране яўна задоўжвалася, і байцы знемагалі ад тугі па дому. Гэтая туга ўсё часцей чуецца і ў вершах Пімена Панчанкі.

Нярадаснай была для яго тут і вясна. Праходзячы ваколіцай Тэгерана, паэт раптам застыў ад знямення: з высокага неба да яго вушэй даляцела такое знаемае, такое роднае курлыканне — жураўлі! І ляцяць гэтыя жураўлі адсюль, з поўдня, на поўнач, на Беларусь, — гэта значыць, з выраю! Як жа тут не ўсхваляваціся:

*Ты чуеш курлыканне — рад ці не рад?*
*Між хваляў густой сінявы*
*Лятуць жураўлі за гару Арарат,*
*На поўнач лятуць жураўлі.*

*Прывык сустракаць ты іх гэтай парой*
*Пад першай вясновай зарой.*
*А тут журавель, узмахнуўшы крылом,*
*У вырай праз сэрца ляціць напралом.*

*Забыў, што ад дому за тысячы міль, —*
*Злуешся і крыкнуць карціць:*
*«Гэй, хто там знаёмы да болю фільм*
*З канца пачынае круціць?»*

*Лятуць жураўлі за Казбек і Эльбрус,*
*І сэрца сціскае туга.*
*Сустрэне іх хутка мая Беларусь*
*На цёплых зялёных лугах.*

*Я зайздрасці к птушкам ніколі не меў —*
*Без крылляў мне нават ямчэй,*
*А зараз ад крыўды глухой анямеў*
*І з неба не зводжу вачэй.*

Не менш узрушлівы быў для Пімена Панчанкі і яго прыезд пасля іранскай місіі дамоў, у вызваленую Беларусь. Калі цягнік пад'ехаў да Оршы (з Ірана ж трэба было вяртацца праз Маскву) і ў вагон з клумкамі ды кашалямі ўціснуўся гамалівы вакольны люд, мабілізаваны афіцэр не мог стрымаць слёз замілаванасці ад пачутых пасля доўгіх гадоў гукаў роднай беларускай мовы:

*Якія знаёмыя назвы і словы,*
*Якая цудоўная родная мова!*
*Усё мілагучна для слыху майго:*
*І звонкае «дзе», і густое «чаго».*

Нарэшце абпалены ў бітвах воін ступіў на родны, разварочаны бомбамі брук мінскіх вуліц, дзе зусім нядаўна «кіпелі жалеза і камень»:

*Я іду, бывалы воін,*
*Памужнелы і худы,*
*Шчэ не звыклы да спакойнай,*
*Да цывільнае хады.*

*Углядаюся у вочы,*
*Вочы добрыя людзей,*
*І чамусьці з кожным хочаш*
*Прывітацца: «Добры дзень!»*

Ды і ў мірны час Пімен Панчанка астаўся воінам, змагансам за сваю Беларусь, якую трэба было бараніць ад розных «чынадралаў» і адшчапенцаў, ад «верхаглядаў» і «прыстасаванцаў». Пра баявітасць яго вершаў кажуць і самі іх загалоўкі: «Верхалазы», «Прыстасаванцы», «Лінія высокага напружання», «Маскі», «Ілюзіі, ілюзіі», «Сягоння не засну», «Гнеў і літасць», «Мастадонт», «Даверлівая прастадушнасць», «Мала сказаць: ненавіжу»...

Пімен Панчанка быў не толькі па званні, а папраўдзе народным паэтам. Ён не праходзіў міма ўсялякай подласці і маны, прымаў блізка да сэрца ўсё, чым жыў народ. Паэт-воін вострым паэтычна-публіцыстычным словам абрынваўся на тых, хто на народным гарбе пяўся пралезці ў рай. Вялікай бядой было тое, што ўсякага роду «прыстасаванцы» ўчэпіста трымалі лейцы ўлады ў сваіх руках і ўсяляк імкнуліся супыняць гарачы імпэт такіх народных абаронцаў. Для гэтага ўзвялі яны непераадольны цэнзурны маналіт пад бяскрыўднай назвай Галоўліт з раздутым да неймавернасці штатам добра вымуштраваных цэрбераў, якія вышуквалі і вытраўлівалі ўсё, што хоць у чым-небудзь разыходзілася з «лініяй партыі». Не менш пільна прасейвалі напісанае і як трэба вышкаленыя рэдактары ўсяго, што выходзіла тады з друку.

Прамы, бясстрашны, нязгібны, Пімен Панчанка быў у іх заўсёды на прыцэле. Бо заўсёды рэзаў усім у вочы праўду-матку, якой так баяліся ўладакрады. Як заўважаюць біёграфы паэта, каб сабраць усе «зарэзаныя» ці пакалечаныя цэнзурай яго вершы, набраўся б іх цэлы том. А калечыліся, «прыгладжваліся» яны часам да непазнавальнасці.

Верш «Родная мова»... Калі я першы раз прачытаў яго ў нейкім часопісе, то не быў у захапленні. Бо гучаў ён для мяне як рэквіем па мове, якая нібыта «аджывае» і якую пара аплакваць. Заканчваўся верш так:

*Ці плачу я, ці пяю,*
*Ці размаўляю з матуляю —*
*Песню сваю, мову сваю*
*Я да грудзей прытульваю.*

Ды, аказваецца, гэтая страфа першапачаткова гучала зусім інакш (яе ўзнавіў у анталогіі «Краса і сіла» Міхась Скобла):

*Ці плачу я, ці пяю?*
*Восень. На вуліцы цёмна...*
*Пакіньце мне мову маю,*
*Пакіньце жыццё мне!*

Гэта ўжо не плач, гэта — крык душы, гэта — пратэст супраць гвалту над мовай народа, без якой, як пісаў Панчанкаў сябар Максім Танк, «ні нараджацца, ні жыць на зямлі немагчыма»!

Падгладзіць «вострыя вуглы» ў адным з вершаў Пімена Панчанкі, як гэта не прыкра прызнавацца, давялося і мне, калі працаваў у «Полымі».

Я падрыхтаваў быў прынесеную паэтам ладную падборку вершаў і здаў у друк. Але, як заўсёды, карэктура ўсяго часопіса перад выпускам павінна была прайсці чысцілішча ў Галоўліце. І адтуль звоніць раптам мне, як рэдактару паэзіі, сам начальнік гэтага гразнага ведамства Маркевіч (здаецца, такое было яго прозвішча). Вельмі не ўпадабалі падначаленыя яму цэнзары верш Пімена Панчанкі пра меліярацыю. Надта ж бэсціў яе паэт. У той час, як брэжнеўская прапаганда аж захлёбвалася ад паспяховага асваення нашых палескіх балот. Нейк не ўпісваўся тут вельмі крытычны верш народнага паэта. «Трэба яго зняць», — казаў высокі цэнзурны начальнік. Я пачаў яго адгаворваць, спасылаючыся на высокія мастацкія вартасці твора. Тады ён прапанаваў апусціць самую вострую страфу верша. «А мо лепш паправіць яе?» — папытаў я: надта ж не хацелася яе выкрэсліваць. Даў згоду. Я зрабіў зусім нязначную праўку. Для адвода вачэй: меркаваў, што і яму, начальніку, трэба перад некім апраўдацца, што «работа праведзена». Пазваніў яму і прачытаў новы варыянт страфы. З заміраннем сэрца чакаў: што скажа? Вось дзіва: згадзіўся! Пасля ўсяго гэтага я набраў нумар тэлефона Пімена Панчанкі, расказаў яму тое цэнзарскае «выкручванне рук» і прачытаў «падгладжаную» страфу яго верша: ці згодны ён на такую праўку? Пімен Емяльянавіч не запярэчыў: разумеў сітуацыю. Верш (не помню яго назву) і пайшоў у друк з маёй праўкай.

Сярэдняга росту, у меру поўны, трохі ссутулены — такім бачыў я часам на вуліцах Пімена Панчанку. Ідучы, ён як бы глядзеў у сябе. Пэўне ж, складаў у думках вершы, якія потым запісваў на паперу. Няйначай так, бо публікаваўся ён шмат: пра ўсё, што турбавала, хацелася яму выказацца, уліць у радкі сваю трывогу і боль.

У 2018-ым годзе літаратурнае аб'яднанне беларускіх пісьменнікаў Польшчы «Белавежа» святкуе сваё 60-годдзе. Даследчыца творчасці «белавежцаў», кандыдат філалогіі Ала Петрушкевіч (Альжбета Кеда) падрыхтавала да друку кнігу «Белавежа: учора і сёння». Прапануем у скароце артыкул пра паэзію старшыні «Белавежы» Яна Чыквіна.

# «Паўторыцца жыццяя тварэнне...»

**Адно жыццё, аддадзенае паэзіі. Адно жыццё, што ўмясціла столькі, колькі не агледзець зрокам, бо надта багатым на разнастайныя плёны сталася яно. «Адно жыццё» — такую назву даў кнізе выбранага знакаміты паэт Ян Чыквін. Выдадзеная грунтоўна і густоўна. Адно жыццё ў паэзіі...**

Кніга выбранага ўмясціла ўсё самае значнае, што створана ледзьве не за паўстагоддзя творчасці. На пачатку — вершы з першага зборніка «Іду» (1969 г.), назва якога, па словах самога паэта, увасобіла імкненне выказаць унутраны пратэст тым стомлена-заспакоеным станам, што панаваў у жыцці грамадства. Маладому творцу хацелася падкрэсліць неабходнасць зрухаў, прагрэсу наймерш у духоўным жыцці, хацелася падштурхнуць гэтыя немінучыя зрухі. Таму зачынны аднаіменны верш успрымаецца не толькі як вяртанне да роднага, да першавытокаў, да самага роднага чалавека — мамы, а як скіраванасць да зменаў, руху наперад.



Вершы маюць свой лёс. Між тых твораў Яна Чыквіна, якім асабліва пашанцавала, верш «Даўно нежывы бацька полем ідзе...» са зборніка «Кругавая чара» (1992 г.). Вечнасць жыцця зашыфравана ў вершы ў вобразе бацькі-сейбіта. Бацька, ён жа і Творца, — сейбіт жыта — жыцця, адначасна аб'ект гэтага найвышэйшага акту-чыну, і ягоны суб'ект:

*Ён і плуг.*
*Ён і скіба раллі, і зерне.*
*І водсвет далёкага раю.*

Вечнае адбіваецца ў штодзённым праз канкрэтныя рэаліі земляробчага побыту: плуг, скіба раллі, зерне, радно. Але кожная з гэтых выяваў прадметнага свету вырастае да вобраза глыбока сімвалічнага. Да прыкладу, зерне, з якога растуць каласы, а каласы — гэта людзі, засеяныя і ўзгадаваныя Творцам, штохвілінна знаходзяцца пад сярпом ягоным, прад вечнасцю.

Прыём люстэрка, характэрны сімвалісцкай паэзіі, ствараецца ў гэтым вершы праз самы яскравы вобраз — вачэй, што і ёсць люстэркам патаемнага, Боскага ў чалавеку — душы, а гэта значыць, неразрыўнай повяззю Творцы з ягоным тварэннем:

*Вочы, якімі ён глядзіць на свет,*
*Тыя самыя вочы, што яго*
*сузіраюць.*

Вечныя пытанні пра пачатак пачаткаў, вечная нязгода праўдалюбцы, вольнага птаха з выгодамі «падкантрольнага раю», вечныя шляхі-дарогі вандроўніка-мужчыны ў пошуках адказаў і вечнае чаканне жанчыны, маці, каханай, сястры, — усё гэта прываблівае ў вершы Яна Чыквіна «Размова з сястрою» з кнігі «Крэйдавае кола» (2002 г.). Адно з самых актуальных пытанняў, сфармуляванае ў беларускай літаратуры на пачатку XX ст. пісьменнікам-аналітыкам Максімам Гарэцкім, — «Што яно?» Яно як нейкі першапачатак, перашааснова, таямніца. Якую гэтае яно мае форму, у чым палягае змест, якія сэнсы выяўляе? Ян Чыквін, безумоўна, не абыходзіць гэтыя пытанні. У вершы «Размова з сястрою» скарыстаны матыў ірэальнага падарожжа, калі герой вяртаецца да вытокаў, у дадзеным выпадку на радзіму, дахаты, да сястры, якая назаўсёды засталася там як вартаўніца скарбу, бачыцца носьбіткай народнай, спрадвечнай маралі, ісціны.

Што ёсць пачаткам пачаткаў? Адказ на гэтае філасофскае пытанне шукаецца праз пабытавае, штодзённае, сялянскае, вясковае, што цалкам лагічна ў кантэксце твора:

*Што ж было на самым пачатку*
*яна, тая курка, ці — яйка?*

Філасофская сентэнцыя, выказаная сястрой, мае зместам і вяртанне да вытокаў, у родную хату, дзе тое кола замыкаецца, дзе «спакой ... вячэрні». Але дайсці да душэўнага спакою, сугладдзя няпроста, як і вырашыць загадку быцця, бо тая дарога роўнавялікая жыццёваму шляху. У фінале верша асабліва адчуваецца нязменнасць, адвечнасць таго, што адбываецца там, дома — у пачатку-канцы...

Адна з самых глыбокіх высноваў, якую паэт укладвае ў вусны сястры, прамаўляецца, між іншага, як звычайная рэч: «Жыццё імкнецца ў форму кола». У свядомасць вясковай кабеты, мажліва, гэта ўвайшло, падказана тою ж формай яйка, яшчэ не кола, але пазначана імкненнем да колавай правільнасці, замкнутасці, завершанасці.

Наогул, Ян Чыквін стварыў адметную мастацкую канцэпцыю чалавечага існавання найперш праз вобраз кола, які ў вершы «Vita mea» (зачынны ў кнізе «Крэйдавае кола»), як слушна адзначыла літаратуразнаўца Вольга Шынкарэнка, «прадстае аналагам чалавечага жыцця, уключаным у прасцяг чужых лёсаў».

*Серабрыцца лісце бярозы*
*Пад шаўковым ветрыкам жніўня.*
*Замыкаецца кола лёсу,*
*Замяняецца кроў у вадзіцу.*



Ян Чыквін

Трэці радок — гэта сэнсавы цэнтр верша. Ён самадастатковы, гучыць як завершаны твор. Калі прад тым матыў развітання толькі легкавейна праступае праз лірычны абрыс сярэбранага лісця, бо не адчуваецца яшчэ знішчальнай сілы, магутнага павеву, усяго толькі шаўковы ветрык, то тут пачынае гучаць на высокай і адначасна стрыманай, але ад таго не менш трагічнай ноце. Пачатак жыцця, яго рухавік гарачая кроў, што нараджае жаданні, памкненні, ператвараецца ў ваду. Кола замыкаецца...

Назва верша «Раздвоенасць» скіроўвае чытача да творчасці Максіма Гарэцкага, да той праблемы, якую ён упершыню ўзняў у беларускай прозе: раздваенне душы. У гэтай назве мноства сэнсаў. Найперш — у адпачатковай супярэчнасці, што закладзена ў слове: раздвоенасць узнікае толькі ў выніку пэўных раз'яднальных працэсаў у пэўным адзінстве. Раздвоенасць — гэта незавершанасць, якая нясе ў сабе вынік разбурэння, таму яна павінна імкнуцца да сваёй першапачатковай сутнасці — адзінства.

Пачатак верша — амаль пейзажная замалёўка-зачын, што ўводзіць нас у пэўнае месца, у пэўны час: «Ў затонах ціхіх нашага падворка // Стаіць цяпло. І ўвесь гарод цвісці гатоў».

Гэта яшчэ не росквіт таго, чым Творца шчодра ўпрыгожвае свет. Гэта толькі прадчуванне пышнага «буяння» характва ў найдасканалых формах і фарбах, у сцяблінах, лістах, пялёстках, суквецціх. І гэта звычайнае, звычайнае спатрэбілася паэту, каб падысці да асэнсавання спрадвечнага — заўсёднага красавання жыцця пад вечным небам:

*І зацвіце жыццё пад гэтым небам*
*зорным,*
*Як год таму і тысячы таму гадоў.*

У кульмінацыйнай другой страфе — найдасканалая раздвоенасць, дадзеная зямному свету: жанчына і мужчына, яна і ён, інь і янь. Кожны сам у сабе заключаюць цэлы свет, цэлы космас, недарэмна ж у Яна Чыквіна: «жанчына-дрэва» і «мужчына-дрэва», што сімвалізуе касмічнае дрэва, у якім магутныя, скіраваныя ўглыб зямлі і геннай памяці карэнні. І гэтая раздвоенасць мае сэнс толькі ў адзінстве, вечным, як само жыццё, што ўзнікае праз найвялікшае з пачуццяў — каханне.

У фінале — той погляд зверху, з вечнасці. Лірычны герой над чалавечым, канкрэтным, штодзённым. Ён у бясконцым, усёчалавечым. А там — заўсёдная самотнасць, бо няма ад чаго ў тым свеце запалімнецы цяплу, пачуццю, якое існуе тут. І ў гэтым аснова трагічнай раздвоенасці — адсутнасці гармоніі праз адсутнасць любові, святое месца якой у чалавечай душы не можа быць вольным: там пасяляецца смутак, прыручэнне якога справа небяспечная, бо вядзе да разладу з самім жыццём:

*А мы ў самотнасці тугу*
*ўсечалавечую*
*галубім...*
*Ці нас жыццё не любіць?*
*Ці мы жыцця не любім?*

Вялікі свет раздвойваецца, на першы погляд, у малым, нязначным. Але тое малое для канкрэтнага чалавека ёсць гэткім жа вялікім. Таму ён, чалавек, і паядноўвае сваімі пачуццямі і ўспрыняццямі раздвоенае ў часе і прасторы. І ў гэтым сэнсе ён — у цэнтры Сусвету.

Ян Чыквін вядомы як даследчык літаратуры, аўтар многіх манаграфій. Асаблівы ўклад зрабіў ён у адкрыцці беларускага замежжа, вяртанні творцаў, незаслужана забытых у Беларусі. Артыкулы з ягонай кнігі «Далёкія і блізкія. Беларускія пісьменнікі замежжа» прысвечаныя знакавым імёнам: Наталля Арсеннева, Масей Сяднёў, Лрыса Геніюш... Гэтыя працы хораша ўспрымаюцца студэнтамі, знаходзяць водгук у літаратуразнаўцаў.

Што да асобы паэта Масея Сяднёва, то з ім аўтар быў асабліва блізкім, мяркуецца, найперш успрыняццем прыгожага («красы староннік найзвычайны»), што адчуваецца і ў артыкуле «Узыходжанне на вышыню (Лірыка Масея Сяднёва)» з кнігі «Далёкія і блізкія», і ў дыстыху «Бемоль Сяднёва», дзе падказаны яшчэ адзін накірунак для развагі. Жыццё не напоўніцу, бо на эміграцыі, бо далёка ад роднага берага, ды і наогул, «між берагамі» (Наталля Арсеннева), «у акіяне ночы» (Масей Сяднёў), бо «я толькі кропля ў акіяне». Алюзіяй на гэтую апошнюю цытату з верша Масея Сяднёва бачацца радкі Яна Чыквіна, дзе новае, цалкам супрацьлеглае разуменне гэтай «кроплі», бо яна не «толькі кропля», а ўмяшчае вялікі змест, у ёй адбіліся, адлюстраваліся, увасобіліся, а, значыць, назаўсёды ў аналах памяці засталіся шматлікія падзеі. Іншая рэч, што ўсё гэта «пераблытана», бо знішчана, перарвана асноўная жывая повязь — з першапачаткам, з Радзімай, таму і ўзнікае адчуванне хаосу, дысгармоніі. Жыццё ўспрымаецца як вялікая самакаштоўнасць, як вялікі дар, але напоўнена яно цемрай, калі дзень і ноч аднолькава невыразныя, цьмяныя. «Па-за кадрам» час, які паскорыўся, які ляціць, нясецца і нясе на сваіх крыллях усё, і не дае мажлівасці прыпыніцца, асэнсаваць і разблытаць нітку лёсу. Таму вельмі змрочная мазаіка запаўняе кроплю жыцця:

*Ноч у імгле і дзень у тумане —*
*ліхаманкавы вобраз падзей*
*і мыслення,*
*пераблытаны лёсы, людзі і звенні*
*у кроплі жыцця, мне дараванай.*

І таму «наводдаль»– гэта не толькі ў пазамежнасці, вечнасці, але і на страчанай Радзіме, у Беларусі, якая здалечы звычай ідэалізуецца, успрымаецца светлаю явай, адсюль — «светлае кола быцця», а два сонцы можна расчытаць як два асноўныя складнікі шчасця ў паэтаў-рамантыкаў: Айчына і каханая. Згадаем знакамітых выгнаннікаў з нашага Краю XIX стагоддзя: «Шукаю Літву ... і цябе» (Адам Міцкевіч), «Толькі Айчына і Зося // сёння мне шчасцем адзіным» (Ян Чачот)...

Спадзяюся, для тых, хто чуў-чытаў паэта, змрочныя дні, што надараюцца ў жыцці, будуць асвечаныя ягонымі вершамі. І, магчыма, для кагосьці гэта будуць радкі, што часта гучаць у маёй душы:

*І як ні ідзі ты, а будзе твой шлях*
*заўжды па ўскрайку,*
*Бо ты адтуль, дзе толькі актавы*
*болю і скрухі...*
*І ты, як кастрычнік,*
*палка ўспылаўшы,*
*Сваю маладосць у вогнішча дзён*
*ярэмных кідаеш.*

**Ала Петрушкевіч**




Беларускія пісьменнікі ў XIX стагоддзі ажывілі светач нацыянальнага Адраджэння, а на пачатку XX-га аднымі з першых пад бел-чырвона-белымі сцягамі пачалі адбудоўваць дзяржаўную незалежнасць. Яны не толькі сягалі ва ўзвышшы творчасці, але і штодня працавалі асветнікамі, прапагандыстамі, выдаўцамі, палітыкамі, дыпламатамі, мусілі ахвяроўвацца на тое свае сілы, час, а часта — і свабоду.

Яны першымі распачалі выхаванне беларускай моладзі ў нацыянальным, а не чужынскім духу: Карусь Каганец, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Вацлаў Іваноўскі, Якуб Колас, Браніслаў Тарашкевіч, Язэп Лёсік...

Яны першымі на ўвесь свет выказалі ідэю стварэння сваёй дзяржавы ды абвесцілі яе незалежнасць: браты Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Пётра Крэчэўскі, Алесь Гарун...

Яны былі кіраўнікамі і міністрамі першай беларускай дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі: Вацлаў Ластоўскі, Пётра Крэчэўскі, Антон Луцкевіч, Алесь Гарун, Вацлаў Іваноўскі, Язэп Лёсік, Кастусь Езавітаў...

Урэшце, яны — беларускія пісьменнікі — стварылі ўзнёслы і велічны вянок сваіх прысвячэнняў нацыянальным сімвалам і вольнасці Беларусі.

«Літаратурная Беларусь» з нагоды юбілею БНР друкуе ніжэй невялікую частку гімнаў Беларускай свабоды.

## Пагоня

Максім БАГДАНОВІЧ

*Толькі ў сэрцы трывожным пачую*
*За краіну радзімую жах, —*
*Ўспомню Вострую Браму святую*
*І ваякаў на грозных канях.*
*Ў белай пене праносяцца коні, —*
*Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...*
*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.*
*У бязмерную даль вы ляціце,*
*А за вамі, прад вамі — гады.*
*Вы за кім у пагоню спяшыце?*
*Дзе шляхі вашы йдуць і куды?*
*Мо яны, Беларусь, панясліся*
*За тваімі дзяцьмі ўздагон,*
*Што забылі цябе, адракліся,*
*Прадалі і аддалі ў палон?*
*Біце ў сэрцы іх — біце мячамі,*
*Не давайце чужынцамі быць!*
*Хай пачуюць, як сэрца начамі*
*Аб радзімай старонцы баліць...*
*Маці родная, Маці-Краіна!*
*Не усцішыцца гэтакі боль...*
*Ты прабач, Ты прымі свайго сына,*
*За Цябе яму ўмерці дазволь!..*
*Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,*
*Срэбнай збруяй далёка грымяць...*
*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.*

**1916**

***

Уладзімер ЖЫЛКА

*Пад штандар бел-чырвона-белы*
*Гартуйся, раць, адважна, смела*
*Адважных, храбрых ваякоў!*
*І ўспомняцца старых вякоў*
*Паходы мужныя у славе,*
*Часы Альгерда, Ізяслава,*
*Грунвальдскі з немцам бой!*
*І бой даўні цяг з Масквой!*
*Пад знак Літоўскае Пагоні —*
*Абараняць краіны гоні,*
*Народ забраны вызваляць,*
*Ісці к святлу, святлом палаць —*
*Спяшайся той, хто к волі рвецца,*
*Ў кім беларуса сэрца б'ецца!*
*Збірайся — ўсе, як бы адзін, —*
*Арлы радзімых пушч, нізін!*
*Не плач, не плач па сыне, маці, —*
*Сягоння сорам быць у хаце,*
*Бо ўзнят за волю грозны меч,*
*Бо хутка будзе злая сеч,*
*Няхай і ён, юнак адважны,*
*Ідзе туды, дзе б'ецца кажны*
*За волю новую без слёз,*
*За лепшы Бацькаўшчыны лёс.*
*Пад штандар кожны здатны, гожы,*
*Досць нас наезнікам варожым*
*Трымаць ў прыгоне, беднаце,*
*Смяяцца нашай цемнаце,*
*Багацце краю нішчыць, пляжыць —*
*Чужынцу годзе намі княжыць*
*І карыстацца з нашых плеч!..*
*Мы к волі йдзем — з дарогі прэч!..*

**1920**

## Наш сцяг

Ларыса ГЕНІЮШ

*Не слава Краю, ўздым магутны,*
*нат не шумелі мне сцягі...*
*Заместа іх звінелі путы*
*і цёмнай ноччу ланцугі.*
*Заместа водгулля Пагоні*
*яшчэ сягоння, як крумкач,*
*у набалелым сэрцы звоне*
*жанчыны беларускай плач.*
*Дзявочы твар, бляды ад жалю,*
*дзяцей спалоханы пагляд*
*і кроў братоў, што бунтавалі, —*
*я толькі гэткі знаю сцяг!..*
*За жар душы, што набалела,*
*за сэрца зораны агонь*
*я, Божа, чуць хоць раз хацела б*
*шум сцягу вольнага свайго.*
*Калі Крывіцкая Зямліца*
*мне сэрца гордае саўе,*
*а польны вецер расшуміцца,*
*на развітанне запяе, —*
*няхай разгорне свае крыллі,*
*як старож вечнага жыцця,*
*хай зашуміць хоць на магіле*
*мне бел-чырвона-белы сцяг.*

**1942**

## 25-ы сакавік

Алесь ЗМАГАР

*Радзіўся Ты у Менску Беларускім,*
*Пажарам Край дыміўся ў вагні.*
*Наўкол чужынцы на палетках вузкіх*
*Тапталі скарбы нашых родных ніў.*
*Народ стагнаў, угору ўздымаў рукі,*
*Лавіў святла недасяжны прамень.*
*Быў цяжкі час. Сярод нясцерпнай мукі*
*З'явіўся Ты, прыгожы, светлы Дзень.*
*Цудоўнай зоркай ўзняўшыся высока,*
*Народу шлях да волі асвяціў,*
*І зашасцелі казкаю асокі,*
*Мінулай славай лес загаманіў.*
*І Край ажыў. Народ паймкнуўся к свету,*
*Ў вачах крынічыць радасці струмень.*
*І нашых продкаў слаўны запаветы*
*Ўваскраслі ў гэты незабытны дзень.*
*Вялікі Дзень! Нічым Цябе не сцерці!*
*Стагоддзям нат Цябе не перажыць!*
*Векі мінуць, а Ты ў народным сэрцы*
*У песнях, былях будзеш жыць!*

**25 сакавіка 1946**

## 25-ты сакавік

Наталля АРСЕННЕВА

*Ён прыйдзе, гэты дзень!*
*Ён не прыйсці не можа!*
*Ён прыйдзе —*
*й загудзе вясновы буралом,*
*пакрышыць, размяце,*
*раскідае, зніштожыць*
*усё, што нам шляхі да хаты замяло!*

*Ці чуеце?*
*Аб ім*
*шасціць быльнёг аселіц,*
*пяюць вятры ў лазе*
*і звоніць крыгаў лёд*
*ахвяраю крыві,*
*а Слова стане Целам,*
*і ўжо ніколі больш не ўстане Чорны Год.*

*Няхай бярэмя він*
*прыгнула нас, і крылы*
*апалі,*
*й хлеб чужы нясмачны і важкі,*
*няхай нас апавіў*
*тугой агорклы вырай, —*
*трывайма!*
*Ён ідзе —*
*Вялікі Сакавік!*
*Ідзе...*
*й пад ногі рунь*
*яму кладзецца, таюць*
*снягі, на паплавох зяленіцца трава...*

*Радзіма!*
*Беларусь!*
*Каханая, святая!*
*Багаславі нас жыць*
*і веру захаваць!*

**1950**

***

Рыгор БАРАДУЛІН

*Дваццаць пятага сакавіка —*
*Годны дзень*
*Беларускай дзяржавы.*
*Веснаплынных вятроў талака*
*Пыл з кароны атрэсла іржавы.*
*Шматавалі нас досыць арлы*
*І з адной, і з дзвюма галавамі.*
*Мы не з нейкай бязроднай імглы,*
*Нас вякі як сваіх*
*Гадавалі.*
*Мы — ратаі святла,*
*Крывічы,*
*Верхачы неўміручай Пагоні.*
*Маладзік сакалом на плячы,*
*Гартны меч у цвярдое далоні.*
*Лучыць нашыя мары рака*
*Бел-чырвона-белага сцяга.*
*Дваццаць пятага сакавіка —*
*Наша свята,*
*Пароль*
*І прысяга!*

## Дзень Волі

Васіль ЖУКОВІЧ

*У беларусаў ёсць Дзень волі,*
*Свабоды свята, свята духу.*
*Хадзем, браты, да лепшай долі,*
*Перамагайма нашу скруху.*

*Чыйгось не бралі мы ніколі,*
*Ды і сабе не зычым стратаў.*
*У беларусаў ёсць Дзень волі, —*
*Найдаражэйшае нам свята.*

*Чакае весняе прывolле,*
*Уласны шлях і свой парадак.*
*У беларусаў ёсць Дзень волі —*
*Дзяржавы новае пачатак.*

## ЗЬНІЧ (АЛЕГ БЕМБЕЛЬ)

***

*Раскрыжаванне кат завершыў,*
*аблашчыў кужаль кроў жыцця...*
*...так, плашчаніца — гэта першы*
*мой бел-чырвона-белы сцяг!..*

# Засада

## Пачатак аповесці



Барыс ПЯТРОВІЧ

**Усе апісаныя падзеі — выдуманыя ці прыснёныя героем...**

...Кожны раз я разумею, што гэта быў сон, толькі калі прачынаюся, сон гэты не дае мне спакою ўжо некалькі месяцаў. Я думаю, што ў ім ёсць нешта сімвалічнае, але дагэтуль не разгадаў — што? Ад пачатку ў ім усё надта рэалістычна ды праўдзіва. Як у жыцці. Звычайная ранняя зімовая ноч — усе фарбы на месцы. Бэзавае неба без зорак. Гарадская плошча са знаёмымі будынкамі вакол. Простакутнікі жоўтых вокан. Стаптаны, але белы, снег пад нагамі. Маўклівы шэры збой некалькі тысячаў людзей, якія стаяць цесна, амаль без рухаў. Нібыта чагосьці чакаюць. Цішыня праразаецца гудкамі машынаў, што праязджаюць міма і вітаюць людзей на плошчы. І тады сёй-той паварочвае галаву ўбок гуку і паказвае мне свой ружовы ад марозу твар. І я бачу трывогу ў ім. Пакуль незразумелую таксама. Недзе далёка, злева ад нас, пачынае пашырацца і нарастаць гул. Нібыта незадаволена грукоча працяглы летні гром, які паступова рухаецца да нас. Гром зімою — не можа быць... Але грукат набліжаецца і паглынае сабою ўсе астатнія гарадскія шумы. Прызнаюся, і ў сне мне не верыцца, што гэта магчыма. Я шчыпаю сябе, як раяць рабіць, каб праверыць, ці не сон гэта. І кожны раз адчуваю боль — сапраўдны боль. Пацiраю ўшчыпнутае месца, і тады канчаткова веру, што гэта не сон.

...Гул звычайны, машынны, спрабую супакоіць я сябе. Пэўна, так думаюць і іншыя. Таму не адразу становіцца зразумелым, што ён страшны, што ён абяцае бяду. Быццам з нейкае гары коціцца сюды вялізны шар і грукоча на выбоінах, ці хваля цунамі ідзе да плошчы, змінаючы на сваім шляху дамы. Людзі на плошчы міжволі прыслухоўваліся да яго. Аднак стаялі, не разыходзіліся. Усё чагосьці чакалі, пазіраючы наперад, дзе быў помнік з трыбунаю. Хоць ведалі: мажлівых выступоўцаў даўно арыштавалі. А новых, сярод іх, не знаходзілася. Гул магутнеў, навісаў над плошчай, забіраў у сябе ўсе іншыя гукі і рабіўся жахлівым. Маторы раўлі недзе далёка так рашуча і злосна, што пачало здавацца, быццам яны зусім блізка. Людзі заазіраліся, заварочалі галовамі, шукалі нейкага паразумення ў вачах тых, што побач. І падцiналі адзін аднаму ў адказ вусны. Вочы іхнія між тым рабіліся ўсё большымі, і галовы ніжэй ды ніжэй уціскаліся ў плечы. Нібыта над імі стаяў нехта, замахнуўшыся пугай, і вось-вось на іх упадуць удары...

Але ніхто нават цяпер не разыходзіўся...

Чаму яны выйшлі ў гэты позні вечар на плошчу... Чаго хацелі тым дамагчыся... Што паказаць... Навошта ўвогуле сабраліся...

Тое было невытлумачальным, але тлумачэння не патрабавала. Нас у чарговы раз падманулі. Колькі гэта будзе працягвацца. Досыць... Так думаў кожны, хто прыйшоў сюды. Незалежна ад узросту. Ніхто не верыў, што сваёй прысутнасцю тут можа нешта змяніць. Але кожны спадзяваўся, што ён у гэты вечар, на гэтай плошчы не будзе лішнім, бо не адзіным.

І вось гул вырваўся з-за дамоў і вылецеў на плошчу.

«Танкі!» — закрычалі разам тысячы галасоў, і на момант, на імгненне перакрылі сабой лязгат гусеніцаў. А танкі, выбягаючы на плошчу, уключалі фары і раз'язджаліся. Утварылі роўную натоўпу шарэнгу, і адразу, не спыняючы ходу, магутным прасам, сталёвым лязом мякка ўвайшлі ў людзей, увайшлі так лёгка і проста, быццам нікога перад імі не было.

Крык тысяч людзей ірвануў у неба і зліўся з гулам танкаў.... Дзе быў у гэты момант я — не ведаю. Але недзе збоку, бо назіраў за тым, як танкі прасавалі плошчу, распырскваючы кроў і снег, які на вачах рабіўся чырвоным марозівам. Неймаверны грукат, мітуслівыя слупы жоўта-белага балючага святла, роспачныя крыкі ды стогны людзей... Апакаліпсіс!.. І тут адзін танк знайшоў мяне — коціць, грукоча, і мне ўжо няма куды падзецца. Чорная гусеніца навісае нада мною... А-а-а-а! — крычу я і ў гэтае імгненне прачынаюся...

### Раніца

Усё, што можна было прамовіць — прамоўленае, і рука паціснула руку, і вочы бліснулі застылай слязою...

На парозе ён азірнуўся і ўгледзеўся ў мяне так, быццам развітваўся назаўсёды. Такое ўсясветнае самоты я яшчэ не бачыў. Ніколі. Глыбокай, нібыта тысячы кіламетраў ужо раздзялялі нас, хоць ён стаяў побач.

Так, мы і сапраўды развіталіся без надзеі ўбачыцца зноў. Ён зараз сядзе ў прамерзлы першы ранішні аўтобус, выйдзе ля вакзала, ускочыць у цягнік, які ўжо яго чакае, і з'едзе адсюль далёка і... надоўга, да лепшых часоў. Так зрабілі ўжо многія да яго. І нічога дзіўнага тут няма. Ну не прыстасаваная і не прызначаная наша краіна для людзей неабыякавых, для людзей, што, як і тутэйшыя птушкі, не могуць жыць у няволі.

А раптам ён не здолее сёння з'ехаць, спозніцца, застанецца?

— Можа, і не варта спяшацца... — я пакідаў сабе надзею, — можа, яшчэ ўсё абыдзецца... Можа, перачакаеш у мяне? Не першы ж раз... — сказаў і патануў у ягоных вачах, яшчэ глыбейшых, чым смутак растання.

— Жартуеш... Ты ж ведаеш... Паляванне пачалося. Мяне шукаюць цяпер па ўсім горадзе. І да цябе першага прыйдуць...

— А раптам — не...

— У любым выпадку рызыкаваць не варта. Дзякуй і за гэтую ноч!

Кастусь казаў, і бачна было, што і яму не вельмі хочацца цяпер ісці ў шэрую невядомасць, ён з радасцю застаўся б тут, але... Ён ужо сабе не належыць — паляванне пачалося...

— Ты мне не тэлефануй. Тэлефоны праслухоўваюцца, выклікі фіксуюцца. Зрэшты, я гэтага кішэннага шпіёна, — ён паглядзеў на свой старэнькі сотавік, — выкіну ў першую ж сметніцу, бо па ім маё перасоўванне лёгка адсачыць. Нават па адключаным.

— І ўсё ж... А раптам... Раптам табе давядзецца вярнуцца. Увечары...

— Не... Толькі не да цябе. Дзіўна, што іх дагэтуль няма...

— Патэлефануй хоць з аўтамата. — Я разумеў, што хапаюся за саломіну, і тым не менш працягнуў: — Пачакай... Значыць, трэба вяртацца да старых метадаў перасцярогі. Правераных часам. Вазон на вакне... Адкінутая штора... Давай дамовімся пра нейкі знак... Што можна спакойна зайсці да мяне і займець надзейны схоў, — я казаў і сам не верыў гэтаму. Але мне трэба была хвілінная затрымка, каб вынырнуць на паверхню, каб хапануць паветра, каб хоць на імгненне пазбыцца адчування непазбежнасці і незваротнасці таго, што адбываецца. Мы з ім не раз размаўлялі пра магчымы ад'езд адсюль. І заўсёды сыходзіліся на думцы, што гэта будзе самы крайні выпадак, што без пагрозы жыццю ніколі не адважацца на гэта.

Цяпер, падобна, быў такі выпадак. Для яго.

Ён слухаў, не сыходзіў, не прасіў супыніцца. Відаць, і яго нешта трымала — нешта тое, што ўсведамляецца толькі потым, але ажывае ў нас пры кожным развітанні.

Па вачах ягоных я ўбачыў, што шляху назад ужо і сапраўды няма. Ловы пачаліся, а таму апошняя кволая нітачка надзеі абрывалася... І тады я дадаў:

— Паглядзі, наколькі штора на вакне адсунутая: на палову. Мы самі наўмысна чапаць яе не будзем. І вазон стаіць якраз пасярод падваконня. З таго боку вуліцы гэта добра відаць. Калі нешта будзе зрушана, значыць, заходзіць нельга.

— Дзякуй... — ён горка пасміхнуўся. — Але думаю, нам не спатрэбіцца гэтая гульня ў шпіёнаў. У Штырліца... Не той час. Ну, бывай...

Дзверы дыхнулі холадам — ён пайшоў. Я прашаптаў услед: «Бывай...»

Каля прыадчыненых дзвярэй, з якіх па нагах цягнула холадам, я прастаяў яшчэ з хвіліну, бо не мог скрануцца з месца.

На працу мне к дванаццаці. Такі склаўся распарадак. Я зірнуў на гадзіннік — на ім было шэсць раніцы — і вырашыў яшчэ крыху падрамаць. Ноч была бяссоннай.

Але заснуць не змог. Расстанне стаяла ў вачах. І я ляжаў, бяздумна гледзячы ў столь.

Мне падалося, прайшло хвілінаў дзесяць, не больш, як загрымеў на ўсю пустэчу вітальні званок. «Усё ж вырашыў вярнуцца... Ну і добра», — супакоена падумаў я і механічна, не зазіраючы ў «вочка», адчыніў дзверы.

— Рукі за галаву, тварам да сцяны! — прагрымеў грозны рык, я не паспеў нічога зразумець, як нехта ў чорным балюча крутануў маю руку за спіну і ткнуў мяне носам у шпалеры. Па тупаце ног я зразумеў, што той нехта быў не адзін.

— Хто яшчэ ёсць у кватэры? — спытаў той жа голас.

— Я не разумею, што адбы... — пачаў казаць я, паварочваючыся на голас.

— Не абарочвацца, нах...! Стаяць смірна, нах...! — абарваў той жа начальніцкі крык. — Адказваць: ты дома адзін, нах...?

— Не. У спальні жонка, у дзіцячым пакоі дачка.

— І больш нікога?

— Нікога.

— Яшчэ раз пытаю — больш нікога, нах...?

— Нікога.

— У нас ёсць звесткі, што тут начуе Кастусь К.

— З чаго вы ўзялі? Нікога больш няма...

— Дазваляю павярнуцца.

Я павярнуўся да тых, што ўварваліся ў кватэру. Вітальня падалася мне чужой. Нават пах гэтыя людзі ўнеслі з сабой чужы, нейкі... я сказаў бы салдацкі, казарменны, хоць усе былі апранутыя ў цывільнае.

Іх было трое. Усяго трое, а мне падалося, што ўварваўся цэлы ўзвод. Начнік у вітальні я паспеў уключыць, таму ў блізкай паўцемры, што стаілася ў глыбіні пакоя, змог разгледзець іх. Казаў і камандаваў самы старэйшы па ўзросце і, пэўна ж, па званні, невысокі, мажнаваты, з заўважным нат з-пад зашпіленага паліто пузікам, круглатвары мужчына, на пераноссі якога цямнелі плямкі ад нядаўна знятых акуляраў. Двое другіх былі значна маладзейшыя і па-спартыўнаму падцягнутыя, шыракаватыя ў плячах.

Дзверы ў кватэру яшчэ былі адчыненыя, і адтуль цягнула холадам лесьвічнай пляцоўкі. Усё ж на вуліцы зіма. Казалі, ноччу было за мінус дзесяць. Я згадаў пра Кастуся, які пайшоў у той жа лёгкай куртачцы, у якой і завітаў да мяне недзе апоўначы.

— Дык кажаш, нікога больш няма? Вось зараз мы і праверым.

Пузель, а я празваў яго так, хітнуў галавой управа-ўлева, і тыя двое адразу зразумелі, пайшлі глядзець пакоі, а сам ён зрабіў крок да ўваходных дзвярэй і зачыніў іх.

— Можаш сесці, — паказаў мне на фатэль.

Тым часам двое абышлі пакоі і вярнуліся.

— Падобна, і сапраўды больш нікога няма, — няўпэўнена прамовіў адзін з іх, той, што быў вышэй ростам і ў шапцы-вязанцы.

— Дакладна, нах...?

— Так, — адказаў другі, на галаве якога была скураная кепка з апушчанымі на вушы краямі, і пры гэтым сцепануў плячыма.

Твары маладзейшых былі ў нечым падобныя: выгалена-вышкаленыя, аднолькава стомленыя — і я пакуль мог распазнаць іх хіба па вопратцы. Дакладней, па шапках.

— А чаму гэтак няўпэўнена дакладаеце, нах...?

— Мы ж пад ложкі не зазіралі...

— А чаму не зазірнулі?

— Дык...

— Ніякіх дык... Зазірайце. І ў шафы таксама. Вы павінны адшукаць яго, нах....

Я ўжо ачомаўся і асмялеў. Тым больш, я то ведаў, што Кастуся тут няма — спазніліся.

— Цяжка знайсці чорную котку ў цёмным пакоі, асабліва калі яе там няма, — ціха прамовіў я нібыта сам сабе, але каб чулі ўсе.

— Ты мне яшчэ жартаваць будзеш? Калі ён тут — гэта былі твае апошнія словы, хвілосаф.

Я толькі пасміхнуўся: шукайце.

— У нас дакладная інфармацыя: ён сёння начуе ў гэтай кватэры. Я казаў, адразу трэба ехаць сюды і браць. Дык не — прымусілі ганяцца па вуліцах, збіраць пешаходаў. Нахапалі тысячу, а толку... — Пузель падняў вочы на сваіх памагатых, якія вярнуліся ні з чым. — Ну што? Няма... Упусцілі, блін...

Абое моўчкі прыгнулі галовы.

— А быў жа, быў жа тут... — Пузель нервова захадзіў па вітальні. — Ну, што будзем рабіць, нах...? Якія прапановы, нах...?

Ён размаўляў са сваімі так, быццам мяне побач няма. І я вырашыў умяшацца:

— А з чаго вы ўзялі, што...

— Маўчаць! Нах... — абарваў мяне ўладны голас. — Без саплівых абыдземся.

Ну гэта ўжо я стрымаць не мог: уварваліся ў кватэру ды яшчэ абражаюць. Я падхапіўся з фатэля і... адразу ж апынуўся на падлозе: Пузель імгненна зрэагаваў на мой рух і сядзеў на мне, заломваючы руку. Я адчуў, як з разбітага аб падлогу носа цячэ цёплая кроў і хлюпае, не дае дыхаць. У спіне нешта хрупнула: але ж і цяжкі, кабан...

— Ну ўсё, хлопцы, ціха, ціха, супакоіліся... — з ценю выйшаў адзін з маладзейшых, той, што ў шапцы-вязанцы. Галава ў мяне пайшла кругам: відаць, я памыліўся: галоўным тут быў ён. «Дзіўная метамарфоза, — падумаў я, хліпаючы носам і гледзячы знізу высока ўверх, — ці яны тут усе начальнікі па чарзе...»

— Адпусці яго, — хутчэй не скамандаваў, а папрасіў Пузеля, які ўсё яшчэ важка сядзеў на мне, той з маладзейшых, якога я для сябе назваў па шапцы — Вязанка.

«А што было б, калі б Кастусь не паспеў сыйсці...», — падумаў я і ўсміхнуўся.

— Што лыбішся, — пырснуў слінай Пузель, — радуешся, што сябар збег?

«Ён што: думкі чытае гэты... гэты нязваны «госць» з пэўных органаў? — падумаў я. І сапраўды: хто ж яшчэ мог шукаць Кастуся, як не людзі з «канторы». Я зноў усміхнуўся сам сабе і сказаў:

— Не, мне проста дужа прыемна бачыць вас.

— Ну, жартаўнік, мы з табой яшчэ паразмаўляем, не да смеху будзе, — Пузель падняўся, шваркнуў рукамі па штанах, абцёр нябачны пыл. І пачаў казаць высокім камандным голасам да сваіх. Значыць, усё ж я памыліўся: галоўным тут быў ён: — Пакуль вось што: ён тут быў — мы гэта дакладна ведаем, і, можа, яшчэ вярнецца сюды нанач. Вы, Пятроў і Сідараў... — «госці» — (буду зваць іх так) — недаўменна пераглянуліся, пэўна, не ведалі, хто з іх Пятроў, а хто Сідараў, бо, відаць, загадзя не дамовіліся, — кіўнуў Пузель Вязанку і другому (каб адрозніваць, назаву яго Кепка), застаецеся тут да веча-

ра. Усіх, хто будзе прыходзіць — затрымліваць і не выпускаць з кватэры. А восьмай вам будзе змена, — памаўчаў. — Ну і хай, пачакаем. Пагуляем у хованкі... Прыйдзе, куды ён дзенецца гэтым холадам. Не сюды, дык... на іншую яўку, дзе мы яго таксама сустрэнем. Прыйдзе — зіма прыгоніць, — кіўнуў абодвум: — За старэйшага ты, Пятроў. (Вязанка, адзначыў я сабе). Паўтараю: у кватэру ўсіх пускаць, але нікога не выпускаць, каб не маглі паведаміць пра засаду. З кожным, хто сюды прыйдзе, потым будзем разбірацца паасобку.

Чамусьці (пэўна, па звычцы?) казырнуў і выйшаў.

Тут толькі я заўважыў, што ля дзвярэй спальні стаіць жонка і плача. Я кіўнуў ёй і пайшоў у лазенку, каб змыць кроў з твару, і ніхто за мной услед не кінуўся.

## Дзень

Такім чынам, у мяне намячаўся нечаканы выходны. Калі ўсіх пускаць і нікога не выпускаць, дык, значыць, на працу я сёння не пайду. Двое «гасцей» спачатку пасядзелі трохі ў вітальні, а потым занялі больш зручную пазіцыю на варыўні. Тут варта сказаць, што ўлетку мы зрабілі рамонт у кватэры і крыху перапланавалі яе. У нас была звычайная хрушчоўка, ці хрушчоба, як кажуць па ўсім былым эсэсэсэры: з малой варывенькай і яшчэ меншай вітальняй. Нядоўга думаючы, мы знялі — папросту разбурылі — сценкі і злучылі іх з большым з пакояў, які быў у нас гасцёўняй. Атрымалася такая асучасненная гасцёўня-вітальня-варыўня разам, а за кошт гэтага ўдалося яшчэ і раздзяліць ванны пакой і прыбіральню, зрабіць іх асобнымі. Такім чынам сваю трохпакаёўку мы ператварылі ў двухпакаёўку, пакінуўшы сабе з жонкай спальню, а дачцы асобны дзіцячы пакой. Гасцёўня атрымалася не малой — амаль трыццаць метраў, квадратных, вядома. Я не адважыўся падзяліць яе на два пакоі, хоць жонка і хацела. У гасьцёўні стаяла вуглавая канапа, пара фатэляў, абедзены стол, крэслы, на сцяне вісеў тэлевізар. Словам, было адносна ўтульна, пакуль не ўваліліся са сваёй мітуснёй і чужымі пахамі гэтыя... «госці».

— На тэлефонныя званкі не адказваць, — папярэдзіў Вязанка, які цяпер ужо стаў галоўным, — адключыць мелодыі ў мабільніках і здаць іх нам. У кватэру будзеш пускаць усіх, хто прыйдзе. Зразумеў?

Вядома, зразумеў, даўно зразумеў, што ж тут незразумелага.

— Можна кавы? — папрасіў Кепка, які пакуль нічым не вызначыўся: не дапытваў мяне і не кідаў на падлогу. З ягонае нечаканае просьбы я зразумеў, што ноч у іх і сапраўды была вясёлая.

Канфліктаваць з імі, спрачацца і не падпарадкоўвацца я палічыў непатрэбным. Тым болей — спрабаваць ісці на нейкі кантакт. Яны людзі часовыя і падначаленыя. Як прыйшлі, так і пойдуць. Моўчкі і як мог спакойна запаліў газ, паставіў ваду.

Тым часам на вуліцы пачало віднець. Ліхтары ўжо былі выключаныя. І я памкнуўся да вакна, каб рассунуць шторы і даць у пакой болей святла.

— Э-э, та... таварыш, стоп-стоп-стоп! — зразумеўшы мой намер, кінуўся наперарэз Вязанка, — нічога без нашага дазволу не кранаць, не зрушваць, ля вакна не стаяць і ў вакно не выглядваць.

«Ну во, — падумаў я, — падаў знак сябру... Навошта было казаць, што без небяспекі штору і вазон адсоўваць не буду».

*

Першы званок у дзверы пачуўся прыблізна праз гадзіну. «Госці» падскочылі і скіраваліся да дзвярэй разам са мной. Сталі так, каб іх не было відаць, і вачыма паказалі: адчыняй.

На парозе стаяў сусед з верхняга паверха.

— Што гэта вы на тэлефонныя званкі не адказваеце? Званю-званю — цішыня. Я ўжо і хвалявацца пачаў. Мы ж дамаўляліся...

Шчыра прызнацца, у гэтым тлуме званкоў ягоных я не пачуў.

— Заходзь.

Сусед увайшоў, і Вязанка адразу ж за ім рэзка, нагой, зачыніў дзверы. Сусед спалохаўся ад нечаканкі, прысеў пад грукат дзвярэй, а потым рвануў назад і толькі ілбом стукнуўся ў вушак.

— Стаяць! — гаркнуў Кепка пранізлівым і адначасна грубым голасам — адкуль толькі ўзяўся ў яго такі, — і я заўважыў, што ў суседа імкліва макрэюць спераду спартыўныя штаны, у якіх ён прыйшоў, а потым на падлозе вакол пантофляў пачала збірацца лужынка.

— Што... што? Што тут такое? — закруціўся сусед, пазіраючы то на мяне, то на «гасцей», не могучы спыніць вадкасць, якая ўсё цурчэла і расцякалася.

— Засада тут, Міша, супакойся, — сказаў я і патлумачыў «гасцям»: — Гэта сусед зьверху, — а потым паклікаў жонку: — Прынясі Мішу што з майго пераапранууцца, не сядзець жа яму тут з намі ў мокрым.

Жонка зірнула на Вязанку, той пагардлівым кіўком дазволіў. Яны з Кепкам адышліся, гаворачы:

— Ну во — пачалося... Калі так далей пойдзе, атруцімся тут нах...

— Як мышы ў нары, блін, ха-ха, нах...

Дарэчы, тут варта сказаць, што гэтае выслоўе-паразіт «нах...» у іх ды іхняга начальніка я не пераказваю цалкам і ўвесь час, бо гэта немажліва: гучала яно ледзь не за кожным словам — падобна, што яны нават не заўважалі таго. І я больш не буду згадваць яго, проста ведайце, што яно ёсць, прысутнічае ўвесь час і «расквечвае» кожную нашую гаворку, кожны раз раптоўна і рэзка, як маланкі-бліскавічкі, бо прывыкнуць да гэтага нязвыкламу (свежаму) вуху немагчыма.

Сусед пайшоў у лазенку пераапранууцца, жонка прынесла анучу, каб выцерці лужынку, а «госці» пайшлі на варыўню.

— Я ж толькі спытаць хацеў, — пачаў тлумачыць сусед, вярнуўшыся, — ваш тэлефон як бы не адказвае... Я ж на хвілінку... Мне як бы дадому трэба... Што жонка падумае? — голас ягоны дрыжэў — яму, відавочна, было сорамна і няёмка, але ён яшчэ канчаткова не зразумеў, што здарылася тут да яго.

— Паслухай, таварыш, — вырашыў патлумачыць Мішу сітуацыю Вязанка, — тут праходзіць аператыўнае мерапрыемства, і табе давядзецца затрымацца ў гэтай кватэры, пакуль мы не палічым неабходным выпусціць. Паняў?

«Паняў», — кіўнуў Міша. І тут жа сказаў: — А што жонка падумае? Я ж на хвілінку, як бы. Яна там яешню смажыць...

Вязанка нічога яму не адказаў. А жонка Мішы доўга не думала. Хвілінаў праз пяць на лесвічнай пляцоўцы пачуўся яе гучны голас:

— Што ён там робіць, блін? Сняданак стыне. А яны... Зрання піць селі, блін! Я разганю вашую шайку-лейку.

У дзверы яна не пазваніла, а загрукала кулаком.

Я зірнуў на Вязанку: што рабіць? «Пускаць», — кіўнуў ён.

Маша не ўвайшла, а ўляцела ў вітальню. І адразу ж спынілася, убачыўшы, што апроч мяне сустракаюць яе яшчэ двое незнаёмцаў. «Авой!..» — яна, відаць, падумала, што кватэру захапілі калі не тэрарысты, дык злодзеі, і прыкрыла твар рукамі.

— Супакойцеся, мамаша, — лагодна прамовіў Вязанка, — супакойцеся... усё нармальна.

Маша-мамаша агледзелася і ўбачыла пераапранутага мужа, які сцішана сядзеў на фатэлі ў глыбіні пакоя. «Авой!» — зноў сказала яна і схапілася правай рукой за вусны.

— Праходзьце да мужа і... будзьце, як дома, — пажартаваў Вязанка. — Мы вас затрымліваем на няпэўны час.

— Як гэта затрымліваем? За што? Не маеце права! У мяне чайнік на пліце закіпае. Пажар будзе. Узрыў, як бы. То ж газ... Дзеці яшчэ спяць.

«Госці» напружыліся, замяліся. Але Вязанка хутка знайшоў, што сказаць:

— Дзеці малыя?

— Ды не — старшакласнікі. Як бы...

— Можаце ім пазваніць, каб чайнік з пліты знялі.

— Магу.

— Званіце, — падаў тэлефонную трубку.

Маша патыкала пальцамі на кнопкі і спынілася.

— Авой!

— Што такое?

— Я свой нумар хатні забылася. Як бы, не памятаю...

— А хто памятае? — зірнуў на мужа. Той сцяўся ў фатэлі, а потым захітаў галавой: не, не памятаю...

— Звычайная справа, — сказаў Вязанка, цяпер усё ў тэлефонную памяць запісваюць і мала хто свае нумары запамінае. — Зірнуў на мяне: — У вас іхні нумар ёсць?

— У мабільніку хіба... Мы ж суседзі...

— Глядзіце.

Нумар знайшоўся. І Маша прытуліла слухаўку да вуха. Ніхто не адгукаўся. Дзеці, відаць, і сапраўды спалі. Дазваніцца ўдалося хіба з пятага ці шостага разу. У напружанай цішыні ўсе пачулі прыглушаны заспаны і незадаволены голас старэйшага сына Машы і Мішы:

— Ну хто там, блін, тарабаніць?

— Яначка, — залепятала Маша, — сыночак, адключы на кухні, як бы, газ, а то я забыла. Мы з таткам, як бы, ужо на працы, — агледзела нас, маўляў, правільна я кажу — Вязанка хітнуў галавой: правільна, — і яна працягвала: — Не чакайце нас... Дык адключы, добра?

— Добра...

— І паешце там...

— Добра-добра... — буркліва, бы скрозь сон.

— Фу-у... Гара з плеч... — уздыхнула Маша і зірнула на Вязанку: што далей?

— Сядайце побач з мужам, — сказаў той. — Спадзяюся, мы вас надоўга не затрымаем.

Наш народ паслухмяны, рахманы. Яму доўга тлумачыць не варта. Прывык скарацца загадам: трэба, значыць, трэба... Не ўвесь, праўда, такі, на жаль. Ёсць адмарозкі, якія ўчора на плошчу выйшлі — пераварот задумалі ўтварыць. Вынікі выбараў, бач, ім не падабаюцца. Але колькі іх, дурняў... Пара тысячаў... А большасць — памяркоўныя, такія, як Маша ды Міша. Сказалі ціха сядзець і не высоўвацца з дзярма — будуць сядзець. Колькі трэба — столькі і будуць.

Маша і Міша — нашыя суседзі і, можна сказаць, сябры. Такое сяброўства звычайная рэч у горадзе сярод тых, у каго родныя далёка. Усё ж такі калектывам пражыць лягчэй, чым па адным. Гэтаму нас навучыла жыццё. Яшчэ савецкае, якое плаўна перайшло ў незалежнае — без асаблівых зменаў не толькі ў асабістых зносінах, але і наогул. Мы пакідаем ключы ад кватэры Машы і Мішу, калі ад'язджаем куды, а яны нам. Каб вазоны палілі, рыбак у акварыўме пакармілі (гэта ў нас рыбак, а ў іх — папугая) ды і проста паглядзелі. І на ўсялякі выпадак: колькі разоў ключы ў кватэры забывалі, і калі б не ляжалі ў іх запасныя, дзверы выбіваць давялося б... Разам сустракаем розныя святы. Часам, выязджаем за горад «на шашлыкі». Маша гандлюе на рынку, Міша працуе ў адным з часопісаў і называе сябе паэтам. Выдаў дзве кнігі вершаў, але ў Саюз пісьменнікаў яго не прынялі. Абазвалі графаманам і прагаласавалі супраць. Яднае Машу ды Мішу прага да грошай, якіх у іх заўсёды няма і заўсёды мала. Размаўляць яны могуць толькі пра «бабкі» ды «шмоткі», што мы з жонкай не любім, але церпім. А таму кантакты ў нас усё ж абмежаваныя. Можна сказаць, вымушаныя — якраз з-за таго, што трэба з некім з суседзяў сябраваць.

Пару дзён таму мы дамовіліся, што сёння з раніцы разам пад'едзем на рынак да знаёмых Машы, каб набыць падарунак да дня нараджэння дачкі. Вось Міша і тэлефанаваў, а потым прыйшоў... А Маша абсалютна дарэмна крычала на ўвесь пад'езд, што мы тут п'ем. Бо яна цудоўна ведае: я не п'ю ўвогуле з-за хворага страўніка, а Міша з-за даўно пасаджанай пячонкі ды ціску... Я ўжо колькі разоў прасіў Машу, каб не рабіла так, але яна ўсё роўна называла нас п'яніцамі і шайкай-лейкай. І была страшна задаволенай пры гэтым.

Маша і Міша былі ў нечым падобныя знешне. Абое невысокія, хударлявыя, хоць Маша і фігурыстая, а ў ляшках — крутая. Міша ж худзенькі, як хлопчык і ў свае за сорак. Ён кажа пра сябе: «Малы сабачка да старасці шчанюк» і рагоча. А Маша тады аж заходзіцца ад злосці: дужа ёй чамусьці не падабаецца гэтае параўнанне. І яшчэ аднолькава яны любяць спяваць вечарамі. Прычым часам так гучна, што суседзі не вытрымліваюць і грукаюць па ацяпляльных батарэях. Маша і Міша шануюць усё беларускае, дзяцей сваіх назвалі старымі беларускімі імёнамі і адкрыта ненавідзяць галоўнага русіфікатара. Яны так прыцерліся адно да аднога, што і гавораць нават падобнымі інтанацыямі. Улюбёнае выслоўе «як бы», яны ўжываюць дзе трэба і не трэба. Яно рэжа мне слых, аднак я выгляд не падаю.

Міша і Маша селі ў пакоі побач, як брат і сястра, як двайняты. Маша, відавочна, яшчэ не да канца ўцяміўшы, што тут адбываецца, але зразумеўшы, што лепш пакуль адмаўчацца, апусціла вочы і быццам пра нешта задумалася, а Міша адкінуў галаву да спінкі фатэля і прымружыўся, нібыта задрамаў.

*

У напружанай цішыні новы званок прагучаў рэзка, як крык. Я страсянуўся, ажно ледзь не падскочыў. Ды і «госці», што моўчкі сядзелі, таксама ўздрыгнулі, паднялі галовы. Першым апамятаўся Вязанка. Загадаў мне:

— Адчыняй...

На парозе стаяў чалавек у адзенні мясцовага ЖЭСа. Мабыць, нехта ад іхніх, ад «гасцей», закамуфляваны... Ага, не, не — сапраўды сантэхнік. Я й забыў, зусім забыўся, што жонка выклікала яго на сёння. Кран у ванным пакоі працякае. Крапае надакучліва, раздражняльна, і ноччу так гучна, гулка, што спаць не дае: бух, бух, бух, як у барабан. Ляжыш, слухаеш і чакаеш кожную новую кроплю. А там, у ЖЭСе, аказваецца, цяпер чарга, і на візіт сантэхніка трэба запісвацца загадзя, як да ўрача.

Запрашаць сантэхніка не давялося. Ён сам хуткай хадою, быццам і не спыняўся перад дзвярыма, адразу ж зайшоў у кватэру, нават не вітаючыся, паказваючы тым, што дужа заняты і часу на нейкія размовы не мае.

— Ну што тут у вас? — дзелавіта спытаў ён з уваходу, як стаматолаг. І замёр, убачыўшы, колькі людзей, апроч гаспадара, яго сустракае. Крутнуўся да выхаду, але было позна: Вязанка паспеў піхнуць плячом дзверы, і яны, гучна бразнуўшы, зачыніліся.

— Стаяць! — сантэхнік аж прысеў ад вокрыку і грукату дзвярэй, што ляснулі за спіной, як стрэл. Яшчэ б не спалохацца... У ягонай галаве, пэўна, пранеслася ўсё жыццё ад нараджэння да сённяшняга дня. Ён, відаць, адразу зразумеў, што патрапіў на разборкі крымінальнай мафіі і жывым яму, як лішняму сведку, адсюль не выйсці.

— Адпусціце мяне, — пачаў ён прасіцца, яшчэ не агоўтаўшыся. — Я нікому нічога не скажу, я нічо-га не ба-чыў... А ў мяне яшчэ пяць заказаў да абеду і двое дзяцей дома. Хлопчык і дзяўчынка... — ён паказаў рукою двойчы трохі вышэй за калена рост-узрост дзяцей, — адпусціце, а... — агледзеў усіх і звярнуўся да Вязанкі: — У кватэры ў трэцім пад'ездзе кран сарвала — суседзяў залівае. Мне туды трэба... Я ж на працы.

— Усе мы на працы, — супакоіў яго Вязанка. — Нічога, іншага аварыйшчыка выклічуць. А ты — ідзі рамантуй, што трэба, калі прыйшоў. Ідзі і рамантуй.

Сантэхнік яшчэ раз, больш уважліва, агледзеў прысутных. Было бачна, што ён пачаў нешта кеміць. Відавочна, тут не крымінальныя разборкі. Тут рэчы пасур'ёзней... Палітыка сама меней. Але гэта не так страшна, як магло падацца адразу: забіваць, як выпадковага сведку, не будуць. І ён паслухмяна пайшоў у лазенку...

**2013**

# Цені нашых продкаў:
## да публікацыі паэмы Масея Сяднёва

**Яны з намі заўсёды, цені нашых продкаў: на адзначэнні гістарычных угодкаў і святах, на шэсцях і мітынгах, на літаратурных імпрэзах і ў самой літаратуры.**

Упершыню хіба яны з'явіліся ў 1913 годзе ў зборніку Янкі Купалы «Шляхам жыцьця». Там была надрукаваная паэма «На Куцьцю»: на парэштках зруйнаванага замчышча ў ноч на Куццю паўстае цень беларускага князя:

*Адзін, адзін раз толькі ў год*
*Зьбірацца можна з ласкі рока,*
*Каб год іржавы карагод*
*Зганяць зь мінуўшчыны далёкай.*

*Нас не кранулі косы зьмен,*
*Царым мы ў дум жывых гэйнале,*
*Хоць на падмурах гэтых сьцен*
*Другія наш пасад занялі.*

Дазнаўшыся ад сваіх ганцоў, што беларускі народ, фізічна паняволены, не скарыўся духам, цень князя ўрачыста прарочыць:

*Ня ўмруць, ня ўмруць ужо яны,*
*Раз хочуць сонца, славы, песьні;*
*Заб'юць ім зычныя званы*
*Прабудным звонам на прадвесьні.*

*Сваёй забранай старане,*
*Скаванай мучаніцы-княжне*
*Ўзьнясуць пасад на кургане*
*На панаваньне недасяжне.*

Аздобленая гістарычным вэлюрам, паэма была сучаснаю і актуальнаю — пра народ і нацыянальную ідэю. Настолькі сучаснаю і настолькі актуальнаю, што ў 1921 годзе натхняе Максіма Гарэцкага на абразок «Фантазія»:

*«Пралятаючы над слаба асвятлёным дзеля боязні аэрапланаў Менскам, сцень доктара шукаў вачмі таго шпіталя, дзе ляжаў пры смерці хворы з галадухі Янка Купала.*

*Пабачыўшы над цёмным домам ззячую кружэлку арэолу песняра, сцень спусціўся ў ціхую палату і стаў над сваім нядужым сябрам.*

*— Як маешся, мой браце? — без слоў спытаўся доктар у стагнаўшага паэта. Хворы з трудом заварушыўся і сумна паглядзеў на гуманіста.*

*— Не мукі цела страшныя, — прачытаў Францыск Скарына ў кроткіх вачах, — баліць душа.*

*— Лячу ў Полацак, хачу давецца, што цяпер там? — сказаў цераз невялікае маўчанне доктар. — Скрозь адно... Што тут, што ў Вільні, што ў Смаленску і скрозь на Бацькаўшчыне мілай... — пакратаў перасохшымі ад смагі вуснамі паэт.*

*Доктар засмучона схіліўся галавою да грудзей і доўга так стаяў.*




*— На сход! — сказаў у непрытомнасці Купала і збудзіў ад чорных дум паніклы сцень.*

*— Каму і на які? — азваўся рэхам сцень. Памаўчаў і прамовіў горка: — Магутны кліч твой раздаецца ўжо даўно — і скрозь, ад краю ў край, па Беларусі... А шмат з'явілася? Народ за доўгія вякі няволі аглох і зрабіўся нячулым».*

А яшчэ праз амаль дваццаць пяць гадоў у Нямеччыне, у лагерах ДП іншы паэт, Масей Сяднёў, выдае сваю паэму, у якой Купалаў уплыў відавочны, хоць і не заўважаны чамусьці дасюль крытыкамі. Зрэшты, не тое істотна.

Істотна, што і яна, на жаль, застаецца сучаснай і актуальнай, асабліва ў святле гэтак сціпла адзначаных угодкаў Янкі Купалы і ўгодкаў БНР, і таму вартая, упершыню ад публікацыі ў 1947 годзе ў нямецкім мястэчку Ватэнштат, перадруку.

Бо цені нашых продкаў прамаўляюць да нас.

**Наталля Гардзіенка**

# Цень Янкі Купалы[1]

Масей СЯДНЁЎ

### Паэма

***Як прыйдзе дзень майго збаўленьня,***
***З крывавых церняў вызваленьне, —***
***А веру — прыйдзе гэткі дзень, —***
***З імглы адвечнасьці паўстане***
***І крыжам стане на кургане***
***Майго жыцьця бясьсмертны цень.***
***Янка Купала***

### I. Шлях у вечнасьць

*Бомбы сыпаліся, нібы адплатай,*
*На Маскву і стагналі: спалю!...*
*І ніхто з людзей не заплакаў,*
*Калі чалавек пакідаў зямлю.*

*Лепш-бы бомбы засыпалі пяскамі,*
*Чым працэсыя пахавальная Масквы.*
*На панэлі ваду дажджавую спускалі*
*Трубаў зялезныя рукавы.*

*Яны лепей гралі за медзяныя трубы,*
*За безладнае тупаценьне ног.*
*Найчысьцейшай сьлязою над згубай*
*З неба праплакаў Бог.*

*Не гарэлі ў цэрквах ціхія сьвечы,*
*Не сплывалі патокам васковых сьлёз.*
*Не ў маленькую вуліцу — у вечнасьць*
*Чорны катафалак чалавека вёз.*

*Разьвітальнаю хваляй плыў вецер цёплы*
*З Беларусі — далёкае стараны.*
*Па маскоўскім завулку людзі працёпкалі*
*І ня ведалі, каго пахавалі яны.*

*— Ах, гэты дождж! Спагады ніякай!*
*— Пахаваньняў такіх не люблю!*
*І ніхто з людзей не заплакаў,*
*Калі чалавек пакінуў зямлю.*

### II. Ноч на пляцы Свабоды

*Не схавала цябе хмараў зрэб'е*
*І начэй трывожная імгла —*
*Каб яшчэ вышэй узьнімацца ў неба,*
*Слава Менску друзамі лягла.*

*Вуліцамі ходзяць і блукаюць*
*І сьвятлу ня вераць сваіх воч:*
*Непраходная і цёмная такая*




*Распласталася над Менскам ноч.*

*Тут і там — нідзе няма праходу,*
*Вуліца заваленая ўся.*
*На пляцы Свабоды — за свабоду*
*Пасінелыя на вісельнях вісяць.*

*Над усімі нашымі пляцамі,*
*Каб ня даць заняцца дню,*
*Ходзяць зморыныя паліцаі*
*І вартуюць цішыню.*

*Ціха стала на Пляцы Свабоды,*
*Ціха ўсе ў руінах сьпяць.*
*Цені, што ня знаюць перашкодаў,*
*Пачалі сыходзіцца на пляц.*

*З вуліц Валадарскага і з Камароўкі,*
*І з Урыцкага, з усюль, як сны,*
*Мастакі, рабочыя і скамарохі*
*Папрыходзілі, як з невядомай стараны.*

*І ў ігры сьвятла, крыху нязвычнай,*
*Выплываючы, нібы з зямлі,*
*У сьмяротэльным танцы фантастычным*
*Цені ажылі.*

*Цень:*
*Ушануем, брацьця, у нашым стылі*
*Тых (ён паказаў рукой*
*На вісячых), у якіх застылі*
*У вачох і воля і спакой.*

*Паліцай:*
*Уважаю гэта я за здраду*
*Бацькаўшчыны, гэта — бунт!*
*Вы якую радзіце тут раду*
*І зьбіраецеся ohne Grund[2]?*

*Цень:*
*Ты ня маеш больш над намі ўлады,*
*Паглядзі — вунь новыя ідуць.*
*Яны ў сэрцы нам нясуць спагаду,*
*Разразаючы начную муць.*

*Ціха.. Хто гэта? Знаёмая фігура...*
*А, Купала.. Вы да нас?*
*Надта-ж выгляд сумны і пануры,*
*Дамінікавіч, у вас.*

*Прамаўляйце, як і што Вы?*
*Мы тут робім кажны год парад.*
*Апусьціўшы сумныя галовы,*
*Уваходзім у зямлю назад.*

*Цень Янкі Купалы:*
*Я ня ўмею гаварыць прамоваў,*
*Пэўна-ж, ведаеце гэта й вы.*
*Цяжкімі зрабіліся мне сховы*
*Падзямельнае Масквы.*

*Сямсот вёрст ішоў я пехатою,*
*Каб да Менску нашага дайсьці.*
*Ды пабачыў з болем я ня тое,*
*Што хацеў пабачыць у жыцьці.*

*Паліцай:*
*Weg[3]! Зусім гэта ня гожа —*
*Разышоўся дужа ты ў кляцьбе.*
*Хоць памёр ты, але зможам*
*Расстраляць яшчэ цябе.*

*Ціха стала на Пляцы Свабоды,*
*Ціха ўсе ў руінах сьпяць.*
*Цені, што ня знаюць перашкодаў,*
*Сумна пакідалі пляц.*

### III. Працяг ночы

*Вуліцамі ходзяць і блукаюць*
*І сьвятлу ня вераць сваіх воч:*
*Непраходная і цёмная такая*
*Распрасталася над менскам ноч.*

*Цягнецца, як нуднае сталецьце,*
*Краю ёй, напэўна, больш няма.*
*Можа, доўга спалі мы? Здаецца,*
*Вечнасьць затрымалася сама.*

*Лініі трамвайныя калеюць,*
*Электрычны бляск ўначы пагас.*
*На слупох і на сьцянах расклеіў*
*Нейкія афішы новы час.*

*З вуліцаў пазьвезеныя друзы —*
*Сумам вее іх прабег нямы.*
*І ўжо нехта вапнаю замурзаў*
*Абкусаныя вайной дамы.*

*І над тымі самымі пляцамі*
*На расправу, мусіць, на ганьбу*
*Ходзяць ужо другія паліцаі —*
*Зоркі ў іх зіхціцца на ілбу.*

*Ціха стала на Пляцы Свабоды,*
*Ціха ўсе ў хатах сьпяць.*
*Цені, што ня знаюць перашкодаў,*
*Выплылі з начы на пляц.*

*Цень:*
*Ушануем, брацьця, у нашым стылі*
*Тых (ён паказаў рукой*
*На вісячых), у якіх застылі*
*У вачох і воля і спакой.*

*Потым да Янкі Купалы:*
*Прамаўляйце, як і што Вы?*
*Мы тут ладзім кажны год парад.*
*Апусьціўшы сумныя галовы,*
*Уваходзім у зямлю назад.*

*Цень Янкі Купалы:*
*Тут і там — няма нідзе праходу.*
*Дзе падзелася сям'я ўся?*
*На Пляцы Свабоды — за свабоду*
*Пасінелыя на вісельнях вісяць.*

*Вісельні і гордасьць паліцаяў,*
*Вецер рве шматкі чужых газэт.*
*Толькі над усімі нашымі пляцамі*
*Вялічэзнейшы палошчыцца партрэт.*

*Паліцай:*
*Ах, ты контра! Знаеш ты, напэўна —*
*Забаронена ў нас ценям прамаўляць...*

*Крыкнулі далёка дзесьці пеўні,*
*Цені сумна пакідалі пляц.*

*І над усімі нашымі пляцамі,*
*Каб ня даць заняцца дню,*
*Ходзяць зморыныя паліцаі*
*І вартуюць цішыню.*

1 Друкуецца паводле выдання «Масей Сяднёў. Цень Янкі Купалы». — Ватэнштэт, 1947 г. — у правапісе арыгіналу.
2 Без падставы, без прычыны (ням.).
3 Прэч! (ням.).

# Пасля доўгай зімы

Уладзімір ЦВІРКА



## Капліца ў лесе

Малюсенькага росту бабулечка, седзячы на лавачцы, перабірае высушаную цыбулю, абіраючы залацістае шалупінне, і складвае цыбуліны ў пляцёнку, падвешаную на нізкай галіне яблыні, якая раскінула свой цень і над намі, і над большай часткай невялікага двара.

— Так вы кажаце, што ведаеце, хто паставіў каплічку у лесе? — пачынаю я размову.

— Чаму ж не ведаю. Калі мне распавялі гэта, была я зусім малая, але нешта памятаю, і нешта маці потым пераказала. Слухай, калі цікава.

У маладога пана з тутэйшага маёнтка памерла вельмі прыгожая маладая жонка. Пры цяжкіх родах дзіця здолелі выратаваць, а вось пані памерла. Можа, родныя, можа, проста добрыя людзі дапамаглі маладому гаспадару выгадаваць дзяўчынку. І вось праз некаторы час па сядзібе ўжо бегала і шчасліва шчабятала анёльская істота.

Журба страты пачала пацíху адступаць. Час лячыў душэўную рану маладога мужчыны. Неўзабаве пачалі гаварыць, што ў суседнім маёнтку на выданні нявеста... І пачалі яны сустракацца.

І вось аднойчы пан, вяртаючыся позна дадому, праязджаў па дарозе праз лес, і здалося яму, што на бакавіне дарогі быццам стаіць на каленях жанчына ў белай сукенцы і моліцца. Але што дзіўна — тварам не да дарогі, а да лесу... Мужчына вырашыў, што яму ўсё здалося. І праз некаторы час ён нават пачаў забываць пра гэтае здарэнне, калі аднойчы ўсё паўтарылася зноў. І ў постаці ўкленчанай здані пачаў удавец пазнаваць сваю памерлую жонку. І малебен быў замоўлены па нябожчыцы, і месца тое асвячалася, і малітвы чыталіся прывезеным да лесу святаром, але здань не знікала. І пачалі казаць людзі з маёнтка ўдаўца, што сэрца маці з таго свету адчувае нядобрае ў будучым шлюбе бацькі дзяўчынкі і намагаецца даць знак, каб зберагчы дзіця ад нядобрага, якое, магчыма, прынясе ў дом мачыха. І каб дагадзіць нябожчыцы, павінен пан перарваць новае знаёмства, а на месцы з'яўлення сваёй жонкі паставіць капліцу са скульптурай укленчанай Маці Божай.

Прыслухаўся бацька дзяўчынкі да парады свайго духоўніка і знаёмых вернікаў, бо больш за ўсё любіў ён сваё роднае дзіця, сваю малую дачушку, якая з кожным днём станавілася ўсё больш падобнай да сваёй памерлай маці. Больш не ездзіў малады пан у суседні маёнтак, а ў лесе пры дарозе неўзабаве з'явілася капліца. Скульптару заказалі фігуру Маці Божай, але ўсталяваць яе не даваліся — надышоў 1812 год...

Так як малады памешчык змагаўся на баку Напалеона, расійская ўлада адабрала яго маёнтак, і ён быў вымушаны пакінуць радзіму пры адступленні французскага войска. Па дарозе яму ўдалося развітацца з роднымі і забраць з сабой дачку. Як склаўся іх далейшы лёс, невядома.

Калі ехаць хутка і не глядзець па баках, то можна і не заўважыць на ўскрайку дарогі ў лесе сціплую капліčку, дагэтуль без крыжа і скульптуры ўкленчанай Маці Божай.

Яшчэ ўспомніла мая суразмоўніца, што пасля Другой сусветнай вайны з-за мяжы да гэтай капліцы прыязджала маладая пара з маленькай дзяўчынкай.

— Хутчэй за ўсё — родныя той памерлай пані, — уздыхнуўшы, дадала старая. — Добра, што праз столькі часу памятаюць...

## Пасля доўгай зімы

Нават на самай падрабязнай карце гэта маленечкае паселішча ўжо не адзначана...

Імгненна расступіўшыся, лес прапусціў прасёлкавую дарогу, якая быццам увarвалася ў гэту ціхую шэрую прысядзістую вёсачку. На першы погляд здалося, што яна нежылая. Але акуратныя, дагледжаныя невялікія гароды і кветнікі казалі пра тое, што тут яшчэ ёсць людзі, што і тут яшчэ тлее вясковае жыццё. Шум аўтамабіля, які павольна рухаўся па дарозе, прымусіў жыхароў павыглядваць у вокны, а некаторых нават — выбрацца на двор і падысці да веснічак, каб пацікавіцца, хто прыехаў у і богам і людзьмі забытае месца і навошта.

Хто б мог падумаць, што я пачую тут гісторыю пра сцірты саломы! Так-так, звычайныя сцірты саломы, якія пад восень з'яўляюцца на абшарах калгасных палёў, ля дарог, на ўзлессі, бліжэй да вёсак і пасёлкаў. Хаця класічныя, калі можна так сказаць, сцірты саломы пакрысе ўжо сыходзяць у мінулае. Дзякуючы новым тэхналогіям уборкі збожжавых нашы палі застаўлены саламянымі пакамі і бухтамі, перавязанымі моцным шпагатам, празрыстай сеткай ці белым цэлафанам, што выглядае зусім ужо непрывычна, ненатуральна і нават брыдка і не мае нічога агульнага з супакойваючым вока восеньскім пейзажам. А вось у гэтых мясцінах яшчэ можна ўбачыць звычайныя сцірты. Вялікія даўгія збудаванні з вялікай колькасці жоўтай саломы, якія нагадваюць... Але не будзем забягаць наперад. Перакажу так, як пачуў.

...Пасля «гарачай» уборачнай пары абшары палёў супакоіліся і заціхлі. Быццам супакоіўся і заціх сам час. Сцірты саломы, якія застылі на палях, нагадваюць вялікіх лахматых залатых вусеняў. Быццам стаміўшыся пасля доўгай цяжкай дарогі, яны застылі, замёрлі там, дзе іх застаў гэты самы заціхлы час. Усё гэта здарылася якраз тады, калі ім гэта было патрэбна, употай ад чалавечага вока, па волі невядомай, неразгаданай сілы. Менавіта тады, калі было неабходна, каб пачаўся новы этап у вечным развіцці. І нават не іх саміх, гэтых залатых вусеняў-сціртаў, а зусім іншых незвычайных істот, якія з'явяцца са сціртаў праз некаторы час, час зачацця, фармавання і сталення. А будзе гэты час халодным і цёмным — час доўгай зімы. І трэба будзе намагчыся і сабраць сілы, зберагчы цяпло, зберагчы энергію сонца для новага жыцця гэтых міфічных істот. Прыйдзе вясна, цяпло і святло, многа цяпла і святла. І лопнуць гэтыя шэрыя струпы пацямнелых вусеняў-сціртаў, і адваліцца непатрэбнае шалупінне, і з'явяцца вялікія-вялікія прыгожыя істоты з непаўторнымі ўзорамі на незвычайных крылах, з чароўнымі спевамі ветру ў гэтых крылах. Істоты, падобныя ці то на матылькоў, ці то на анёлаў.

**Дзякуючы новым тэхналогіям уборкі збожжавых нашы палі застаўлены саламянымі пакамі і бухтамі, перавязанымі моцным шпагатам, празрыстай сеткай ці белым цэлафанам, што выглядае зусім ужо непрывычна, ненатуральна і нават брыдка**

Многім людзям, распавядае легенда, шэнціла ўбачыць гэтае нараджэнне, пераўтварэнне, гэтую неймаверна прыгожую з'яву. Але гэта было вельмі даўно. Калі ж перастала адбывацца чароўная з'ява, ужо ніхто не раскажа. Толькі ў памяці пакаленняў захавалася гэтая легенда ці казка і... сцірты, якія, як заўсёды, «будаваліся» ў канцы летняй гарачыні.

Вось і на гэты раз адбываецца ўсё, як заўсёды. З жывёльных двароў ад ледзьве заўважных сярод снегу вёсак рухаецца доўгая чарада страшна рыпучых саней. Ад мужыкоў у чырвоных, чорных, белых кажухах за вярсту нясе гарэлкай і тытунём. Коні пахнуць стойлам і сенам. І гэты абоз, падобны да даўгой старой змяі, рухаецца да сціртаў. І пачынаецца звычайная праца. Вострыя бліскучыя вілы з размахам упіваюцца ў бакі сціртаў, адрываюць шматы цёплай масы. Яна капамі валіцца на сані і вязецца ў даўгія цёмныя пабудовы, поўныя рагатых жывёл, дзе кідаецца ім пад ногі і праз некаторы час пераўтвараецца ў гной.

— А што сцірты, якія застаюцца на полі да вясны? — задаю я каверзнае пытанне. — Што з імі адбываецца, і чаму не з'яўляюцца з іх...

— А ці ведаеш ты, добры чалавек, — перарывае мяне апавядальнік, — што не з кожнага яйка на свет божы куряня з'яўляецца?

І мне раптам страшна захацелася, каб з кожнага...

Імгненна знікае за невялікімі пагоркамі вёсачка. За акном аўтамабіля праплываюць толькі што ўбраныя палі, на якіх дзе-нідзе застылі сцірты саломы, якія цяпер ужо мне здаюцца вялікімі вусенямі.

## Сын мастака

— Вось пачакай хвілінаčку, трохі чысцей апрануся, ды да суседкі маёй зойдзем. Яна табе, як ёсць, усё чыста распавядзе. У яе гэта надта ж добра атрымліваецца.

І вось мы ідзём з цёткай Маняй, з якой я толькі што пазнаёміўся, у суседні двор. А там — аладкі з чарніцамі, малако ў шклянках ды новая гісторыя ад суседкі цёткі Мані — яе добрай сяброўкі дзяцінства цёткі Насткі, якая пачынае прыкладна так:

— Гаспадыня мясцовай сядзібы — ужо немаладая ўдава — пабудавала невялікую каменную капліцу побач са сваім маёнткам, на ўтульнай цяністай паляне ў старым парку, заклаўшы яшчэ яе дзедам. Для роспісу капліцы яна запрасіла мясцовага мастака-самавука. Майстар з радасцю згадзіўся, тым больш што ў яго ўжо быў вопыт падобнай працы: ён распісваў драўляны храм у сваёй роднай вёсцы, што знаходзілася недалёка ад сядзібы.

У мастака было трое сыноў, малодшы з якіх таксама прыахвоціўся да малявання. На свой узрост у хлопчыка няблага атрымлівалася, таму бацька калі-некалі браў яго на працу як чаляднікa.

Даведаўшыся, што гаспадыня сядзібы бацьку працу прапанавала, пачаў хлопчык прасіцца яму дапамагчы. Перад тым, як дазволіць, бацька распавёў пра просьбу сына заказчыцы. Асцярожная пані адмовіла мастаку, бо лічыла, што праца будзе даволі складанай і адказнай, і яна не можа даверыць яе юнаму хлопчыку.

Што зробіш — такія былі ўмовы. Мастак перадаў сыну волю пані і, атрымаўшы спачатку частку грошай, узяўся распісваць капліцу.

А што ж наш юны герой? Ён, канешне, засмуціўся адмовай і вырашыў дзейнічаць наступным чынам. Бацька працаваў знутры капліцы і заўсёды ўдзень, хлопец жа ў сваю чаргу ўпотай пачаў распісваць нішу алтарнай сцяны звонку будынка. Працаваў ён па начах, бо баяўся, што гаспадыня сядзібы даведаецца, што ён не паслухаў яе забароны, і пазбавіць бацьку працы. А каб днём не ўбачылі яго працу, ён зрабіў драўляны шчыт у памер нішы і размаляваў яго пад камень сцяны капліцы. Калі пад раніцу хлопчык сыходзіў дадому, ён вешаў шчыт на месца, і ніхто не мог разгледзець ці нават западозрыць, што хаваецца пад гэтым драўляным «пакрывалам». Малады мастак заўсёды працаваў без свечкі ці ліхтара. Ён працаваў толькі тады, калі свяціў месяц, толькі калі месячнае святло дапамагала яму.

Гаспадыня сядзібы звярнулася з гэтай працай да мастака ў сярэдзіне восені. Хутка наступілі доўгія халодныя ночы, першыя замаразкі. Хлопчык хутка павінен быў скончыць свой роспіс, але ён моцна прастудзіўся і захварэў. З кожным днём маленькаму творцу станавілася горш і горш, а калі злёг канчаткова — адважыўся адкрыць бацькам сваю тайну.

Бацька ў сваю чаргу пераказаў гаспадыні аповед сына. Яны адразу ж знялі шчыт і ўбачылі амаль што закончаны цудоўны роспіс з выявай Збавіцеля.

А хлопчык згасаў на вачах. Марудзіць не было калі, і гаспадыня маёнтка, выдзеліўшы сваю карэту з рамізнікам, загадала адвезці юнае дараванне ў Вільню.

Хлопчыка выратавалі, і ён застаўся вучыцца ў мясцовай мастацкай школе на грошы, якія ўвесь час высылала яго выратавальніца.

Згубіліся сляды далейшага лёсу гэтага юнага мастака. Даўно няма ў жывых добрай пані, раз'ехаліся па свеце яе нашчадкі. Сама сядзіба і большасць гаспадарчых пабудоў моцна пацярпелі ад часу і людзей. Але роспіс на алтарнай сцяне маленькай капліцы можна ўбачыць і сёння. І сёння Збавіцель глядзіць нам услед з надзеяй і любоўю.

— Слухай, — казалі кабеты ў канцы нашай размовы. — Калі ты пра ўсё напішаш і гэта надрукуюць, можа так здарыцца, што недзе далёка родныя таго хлопчыка-мастака прачытаюць ды... але ж якое... яны, мабыць, вельмі далёка, а мо нават і ў жывых іх няма. А мо... Вельмі ж хочацца верыць...

**Пераклад з рускай Кацярыны Балаш.**

**Фота аўтара**

# Вершатварэнне між Палтаваю і Полацкам

**Раздумваючы над пачаткам рэцэнзіі на зборнік выбранага Іны Снарскай «Вогнепаклонніца», які выйшаў у Бібліятэчцы часопіса «Дзеяслоў», я ўспомніў пра тое, што год таму прачытаў і нават адрэцэнзаваў перакладзены на беларускую мову раман украінскага пісьменніка Уладзіміра Даніленкі «Клетка для івалгі».**

Галоўная гераіня рамана — самабытная і даравітая спявачка з правінцыі — у нечым вельмі блізкая да вобраза паэткі з Беларусі, якая цяпер жыве ў Палтаве са сваім натуральным голасам, якім яе адарыла Прырода для спявадання перад людзьмі і светам. Я, бадай, насмелюся прывесці некаторыя фрагменты са згаданага твора, якія характарызуюць яго гераіню і, на мой погляд, маглі б пэўным чынам праецыравацца і на паэтку Іну Снарскую: «Мне падалося, што яна ў гэты час ператварылася ў звар'яцелага салаўя, які так азартна спявае, што не можа спыніцца. Яе голас выцёхкваў, пераліваўся, узлятаў угору, падаў, і, як у клетцы, біўся (...) і напаўняў кожны закутак»; «Калі чалавеку дадзена спяваць, маляваць або пісаць, то ён павінен рабіць гэта, каб не звар'яцець і памерці. Закладзены ад прыроды творчы інстынкт прымушае чалавека яго развіваць, каб быць у гармоніі з сабой і светам».

Гэтае маё параўнанне, вядома, адноснае. І ўсё ж...

*А я іду — і дрэвы вырастаюць,*
*І матылькі садзяцца на руку,*
*А гэта значыць, што мяне пазнаюць*
*На тым баку.*
*Адтуляцца нябёсы — брама сэрца,*
*На могілках загояцца крыжы.*
*Там, дзе любоў, — няма тугі і смерці.*

Цяпер для тых, хто не ведае Іны Снарскай, дадам колькі яе біяграфічных штрыхоў. Бо да ўсяго ёсць што сказаць. Нарадзілася яна ў старажытным Полацку. Тут жа, непадалёк, скончыла Навапалацкі політэхнічны інстытут і нядоўгі час працавала інжынерам-будаўніком у Маладзечне. Аднак неўзабаве выйшла замуж за ўкраінца і пераехала на пастаяннае месца жыхарства ў блізкагалосую з родным Полацкам Палтаву. Маючы творчую натуру, паступова схілілася да журналістыкі, скончыўшы філфак мясцовага педінстытута.

Пры ўсім пры тым паэтка актыўна друкавалася ў беларускіх літаратурных выданнях і сяды-тады выдавала зборнікі сваіх вершаў. У меншай меры, але выступала яна і ва ўкраінскім рэспубліканскім друку. На сённяшні час Іна Снарская з'яўляецца аўтарам васьмі паэтычных кніг: «Пацеркі», «Пачакай, мая птушка...», «Лясная панна», «Кветка гарынь», «Две зямлі — две долі», «Верасовыя песні зары», «Ад сэрца да сэрца — дарога...» і гэтай, пакуль апошняй, «Вогнепаклонніца», якая з'яўляецца своеасаблівым выбраным з усіх яе папярэдніх, праўда, з невялікім дадаткам новых вершаў. Паэтка — сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў і Нацыянальных саюзаў пісьменнікаў і журналістаў Украіны. Як бачым, жыццяпіс Іны Снарскай багаты на геаграфію і даволі важкі ў творчым плёне.

*І наталяй світанкам да краёў,*
*Ад родных берагоў і да заморскіх,*
*Да ўсіх маіх сцяблін і каранёў*
*У Полацку і на абшарах Ворсклы.*




*Мне на Палтаве чуюцца званы*
*Сабораў менскіх. Сэрца адзавецца*
*На мове вершаў сонечна-зямных.*
*Ты іх пачуеш. Толькі ты і вецер.*

Вядома, што для беларускамоўнага творцы разлучэнне з Айчынай, няхай і не такое далёкае, як па адлегласці, так і па духоўнай блізкасці, патрабавала затраты немалых духоўных высілкаў і некаторых ахвяраванняў на ўзроўні бытавых і грамадскіх паводзін. Тое часам прачытваецца ў вершах наўпрост ці ў прыхаваных падтэкстах:

*А Радзіма кожнаму сілы дае —*
*Аб каменне не біць калені.*
*Дарога вучыла мяне сталець*
*Памяццю пакаленняў.*
*Нябыту кажа дарога: «Не!»*
*А я прарастаю галінамі*
*Ад каранёў, што жывілі мяне*
*І на зямлі пакінулі.*

Амаль у кожным вершы адчуваецца, што ў паэткі вельмі моцная прывязанасць да роднай зямлі. Нібыта яе кроўная пупавіна так і засталася не адрэзанай і па-ранейшаму трывала звязвае яе фізічныя і духоўныя повязі з Беларуссю.

І толькі значна пазней, абжыўшыся, агледзеўшыся і паразумеўшыся з блізкім славянскім светам, паэтка змушана зміры̂цца са сваім жыццёвым выракам, каб шукаць лад і гармонію ў стасунках з пародненым і кроўным:

*Адна зямля падставіла рукі,*
*Каб не ўпала на дол.*
*..............................*
*Другая зямля ратавала слова,*
*Дзе вусны агнём пякло.*
*..............................*
*Выткалі мне две зямлі две долі,*
*Дзве песні маіх.*

Паэзія Іны Снарскай заснавая на хрысціянскіх традыцыях і яшчэ чуйным з мінулых часоў водгуллі паганскіх матываў. Нават прачытваецца, а дзе проста візуальна і пачуццёва прыадкрываецца-прагладваецца спаборная ўнутраная барацьба паміж імі, якая, што праўда, ніколі не прыводзіць да адкрытай варажнечы, а хутчэй да пэўных духоўных прызнанняў абодвума бакамі. Гэтыя акцэнты пранізваюць усю кніжку выбраных твораў паэткі, як беларускія класічныя ўзоры на нашых нацыянальных ручніках і вышыванках. Белыя, чырвоныя і, дзе-нідзе, чорныя, як нашая доля, колеры пануюць на снежна-завейных старонках пераважнай большыні яе вершаў.

*Прынясем дары Стрыбогу.*
*Прошчу нам шукаць не трэба.*
*Сэрца ведае дарогу —*
*Лёнам, лёнам, небам, небам...*

Не пакідаюць тэкстаў Іны Снарскай велічна ажыўленыя вобразы Прыроды, стыхіі свету і фальклорныя і традыцыйныя звычаі народа (легенды, прытчы, замовы, казачныя матывы і гістарычныя алюзіі). Вельмі паэтычна, затоена-ўзнёсла гэта выказана ў вершы «Тройца», які хочацца працытаваць цалкам:

*У хаце пахне зёлкамі,*
*І чабаром, і мятаю.*
*Душа далоняй волкаю*
*Фіранку неба кратае.*
*І дождж ідзе, і поўніцца*
*Вядро, як поўня боская.*
*На ганку Багародзіца*
*Памыла ногі босыя.*
*У хаце пахне мятаю,*
*І печ павольна дыхае.*
*Прыснілася так свята мне*
*Зялёнае і ціхае.*

Майстэрства вершаскладання палягае ў творчасці Іны Снарскай найперш у аўтарскай душэўнасці, абвостранай пачуццёвасці і эмацыянальнасці, разняволенасці ў маўленні і музычнай алітэрацыйнасці, мройлівасці, а яшчэ падтэкставымі подступамі да прадчуванняў і прароцтваў, месцамі вельмі ўдалымі спробамі слоўнага чарадзейства, набліжанасцю да фальклорнай вобразнасці і вуснага малітоўнага маўлення-літання... Во якая задоўжаная, выказаная на адным дыханні, характарыстыка паэтычнай кухні паэткі...

*Мне словы зычыць вешчае пяро*
*Бязлітасна, адчайна і пакутна.*
*Крумкач прыладзіць правае крыло,*
*А левае да сэрца ўжо прыкута.*

Адкладаліся ў маёй памяці і найбольш часта ўжываныя словы, хоць сам слоўнікавы запас не надта каб аб'ёмны: неба, сонца, вецер, зямля, крылы, зара, кроў, агонь, лес, трава, кветкі, вечар, вечнасць, воля, воўк, снег... Не надта каб хацелася прыпыняцца на негатыве, аднак абыйсці яго, нібыта не заўважыўшы, не выпадае. Вершы паэткі балансуюць на мяжы ўзлёту і падзення. Праследжваецца слабы мысленчы пасыл, што робіць занадта празрыстым ідэйную скіраванасць вершаў, нярэдка ўзнікае дысгармонія пачуцця і думкі, робіцца заўважней метафарычная мітуслівасць, неўладкаванасць (несастыкаванасць і некіраванасць) сюжэтнай лініі (у аркестраванасці тэкста адчувальная адсутнасць дырыжорскай рукі аўтара), шмат залішне аддаленых рыфмаў і рытмічных перападаў — і ўсё гэта праз празмерную разняволенасць і адыход ад пэўных (абраных) формаў вершаскладання. Іншым разам такая натуральнасць голасу і стану душы спараджае выдатныя мастацкія вобразы і цэльныя вершы, але ў некаторых выпадках, дзе ў вершах парушаецца мастацкая гармонія, губляецца-заблытваецца цэльнасць думкі, знікае вобразная стройнасць твора ўвогуле... Дзеля прыкладу:

*Млела, лілося дарогамі дзіва,*
*Дзе дыванамі зара.*
*Рукі раскінула велічна зліва*
*Злева ад сэрца, ў барах.*

Там-сям не абышлося без славянскага трохмоўя (беларуска-руска-ўкраінскіх словаўтварэнняў, у такім кантэксце як бы й дапушчальных). Спадзеючыся на паразуменне і адэкватнае ўспрыманне аўтарам гэтых маіх заўваг, усё ж закруглюся такімі вось аўтарскімі радкамі (з помным класічным ахматаўскім зачынам):

*Я звяроў вучыла размаўляць.*
*Я людзей прасіла спачуваць...*

Асобна трэба вылучыць два найбольш буйныя творы, да ўсяго адметныя і ўдалыя. Гэта верш «Карані», пра забітых у 1937 годзе сталіністамі дзеда паэткі Іосіфа і яго роднага брата Клаўдзія. Сямейная, родавая трагедыя, якая адклалася балючай памяццю ў нашчадках. У заключных радках паэтка піша, што

*На вастрыі адвагі*
*І сонечных сумётаў*
*Гараць жывыя душы*
*Тых, хто вучыў нас лётаць.*

Вярнуўшыся да блізкага, кроўнага, Іна Снарская адыходзіць яшчэ далей, паглыбляючыся ў нашае далёкае гістарычнае мінулае. Яна піша паэму «Рагнеда». Хто толькі з нашых паэтаў не браўся за мастацкае ўвасабленне гэтага вядомага вобраза-сімвала?! Удача твора праявілася ў прыроднай прастаце і зямной жаноцкасці гераіні твора, яе нацыянальнай самабытнасці. Хіба можна чытаць без душэўнага надрыву і фізічнага болю наступныя строфы фінальных сцэн паэмы:

*Княжа мой, пакладзі ў труну*
*Васілёчкі з палёў радзімых,*
*І свяшчэнную даўніну,*
*І гаротны погляд Радзімы.*
*Абдымі мяне, неба, мацней.*
*Дзе кайданы хароняць песні,*
*Прыгадайце, людзі, мяне,*
*Калі я аднойчы ўваскрэсну.*

Як бы праецыруючы тую гістарычную трагедыю на сённяшні час, паэтка пасля напіша ў адным сваім вершы:

*Там моляцца за нас,*
*а мы за іх старэем,*
*А мы за іх ідзем да берагоў душы,*
*І для сваіх дзяцей мы*
*сталі ўжо карэннем,*
*Трымаем на плячах*
*зялёны звон вяршынь.*

Выдатныя, высокія словы. І пры тым не рытарычныя. Паэтцы верыш нават тады, калі яна на пранізлівай ноце хвалявання спавядаецца ў сваіх творчых удачах і праліках. Хто з нас без граху? Іна Снарская прагне паэтычнай дасканаласці, пераскокваючы па хісткіх і колкіх рыфмах, як па вострых каменных рыфах сярмяжнай праўды, намагаючыся дасягнуць цвёрдай выспы той мастацкай праявы, з вышыні якой ужо не страшна будзе зірнуць уніз...

Такім паэтам шмат што прабачаеш. Бо ў глыбіні іх вершаў адчуваеш існае, сапраўднае стварэнне дзіва, якое зрэдзьчасу здараецца, і ты разумееш, што такое даецца толькі адораным. У гэта верыш, гэтага чакаеш... Пакуль аднойчы нехта не скажа:

*Навучыла быць прыгожай*
*І глядзець за далягляд.*
*У маёй далоні можа*
*Зацвісці бацькоўскі сад.*

І ты вусцішна завіснеш над кніжнай старонкай. Гэта і ёсць паэзія. Шкада, што здараецца яна ў нашым жыцці ўсё радзей. У кніжках — таксама.

**Леанід Галубовіч**

# Напярэдадні «Сезона пралесак»

**Адкрыццё новага літаратурнага года выдалася вельмі яркім і насычаным як на кніжныя выданні, так і на літаратурныя публічныя імпрэзы.**

Знайбольш адметнага — гэта шматлюдны фестываль паэзіі «Вершы на асфальце» і ўручэнне першай прэміі імя Міхася Стральцова, прысуджанай паэту Алегу Мінкіну. Не забудзем і пра «дзеяслоўную» штогадовую прэмію «Залаты апостраф». Гэтым разам ёю ўзнагародзілі паэта Анатоля Брусевіча і празаіка Андрэя Федарэнку. За лепшы дэбют адзначана Марына Булатоўская. А спецыяльнай прэміяй за значны ўнёсак у развіццё сучаснай беларускай літаратуры ўганараваны Алесь Разанаў.

Выйшаў і новы нумар «Дзеяслова» за 2018 год. Я прачытаў яго адным з першых і звярну вашу ўвагу на самае адметнае.




Новая нізка вершаў Васіля Зуёнка «Ты сам сабе і шлях і абарона» (чытаючы назоў падборкі, аматарам паэзіі наўрад ці ўдасца пазбегнуць міжвольнай асацыяцыі з творчасцю А. Разанава) падаецца жывой, цёплай і ўзроства-мудрай, з добрай іранічнай усмешкай на вуснах. У яго вершах абсалютна няма павучання альбо маралізатарства, а тым больш енку і хвравітай скрухі. Вершы прыемна чытаць і сёе-тое для сябе адцемліваць:

*І гэта кожны знае па сабе.*
*Паэзія — у кожнага ў планідзе:*
*З адным у злагадзе, з другім у барацьбе*
*Жыццё тварыць — інакш яна не прыйдзе.*
*І ў гэтым сэнс — і для сябе й для свету:*
*Рабіць — і прыгажосці слугаваць.*
*Жыве паэзія — і не крычыць аб гэтым,*
*А слугаваць — як з Богам размаўляць.*

Душэўна расчуліла мяне настальгічна-крэўная проза Міколы Захаранкі. Вельмі шкада, што ён выступае ў друку неяк спарадычна, час ад часу, — то з вершамі, то з п'есамі, то з прозай, то па-руску, то па-беларуску, тым самым як бы рассыпаючыся на мастацка-іскрыстыя аскепкі, але пры гэтым адзінацэльна і гарманічна не складваючыся ў пазнавальна-пэўную творчую асобу. Выразную і выбітную для чытача і для нашай самнамбулічнай крытыкі. А талент жа ў Міколы — дай Бог кожнаму. Прачытаўшы яго даволі аб'ёмнае апавяданне «Дзе ноч агорне, хай там разбудзяць», я нібыта сам пабываў на бацькаўшчыне, усцешаны і сагрэты пачуццямі маладосці і той вінаватай трывогі і задоўжанасці перад сваім мінулым... Беларусы — гэта людзі, якія мала-пацісху апошнім часам губляюць сваю нацыянальную родавую прывязанасць да гістарычных каранёў і ўсё больш напамінаюць людзей, жыватворныя душы якіх высушылі разам з іх крэўнымі балотамі, вытруцілі калектыўным бальшавіцкім ладам, горкаю гарэлкаю і анкалагічным чарнобылем... Але балючая чэпкая памяць усё ж раз-пораз упарта вяртае іх на «свой пачэсны кут».

Чарговая балада Уладзімера Арлова «Вуліца Саламеі», як і папярэдняя, густа насычана гістарычным часам і асацыятыўным асобасным спектрам (неўміручымі імёнамі). Метафарычна вандруючы па львоўскіх кавярнях, аўтар міжвольна пераўвасабляецца ў іншых герояў, апынаючыся ў даўнім часе і дзіўных сітуацыях. Аднак нязменна адно — заўсёды і паўсюль ён імкнецца за сваім творчым духам, надаючы высакароднасці зямному гістарычнаму часу. Ён атачае чытача хмельна-эратычным трызненнем, прасцей кажучы, уводзіць яго ў своеасаблівы мройна-мастацкі транс:

*уранні кава*
*венскі штрудэль*
*о незабыўная нотка цынамону!*
*магчыма келіх аўстрыйскага*
*Аўслезе альбо Мускат Сільванер*
*можна ў ложак*
*пагатоў вакол усе свае*
*геніяльнае трансільванскае вуха*
*Стэфана Баторыя*
*Барбара Радзівіл*
*мармур і пазалота*
*грудзі трэцяга памеру*
*бяссоныя вусы Пане Каханку...*

Земляка Арлова, палачаніна Вінцэся Мудрова, як заўжды, чытаць займальна і свярбліва-ўсцешна (апоed «Зарок»): выдатная самавітая мова, не абцяжараны стыль ды гумарная, блізкая да фельетоннай, сюжэтная аўра зацягваюць цябе і трымаюць да самага нечаканага канца апаведа, дзе ўсё апастылелае гарыць ясным агнём... І шкада, вядома, не згарэлага, нават не попелу яго, а таго, як пісаў Цютчаў, кароткага вогненнага святла (ды хоць бы й водсвету толькі), што неўзабаве зноў зацягнецца задушным моракам і змрокам ужо звычнага беларускага жыцця:

— Ці бачыла пазіцынера? — пытаецца Мамоніха.

— Не яшчэ. Людзі кажуць — прыстойны чалавек,– маці налівае ваду ў чыгунок. — Кніжкі чытае.

— Як жа... прыстойны... На «хімію», мая дарагая, прыстойных не выпраўляюць. Невядома яшчэ — якія ён там кніжкі чытае. Можа, тыя, дзе пішуць, як людзей рэзаць ці як хаты паліць...

Я намагаўся ўжыцца ў вершы Вольгі Гапеевай, але гэта давалася няпроста, бо нешта недзе раз-пораз вытыркалася...

*і хочацца тады птушкам*
*забыцца на мову людзей*
*маўчаць і чакаць на паэтку*
*бо ў кожнага паэта*
*ёсць свая птушка*
*крумкач, голуб, кірля,*
*бывае яшчэ сарока*
*хаця сярод птушак бытуе павер'е*
*быццам у кожнай птушкі*
*ёсць свой паэт*
*ці паэтка...*

Друкуецца ўрывак з рамана «Сезон пралесак» Анатоля Разановіча. Не скажу, каб мяне надта ўразіла гэтая рэч. Надта ж спрошчаны, нярэдка амаль вучнёўска-прымітыўны тэкст як для мастацкай прозы, асабліва на зачыне, дзе ўсё адбываецца як у фэнтэзі, хоць аказваецца, гэта што ні на ёсць самы сапраўдны рэалізм. Усе сюжэтныя хаатычныя дзеі як бы адбываюцца па кантралюемай хэнці аўтарскіх пальцаў на клавіятуры кампутара...Хоць ідэя рамана, якая паступова нармалізуецца і вымалёўваецца, якраз вельмі глыбокая і важная як для сацыяльнага, так для нацыянальнага самавызначэння асобных людзей і іх (сучасных нам) эпохі. Захаванне чысціні прыроды і чалавечай маральнасці. І ўсё ж метады гэтай высакароднай ідэі выразна і вобразна дарэшты не выкрэсліваюцца на мастацка-літаратурным узроўні. Прынамсі не заўсёды і не паўсюль. Аднак нельга адпрэчваць, што цалкам выдрукаваны раман будзе мець больш выштукаваны і завершаны выгляд.

Простыя, як чалавечае жыццё, вершы берасцейца Міколы Аляхновіча прагнуць узлёту і вышыні. Цяжка сказаць, што іх стрымлівае. Хутчэй за ўсё, сама натура паэта, характарыстыка якой і адпавядае яго творчым пошукам і не выходзіць за падсвядома акрэсленыя ім межы. Аднак прарывы і нечаканкі здараюцца:

*паэзіі*
*цяжка прабіцца*
*ў салон*
*ці тралейбуса*
*ці якога буса...*
*а трапіць —*
*штрафуюць бязбожна*
*за безбілетны праезд.*

«Пуцькаўскія аповеды» Дзмітрыя Падбярэзскага па жанру і стылістыцы нечым падобныя да згаданага вышэй аповеду В. Мудрова, аднак не настолькі выкшталцоныя па ідэйнай глыбіні і мастацкім узроўні. На маю думку, яны блізкія да гумарэсак са сваім жартаўліва-сцёбным поглядам на наша сучаснае правінцыйнае жыццё. А «Выбары ў Пуцькаве» — выдатная «люстрацыя» нашых электаральных вымаганняў цягам больш як двух дзясяткаў гадоў...

Лірыка Вікі Трэнас набывае ўсё большую псіхалагічную трываласць і пачуцёва-мудрую глыбіню мастацкага зместу. Натхненне ўжо не носіць паэтку беспрытульна, як ліст парыўным ветрам, між небам і зямлёй. Айчыннае прыцягненне адорвае яе сваім, хоць і цвёрдым, але пэўным зямным грунтам.

*Ты чытаеш гекзаметры*
*ў рытме хваляў марскіх*
*гучна, голасна, ледзь не крычыш*
*у сябе ўнутры,*
*і калі не адмовяць пачуцці,*
*зрок і слых,*
*ты не здолееш захлынуцца*
*ў сваім віры.*
*У замкнёнага кола ў нутры*
*схаваны вуглы,*
*у засмяглай рэчкі ў нутры —*
*бяздонная глыб.*

Даволі цікавы і арыгінальны паэт і перакладчык Алесь Емяльянаў-Шыловіч. Яго цёплая, пяшчотная сямейная лірыка ўзрушае чытацкае сэрца незаўважнымі лірычна пераніцаванымі драбніцамі жыцця. І ўсё ж хочацца зрабіць яму адну істотную заўвагу. У кожнага паэта ёсць адчуванне, што калі ён пачынае пісаць не надта ўдалыя вершы, то хочацца, каб яны былі апошнімі. З гэтым нельга не пагадзіцца. Але цяжка пагадзіцца з тым, што паэтычнае какецтва горш, чым вершаванае маралізатарства. Апошняга, па магчымасці, таксама трэба пазбягаць. Асабліва ў паэзіі.

*Адзін ужо напісаў развітальны*
*зборнік*
*які так і называўся апошнія вершы*
*а пасля праз тузін гадоў*
*выдаў кніжку чаго б вы падумалі*
*ну канечне ж вершаў!*
*...............................*
*другі сказаў што*
*пасля сарака паэт не паэт*
*але вось ужо дваццаць гадоў*
*друкуе свае паслясаракі*
*...............................*
*але какецтва не робіць*
*паэта паэтам*
*паэт не гаворыць пра гэта*
*і не ведае які верш*
*будзе апошнім*

Шчырае, цнатлівае і ў нечым наіўнае — адпаведна стылю — апавяданне Алеся Гібок-Гібкоўскага «Лідачка». Пра першае дзіцячае закаханне, якое суправаджае чалавека ўсё жыццё. І яму было б добрым месца, скажам, у школьнай хрэстаматыі для пазакласнага чытання.

Кара́лі кароткіх вершаваных строф «зацеміў» паэт Андрэй Козел з Нясвіжа. Здараюцца сярод іх і лірыка-філасофскія перлінкі, але не абышлося і без шараговых рытмізаваных надумак... Таму агульнае ўражанне ад прачытання крытычна-пазітыўнае. Хіба гэта не паэзія:

*Хоча дзяліцца*
*сваім хараством*
*першая маланка*
*вясною.*

У рубрыцы «Дэбют» надта ж зацягнуты і цьмяна-туманны расповед Аляксандры Дзмітранок «Справа прынцыпу». Марудныя перастраўліванне псіхалагічных намаганняў аўтара «на пустым месцы», якое некаму трэба заняць... Увогуле арыгінальна, але форма і стыль правісаюць ад недагружанасці сюжэта.

Раздзел перакладаў багаты на цікавыя імёны, а галоўнае, на выбітныя высокамастацкія творы. З рускай — аповед беларускага японца Вячаслава Казакевіча (Вера Лойка) «Па клетках казачнай краіны», з польскай — фрашкі Станіслава Ежы Ленца (Андрэй Хадановіч), з нарвежскай — міні-аповеды Ары Бэна (Лідзія Ёхансэн).

Шмат прыцягальных матэрыялаў літаратуразнаўчых і публіцыстычных — гэта эсэ Васіля Жуковіча «Сузор'я сусветнага зоркі» (пра Янку Купалу, Тараса Шаўчэнку і Адама Міцкевіча), Міхася Карпечанкі (пра жыццёвы і творчы лёс Міколы Цэлеша), «Незваротнае» Віктара Казько (пра ўласна пісьменніцкую і нашу агульную беларускую маўклівасць і не толькі). Друкуецца праца ўспамінаў вядомага нашага бібліёграфа Юліі Бібілы (1897–1974) пад назовам «...Прысвяціць сябе справе блізкай харошай!». Крытык Павел Абрамовіч піша пра «Дняпро як пра сістэмаўтваральную метафару ў рамане Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім»». Тэкст называецца «Бо ён — Рака».

У рубрыцы «Кнігапіс» — рэцэнзія Наталлі Якавенкі на кнігу Леаніда Драньго-Майсюка «...Натуральны, як лінія небасхілу» (пра «заходніка» Максіма Танка). «Дзеяпіс» змяшчае анатацыі да новых кніг.

Асабіста я перакананы, што чытач не застанецца абыякавым ад знаёмства з чарговым нумарам часопіса «Дзеяслоў».

**ЛеГал**

ПРЭМІІ

## Прэмія імя Салжаніцына

**Сталі вядомыя імёны лаўрэатаў літаратурнай прэміі імя Аляксандра Салжаніцына. У 100-гадовы юбілей з дня нараджэння пісьменніка ўзнагароду атрымалі два ілюстратары кніг.**

Сяргея Любаева прэміяй ушанаравалі «за адданую любоў да літаратурнай класікі, за найбагацейшую выяўленчую мову, якая ператварае кнігу ў дызайнерскі шэдэўр», а Віктара Брытвіна ўзнагародзілі «за выдатныя па якасці і выразнасці ілюстрацыі да казак і міфаў народаў свету; за глыбокае і ўсхваляванае прачытанне рускай лагернай прозы поглядам мастака-графіка».

Гэтае рашэнне прыняло журы прэміі пад старшынствам прэзідэнта Рускага грамадскага фонда Наталлі Салжаніцынай, у якое ўвайшлі пісьменнік і журналіст Павел Басінскі, тэатразнаўца Барыс Любімаў, дырэктар Дома Рускага замежжа Віктар Масквін ды іншыя.

Цырымонія ўзнагароджання адбудзецца 26 красавіка ў Маскве, у Доме Рускага Замежжа імя Аляксандра Салжаніцына.

## Прэмія «AAAS / Subaru Children's Science Book Prize»

**Амерыканскай асацыяцыяй садзейнічання развіццю навукі — «AAAS» — і карпарацыяй «Subaru» абвешчаныя назвы кніг-пераможцаў прэміі на лепшую навуковую кнігу для юных чытачоў.**




У ліку пераможцаў прэміі ў 2018 годзе — кніга для дзяцей малодшага ўзросту «Прыгажосць і дзюба: як навука, тэхналогія і 3D-раздрукоўка дзюбы выратавалі белага арла» Дэбары Лі Роўз і Джэйн Вельткамп (2017); для дзяцей сярэдняга ўзросту — «Жывёлы ў лічбах: кніга інфаграфікі жывёл» Стыва Джэнкінс (2016); для дзяцей старэйшага ўзросту — «Як прыручыць лісіцу (і стварыць сабаку): сібірская казка аб развіцці эвалюцыі» Лі Алана Дугаткіна і Людмілы Трут (2017) і «Гэтая кніга смярдзіць! Валавое смецце, гнілое смецце і навука аб смецці» Сары Васнер Флін (2017).

Прэміяльная праграма рэалізуецца ўжо на працягу 13 гадоў. Яе мэтай з'яўляецца заахвочванне на стварэнне і публікацыю якасных навуковых кніг для дзяцей, падлеткаў, моладзі, якія дазваляюць чытачам сфармаваць больш глыбокае і поўнае ўяўленне аб розных сферах навукі.

Генеральны дырэктар Амерыканскай асацыяцыі садзейнічання развіццю навукі і выканаўчы выдавец часопіса «Science» Рашэм Холт адзначыў: «Нават у эпоху лічбавых тэхналогій фактычныя кнігі даюць акенца вачам дзіцяці, якога яно не магло б дасягнуць».

## Прэмія Ізраіля

**Пісьменнік Давід Гросман атрымаў Прэмію Ізраіля ў галіне літаратуры і паэзіі. Журы адзначыла, што Д. Гросман з'яўляецца адным з самых знакамітых, шануемых і любімых ізраільскіх пісьменнікаў у свеце, і назвала яго «адным з самых глыбокіх, кранальных і ўплывовых галасоў ізраільскай літаратуры».**



У 2015 годзе Д. Гросман і яшчэ некалькі ізраільскіх пісьменнікаў знялі свае кандыдатуры на атрыманне Прэміі Ізраіля, калі канцылярыя кіраўніка ўрада ўмяшалася ў працу камісіі, выключыўшы з яе прафесараў Аўнер Хольцмана і Арыэля Хіршфельдам.

У мінулым годзе Д. Гросман з раманам «Зайшоў неяк конь у бар» ганараваўся міжнароднай літаратурнай Букераўскай прэміяй («The Man Booker International Prize») за лепшы раман, перакладзены на ангельскую мову. Пісьменнік стаў першым ізраільцянінам, які атрымаў гэтую прэстыжную прэмію ў галіне літаратуры.

Давід Гросман — аўтар бэстсэлераў мастацкай літаратуры, навукова-папулярнай і дзіцячай літаратуры, яго творы перакладзены на 36 моў. Ён быў ушанараваны шматлікімі міжнароднымі ўзнагародамі, у тым ліку французскай «Chevalier de l'Ordre des Arts et des Lettres», нямецкай «the Buxtehuder Bulle», рымскай «Premio per la Pace e l'Azione Umanitaria», Франкфурцкай прэміяй міру ды ізраільскай «Emet Prize».

# Ліст Эрдагану ад 38 нобелеўскіх лаўрэатаў

**3 сакавіка ва ўсім свеце адзначаўся Дзень пісьменніка.**

Прафесійнае свята літаратараў было заснавана Міжнародным ПЭН-клубам у 1986 годзе. Яго мэтай з'яўляецца супрацьстаянне ціску на прэсу і абарона свабоды слова.

У гэты дзень сёлета быў апублікаваны адкрыты ліст прэзідэнту Турцыі Эрдагану ад 38 нобелеўскіх лаўрэатаў-літаратараў у сувязі з пажыццёвым зняволеннем турэцкіх журналістаў. У сярэдзіне лютага турэцкі суд вынес рашэнне аб пажыццёвым зняволенні пад варту турэцкіх журналістаў, абвінавачаных у спробе ваеннага перавароту.

Дакумент пачынаецца так: «Паважаны прэзідэнт Эрдаган, мы хацелі б звярнуць вашу ўвагу на шкоду, нанесеную Турэцкай Рэспубліцы, яе рэпутацыі, годнасці і дабрабыту яе грамадзян, нанесеную вядучымі органамі ўлады па свабодзе выказвання думак. Лічым незаконным затрыманне і неправамернае асуджэнне пісьменнікаў і мысляроў».

У лісце адзначана, што пакуль Турцыя не вызваліць затрыманых пісьменнікаў і не вернецца да вяршэнства закона, яна не можа прэтэндаваць на сяброўства ў вольным свеце.

Заканчваецца ліст так: «Рашэнне суда, які асудзіў журналістаў, каб пагоршыць жыццё ў турме за іх працу, не прадставіўшы істотных доказаў іх удзелу ў спробе дзяржаўнага перавароту ці забеспячэння справядлівага судовага разбору, крытычна пагражае журналістыцы і свабодзе выказвання, свабодзе СМІ ў Турцыі».

Сярод тых, хто падпісаў гэты ліст, такія вядомыя аўтары, як Марыё Варгас Льёса, Элфрыдэ Елінэк, Святлана Алексіевіч, Кадзуо Ісігура, Дж. Робін Уорэн і многія іншыя.

# Міжнародны кніжны кірмаш у Мексіцы

**У мексіканскім штаце Юкатан у Мерыда з 10 па 18 сакавіка прайшоў VII Міжнародны кніжны кірмаш.**




У праграме былі лекцыі, майстар-класы, прэзентацыі адукацыйных праграм і выступленні творчых калектываў.

Міжнародны кніжны кірмаш адбыўся ў выставачным цэнтры «XXI стагоддзе» і Музеі свету майя ў горадзе Мерыда. Па словах кіраўніка аргкамітэта кірмашу Радольфа Кобаса Аргуэльё, адной з асноўных тэм мерапрыемства было вывучэнне спадчыны майя.

Адной з найважнейшых падзей кірмашу стала адкрыццё ў Мерыдзе помніка савецкаму гісторыку, этнографу і лінгвісту Юрыю Кнаразаву, які ў 1952 годзе здолеў дэшыфраваць пісьменнасць майя як складовае фанетычнае пісьмо, калі знак передае адзін склад. Ім быў створаны метад дэшыфроўкі старажытных сістэм пісьмовасці (ці метад пазіцыйнай статыстыкі), калі па ліку знакаў становіцца зразумела, якой сістэме яны могуць адпавядаць.

# Экранізацыя паэмы Кінга

**Паводле паведамлення выдання «Deadline», экранізацыяй вершаванага твора Стывена Кінга «Храм з костак» зоймецца рэжысёр «Атрада самагубцаў» Дэвід Эйр.**




Прадзюсавацца тэлесерыял «узяўся» Крыс Лонг, які быў выканаўчым прадзюсарам выдатнай адаптацыі бэстсэлера Кінга для сеткі «Audience» серыяла «Mr. Mercedes». Кінастудыяй праекта стала «Cedar Park Entertainment», прадзюсарская кампанія Дэвіда Эйра і Крыса Лонга. Аднак дату выхаду на экраны, а таксама акцёрскі склад серыяла пакуль не называюць.

Апавядальная паэма «Храм з костак» напісаная «каралём жахаў» яшчэ ў 1960-х гадах, але ўбачыла свет яна значна пазней. У 2009 годзе С. Кінг адрэдагаваў тэкст і апублікаваў яго ў часопісе «Playboy». У 2015 годзе твор у новым выглядзе трапіў у анталогію «The Bazaar of Bad Dreams».

У паэме распавядаецца аб экспедыцыі з 32 чалавек, арганізаванай авантурнікам, якая выправілася на пошукі ахутанага легендамі «Храма з костак». Яны знаходзяць яго і адкрываюць сакрэт, які не прызначаны для чужых вачэй...

Толькі трое застаюцца жывымі і вяртаюцца дадому, у тым ліку і апавядальнік гісторыі (які распавядае яе наведвальнікам бара за выпіўку).

# Крывавы раман

**Ураджэнка Вялікабрытаніі Джэма Лілі асуджаная на пажыццёвае зняволенне ў Аўстраліі за забойства 18-гадовага юнака-аўтыста Аарона Пажыча. Перад злачынствам яна напісала раман, у якім падрабязна пераказала пакуты ахвяры серыйнага забойцы...**

26-гадовая Дж. Лілі спачатку сціскала шыю сваёй ахвяры дротам, а пасля таго, як той парваўся, зрабіла А. Пажычу тры ўдары нажом. Цела юнака яна закапала ў садзе свайго дома.

Суд таксама прысудзіў да пажыццёвага зняволення саўдзельніцу Дж. Лілі, яе 43-гадовую сужыцельку Трудзі Ленан. Жанчына дапамагла брытанцы прывабіць А. Пажыча ў дом і здзейсніць злачынства.

Нявыдадзены раман Дж. Лілі пад назвай «Гульнявая зона» быў прысвечаны жанчыне, у якой была мара ўсяго жыцця: забіць каго-небудзь. Сваякі жанчыны распавялі, што яна марыла стаць вядомай пісьменніцай у жанры жахаў. «У дзяцінстве яна была апантаная серыйнымі забойцамі, але казала, што яна так «скідвае» напружанне», — распавяла мачыха Дж. Лілі.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Расійскія эсэры дапамагалі беларускім зброяй

Алег НОВІКАЎ

**Сярод даследчыкаў гісторыі БНР мала хто звяртае ўвагу на галоўнага ўдзельніка гэтай гістарычнай драмы — шматмільённае сялянства, інтарэсы якога ў той час прадстаўлялі эсэры. Яраслаў Лявонцьеў, прафесар Маскоўскага Дзяржаўнага ўніверсітэта, доктар гістарычных навук, адзін з вядучых спецыялістаў па гісторыі эсэраў, зрабіў кароткі экскурс у гісторыю гэтай несправядліва забытай сёння партыі.**



Фракцыя Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў

**Сакрэт поспехаў БПСР, відавочна, заключаўся ў эсэраўскай формуле «трыадзінага працоўнага народа». У адрозненне ад марксістаў, народнікі лічылі асноўнымі сіламі рэвалюцыі не толькі пралетарыят, але і працоўнае сялянства, і працоўную інтэлігенцыю**

***— Адкуль увогуле з'явіліся беларускія эсэры?***

— Другая Устаўная грамата Беларускай Народнай Рэспублікі была рэалізацыяй праграмы Беларускай сацыялістычнай Грамады — асноўнай палітычнай сілы БНР. Яна абвяшчала знішчэнне прыватнай уласнасці на зямлю і ўвядзенне 8-гадзіннага працоўнага дня. Аднак лідары БСГ не былі прафесійнымі палітыкамі. Таму кансерватарам, такім, як Скірмунт, які меў вопыт фракцыйнай барацьбы яшчэ ў царскай Дзяржаўнай Думе, удалося навязаць Радзе БНР свае ўстаноўкі. Адказам актывістаў БСГ стаў выхад з Народнага Сакратарыята БНР. Сама БСГ хутка раскалолася на некалькі партый. На вельмі левым флангу рэшткаў БСГ размясцілася Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў. БПСР узначалілі Тамаш Грыб і Палута Бадунова.

***— Якой была нацыянальная праграма беларускіх эсэраў?***

— Можна сказаць, што яны выступалі за канцэпцыю будучага дзяржаўнага ўладкавання Расіі як федэратыўнай рэспублікі, з якой да 1917 года выступалі амаль усе сацыялістычныя партыі (як агульнарасійскія, так і нацыянальныя). У аснову была пакладзена менавіта народніцкага тэорыя — з яе прадстаўленнем пра сацыялізм, які будуецца знізу ў саюзе абшчын. Марксісты першапачаткова прытрымліваліся ў галіне дзяржаўнага будаўніцтва больш жорсткага цэнтралізму і ўнітарызму. Пры гэтым расійскія левыя эсэры таксама выказваліся за права беларускага працоўнага народа на самавызначэнне.

***— Якія былі адносіны ў БПСР з расійскімі эсэрамі?***

— Вельмі блізкія, паколькі, акрамя ўласна БПСР, немалым уплывам у Беларусі карысталася агульнарасійская партыя левых эсэраў. Яе вядомымі прадстаўнікамі былі этнічныя беларусы, напрыклад, чальцы ЦК Уладзімір Карэлін (ураджэнец Смаленска) і Міхаіл Самахвалаў (ураджэнец Навазыбкава), або гамяльчанка Міна Капелуш, якая ў 1918 годзе стала чальцом Маскоўскага камітэта ПЛСР. У 1918 годзе былі створаны Беларускія секцыі Партыі левых сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Сам канфлікт паміж бальшавікамі і левымі эсэрамі з нагоды Брэсцкага міру, які прывёў да ўзброенага выступу 6 ліпеня 1918 года ў Маскве і наступнага пераследу эсэраў, быў выкліканы ў многім імкненнем ПЛСР прыйсці на дапамогу народам Беларусі і Украіны, што апынуліся пад германскай акупацыяй.

ЦК ПЛСР і яго Баявая арганізацыя аказвалі пастаянную дапамогу баевікамі і зброяй беларускаму падполлю. Ураджэнец Гродзенскай губерні балтыйскі матрос Павел Шышко каардынаваў паўстанцкую і дыверсійную працу супраць немцаў на тэрыторыі Беларусі і быў чальцом ЦК левых эсэраў і баявой арганізацыі.

Пасля вызвалення Беларусі вядомыя дзеячы ПЛСР, такія, як Аляксандра Ізмайловіч, Уладзімір Трутоўскі, Леў Кронік, прыязджалі ў Мінск і іншыя гарады, выступалі за самаарганізацыю і самавызначэнне працоўных. Аднак бальшавіцкія ўлады разгарнулі супраць іх пераслед.

***— Чаму эсэры хутка сталі найбольш масавай партыяй у лагеры БНР, і ўвогуле ў Беларусі? Вядома, што колькасць сяброў БПСР у 1920 годзе была ў некалькі разоў большай, чым колькасць сяброў ВКП(б).***

— Сакрэт поспехаў БПСР, відавочна, заключаўся ва ўсёй той жа эсэраўскай формуле «трыадзінага працоўнага народа». Гэта азначала, што, у адрозненне ад марксістаў, народнікі ў роўнай ступені лічылі асноўнымі сіламі рэвалюцыі не толькі пралетарыят, але і працоўнае сялянства, і працоўную інтэлігенцыю. Будучы дзяржаўны лад яны бачылі ў форме федэрацый прафсаюзаў і кааператываў. На практыцы праграма партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў прапаноўвала сацыялізацыю зямлі — грамадскае валоданне ёю з індывідуальным карыстаннем.

***— Малавядомы факт — у нейкі час перад беларускімі эсэрамі адкрылася магчымасць стаць не толькі легальнай партыяй у БССР, але нават кіруючай. Як гэта здарылася?***

— Пасля таго, як у 1919 годзе польскія войскі пачалі займаць тэрыторыю Беларусі, у БНР адбыўся чарговы раскол з нагоды стаўлення да новай акупацыі. У гэтым пытанні беларускія эсэры рашуча разышліся з сацыял-дэмакратамі, якія спрабавалі беспаспяхова дамагчыся ад Пілсудскага прызнання Беларусі. БПСР жа стала вырашальнай сілай у разгортванні партызанскай барацьбы з польскімі войскамі. Якраз тады бальшавікі сутыкнуліся з такой з'явай — сяляне часцяком адмаўляліся падтрымліваць паўстанцкі рух, калі ў яго кіраўніцтве не было эсэраў або анархістаў. Гэта было звязана з тым, што пасля ўвядзення харчразвёрсткі сялянства перастала безумоўна давяраць бальшавіцкай уладзе. З прычыны папулярнасці беларускіх эсэраў сярод сялян бальшавікі былі вымушаны лічыцца з імі як з сур'ёзнай сілай. Дэлегацыя БПСР на чале з Палутай Бадуновай выехала ў Маскву, дзе ў красавіку 1920 года вяла перамовы са Сталіным, патрабуючы прызнання ўрада БНР Ластоўскага.

***— Чаму перамовы праваліліся?***

— Фармальна — таму што бальшавікі не маглі пайсці на патрабаванні эсэраў: незалежнасць Беларусі ў складзе Віцебскай, Магілёўскай губерні і частак Смаленскай і Чарнігаўскай губерняў з беларускім насельніцтвам; стварэнне Беларускай Чырвонай Арміі; неадкладнае вызваленне ўсіх арыштаваных эсэраў. Не падабалася Маскве і ідэя склікання Усебеларускага працоўнага кангрэса і перадачы яму права вызначэння дзяржаўнага ладу Беларусі.

Але справа была не толькі ў разыходжанні паміж беларускімі эсэрамі і камуністамі ў падыходах да нацыянальнай незалежнасці. У левых эсэраў і БПСР быў і іншы погляд на саму сутнасць сацыялізму. Для іх «грамадства будучыні» — гэта федэрацыя тэрытарыяльных і вытворчых Саветаў, якія будуюцца знізу ўверх. Погляды бальшавікоў былі зусім іншымі — яны патрабавалі безумоўнай дыктатуры сваёй партыі.

Так ці інакш, у выніку беларускія эсэры выйшлі з ВРК Беларусі і адмовіліся падпісваць «Дэкларацыю аб абвяшчэнні незалежнасці БССР». У сакавіку 1921 года ВЧК правяла масавую аперацыю па арышце чальцоў БПСР. Пад ціскам камуністаў у 1924-м былыя эсэры пастанавілі лічыць сваю партыю ліквідаванай. У хуткім часе нязгодныя былі вымушаныя альбо перайсці ў глыбокае падполле на тэрыторыі БССР, альбо эміграваць за мяжу.

***— Які лёс чакаў беларускіх эсэраў у эміграцыі?***

— У эміграцыі беларускія эсэры адмовіліся ад супрацоўніцтва як з Камінтэрнам, так і з Сацыялістычным Інтэрнацыяналам. БПСР удзельнічала ў спробе стварэння «трэцяй сілы» на платформе вольнага сацыялізму. У маі 1923 года ў Франкфурце адбылася нарада прадстаўнікоў БПСР, левых народнікаў Літвы, Латвіі, галіцыйскай часткі Украіны, Незалежнай партыі Германіі, Бунда з Польшчы і Заходняй Беларусі і гэтак далей. Аднак цяжкія ўмовы эміграцыі, рэпрэсіі як бальшавіцкіх, так і польскіх уладаў у выніку прывялі да поўнага абяскроўлівання партыі. У той жа час у Заходняй Беларусі чальцы БПСР прынялі ўдзел ва ўзброенай партызанскай барацьбе супраць польскіх уладаў.

**Рэдакцыя выказвае падзяку гомельскаму гісторыку Юрыю Глушакову за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялу**



Дэлегаты I Усебеларускага з'езду Саветаў. Мінск, 2–3 лютага 1919 г.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Футбол і смерць

У арганізатараў Чэмпіянату свету па футболе ў Расіі новая праблема. Напярэдадні турніру высветлілася, што прафесійны футбол небяспечны для здароўя футбалістаў. Падставамі для такой высновы сталі два нядаўнія выпадкі. 4 сакавіка абаронцу клубу «Фіярэнціна» і зборнай Італіі Давідэ Асторы знайшлі мёртвым ва ўласным ложку, хаця напярэдадні 31-гадовы спартсмен выдатна сябе адчуваў. Прычына смерці — арытмія сэрца, праз якую спартсмен памер у сне. Праз некалькі дзён пасля Асторы памёр яшчэ адзін футбаліст — Тама Радрыгес, гулец французскага «Тура». Радрыгесу наогул было 18 гадоў. Дактары паглядзелі статыстыку за апошні час — і схапіліся за галаву: аказваецца, футбалісты ледзь не рэгулярна паміраюць з-за хваробаў сэрца, прычым часта наўпрост на футбольным полі. Рызыка памерці ад раптоўнага спынення сэрца ў маладога спартсмена, як высвятляецца, у 2,5 разы вышэй, чым у маладзёна, які не займаецца спортам. Не дапамагае нават тое, што спартсменаў уважліва абследуюць дактары. Пакуль ніхто ў медычным свеце не ведае, што рабіць. Пры выкарыстанні стандартных выратавальных захадаў па-за бальніцай ад раптоўнага спынення сэрца можна выратаваць толькі 2–3% футбалістаў.

**Паводле расійскай прэсы**

### УКРАІНА. Праз два гады — на лацінку?

Вадзім Калеснічэнка, экс-дэпутат Вярхоўнай Рады ад Крыму, які падтрымаў «Крымскую вясну», паведаміў, што ў Кіеве існуе план адмовы ад кірыліцы на карысць лацінкі. Паводле яго словаў, такую рэформу даўно лабіруе украінская дыяспара ў Канадзе, якая дала грошы на стварэнне спецыяльнага інстытута. Калі верыць таму ж Калеснічэнку, у гэтай установе — каля ста спецыялістаў, якія павінны прапрацаваць усе аспекты рэформы правапісу. Паводле Калеснічэнкі, інстытуту дадзены канкрэтны тэрмін — праз 2–3 гады цалкам падрыхтаваць усе матэрыялы для пераводу ўкраінскай мовы на лацінку. Цікава, што ў студзені мінулага года прэса ўжо пісала пра план моўнай рэформы. Праўда, за той ініцыятывай, паводле СМІ, стаялі не ўкраінскія канадцы, а прэзідэнт Пётр Парашэнка. Незразумела, наколькі рэалістычныя ідэі лацінізацыі ўкраінскай мовы з улікам цяперашніх эканамічных праблемаў краіны. Акрамя таго, частка ўкраінскіх нацыяналістаў выступае катэгарычна супраць лацінкі, бо бачыць у гэтым паланізацыю.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. У Першай сусветнай перамаглі хобіты

Брытанская грамадскасць у шоку ад узроўню ведаў прадстаўнікоў так званага пакалення «Millennials». Асабліва жудасна выглядаюць іх веды ў галіне гісторыі. Напрыклад, большасць прадстаўнікоў згаданай узроставай групы лічаць, што прэм'ерам Вялікабрытаніі падчас Першай сусветнай вайны быў Уінстан Чэрчыль (на самай справе, ён кіраваў брытанскім урадам у часы Другой сусветнай). Праўда, гэта яшчэ дробязі. На думку 10 працэнтаў падлеткаў, прэм'ерам Англіі ў 1914–1918 гадах была Маргарэт Тэтчар (брытанскі прэм'ер 1979–1990 гадоў). І, нарэшце, самы жудасны факт: пяць працэнтаў «Millennials» мяркуюць, што найважнейшай баталіяй у часы Першай сусветнай вайны была адна з бітваў, апісаных на старонках фантастычнай кніжкі Толкіена «Валадар пярсцёнкаў». Кансерватыўная прэса лічыць, што такая неадукаванасць выкліканая засіллем у адукацыі тэмаў, прысвечаных расізму і фемінізму. На думку прэсы, без вяртання да традыцыйных спосабаў вывучэння гісторыі Брытанія ў хуткім часе прасніць з'яўленне буйнога еўрапейскага дыктатара, накшталт Напалеона або Гітлера.

**Паводле брытанскай прэсы**

### АФРЫКА. Кантынент абудзіць «Чорная Пантэра»

Афрыканская інтэлектуальная эліта высока ацаніла «Чорную Пантэру», якая не так даўно выйшла на экраны. Фільм лічыцца прарыўным, паколькі гэта першая ў гісторыі Галівуду стужка пра супергерояў, дзе асноўнымі персанажамі з'яўляюцца чарнаскурыя. Больш таго, аўтары стужкі спецыяльна патрабавалі, каб галоўны акцёр размаўляў з афрыканскім акцэнтам. Нагадаем, што ў цэнтры сюжэту — барацьба за ўнікальны афрыканскі метал, які ад цёмных сілаў абараняе таямнічы дух саваны — «Чорная Пантэра». Стужка сапраўды выклікала бум на афрыканскім кінарынку. Як адзначае афрыканская прэса, тыпажы карціны аказалася незвычайнымі для афрыканцаў, якія раней бачылі на экране выключна белых супергерояў. У сувязі з гэтым афрыканскія інтэлектуалы нават кажуць, што Чорная Пантэра мабілізуе новую генерацыю афрыканцаў на вялікія прарывы. Праўда, хапае ў фільма і крытыкаў. Яны лічаць, што Галівуд аказаўся не здольным адаптаваць афрыканскую душу, яе каштоўнасці і забабоны. Сапраўды, герой першага «чорнага» блакбастэру вельмі падобны на звычайных белых кінагерояў.

**Паводле амерыканскай прэсы**

# «Жэ не манж па сі жур»

Алег НОВІКАЎ

**У межах Тыдня французскай мовы, які праходзіць з 17 па 25 сакавіка, Парыж заявіў пра намер вярнуць мове Мальера і Дзюма статус вядучай мовы ў свеце.**




Калаж www.pinterest.com

Славутая сцэна з «12 крэслаў» Ільфа і Пятрова, дзе Кіса Вараб'янінаў просіць міласціну на замежных мовах: «Мосье, жэ не манж па сіс жур. Гебен зі мір біттэ этвас копек ауф дэм шцюк брод. Падайце што-небудзь былому дэпутату Дзяржаўнай думы», — гэта яшчэ і ілюстрацыя тагачасных моўных рэалій. Вараб'янінаў не ўжывае англійскай, паколькі яе веданне да Другой сусветнай вайны не было абавязковай нормай. Нормай лічылася ведаць французскую, якая страціла свае пазіцыі ў сярэдзіне XX стагоддзя. Праз глабальны ўздым ролі ЗША lingua franca стала англійская.

На берагах Сены друганасць французскай мовы на фоне англійскай заўжды ўспрымалася як нацыянальная абраза. Не дзіўна, што час ад часу Парыж абвяшчаў кампаніі за вяртанне французскай былога статусу. Часам тыя кампаніі мелі трошкі камічны характар. Напрыклад, у часы Сарказі французскія дыпламаты ў ААН насілі значкі «Я не размаўляю па-англійску». Таксама сярод аматараў французскай мовы было папулярна троліць тагачаснага дырэктара еўрапейскага МЗС брытанку баранесу Эштан: яна кепска разумела французскую, якая лічыцца афіцыйнай мовай ЕС.

Усе апісаныя спробы, праўда, асаблівага выніку не мелі. І вось — новая бітва за сусветны статус французскай мовы, якую 20 сакавіка абвясціў асабіста Мануэль Макрон. Прычым гэтым разам амбіцыі маюць сур'ёзнае абгрунтаванне. Адраджэнню прэстыжу французскай павінен дапамагчы Brexit — выхад Вялікабрытаніі са складу Еўрасаюза.

Пасля выхаду Англіі з ЕС паўстае лагічнае пытанне — чаму англійская мова павінна заставацца афіцыйнай мовай аб'яднання? Хіба толькі дзве краіны — сябры ЕС (Мальта і Ірландыя) належаць да англамоўных. Лагічна, што ў французскай з'яўляецца шанс стаць афіцыйнай мовай ЕС, што, натуральна, будзе моцным штуршком яе папулярызацыі ва ўсім свеце. Дарэчы, у гэтым накірунку ўжо ёсць канкрэтныя поспехі. Напрыканцы снежня камісія Еўрапарламента па міжнародных адносінах падтрымала прапанову пашырыць ужыванне французскай мовы ў структурах Еўрасаюза.

Акрамя ЕС вялікая роля ў барацьбе за статус французскай адводзіцца «франкафоніі» — міжнароднай арганізацыі супрацоўніцтва франкамоўных краін свету. Цяпер у Рух франкафонаў уваходзяць 56 сяброў, якія прадстаўляюць розныя дзяржавы або часткі дзяржаў свету. Акрамя таго, пры руху зарэгістравана яшчэ 14 назіральнікаў. Важны аспект — асноўным крытэрам для ўступлення ў арганізацыю лічыцца не ступень валодання французскай мовай насельніцтва той ці іншай дзяржавы (хоць гэта і вітаецца), а, хутчэй, культурныя сувязі з Францыяй. Таму сярод сяброў руху такія экзатычныя краіны, як Арменія або Балгарыя.

Французская прэса заклікае творча развіваць гэты аспект. На яе думку, тэрмін «культурныя сувязі» можна пашырыць і на палітычную сферу, паколькі культуру Францыі цяжка зразумець без ліберальнай спадчыны Французскай рэвалюцыі. Іншымі словамі, рух франкафонаў можа набыць рысы нейкага геапалітычнага блоку, якія арыентуецца на лозунг «Свабода, роўнасць, братэрства!».

У падобных публікацыях можна трапіць на незвычайны тэзіс пра тое, што асаблівасці французскай мовы могуць дапамагчы нармалізаваць міжнародную сітуацыю. Маўляў, канфлікты на гэтым узроўні выклікаюцца праз агрэсіўны характар англійскай мовы, на якой сёння размаўляюць дыпламаты. А вось французская мова, якую, як вядома, называюць мовай кахання, здольная змякчыць дыпламатычную рыторыку і ўлагодзіць канфлікты.

Дарэчы, у галіне прыцягнення партнёраў за кошт мовы ў Парыжа таксама ўжо ёсць чым ганарыцца. У мінулым снежні заяву на ўваходжанне ў клуб франкафонаў падала Ірландыя. У Дубліне, дзе па-французску ніколі не размаўлялі, лічаць, што сяброўства ў руху дапаможа збалансаваць адносіны з Лонданам. Да таго ж Францыя дазволіць ірландцам працаваць на рынках былых французскіх калоній у Афрыцы.

З іншага боку, ірландскі фактар — не самы важны ў справе папулярызацыі французскай мовы. Шмат у каго з франкафонаў няма даверу да Макрона, які сёння выстаўляе сабе лабістам французскай мовы ў свеце. У свой час, яшчэ да абрання на пасаду прэзідэнта, ён меў вялікі канфлікт з актывам франкафонаў праз тое, што часта ўжываў у гутарцы англійскія тэрміны. Сам Макрон казаў, што англіцызмы — гэта цалкам нармальна, паколькі французская мова не павінна быць "зачыненай". Аднак такі аргумент шмат каму не падабаўся. Нездарма некаторыя вядомыя інтэлектуалы ў гэтым годзе адмовіліся ад удзелу ў мерапрыемствах Тыдня французскай мовы.

Хапае супярэчнасцяў і ўнутры лагера франкафонаў. Некаторыя афрыканскія інтэлігенты, напрыклад, лічаць, што рух франкафонаў — не што іншае, як інструмент для працягу каланіяльнай палітыкі, толькі ў больш мяккай форме. Звяртаецца ўвага на тое, што ў рамках структур франкафоніі прапагандуецца, як правіла, культура былой каланіяльнай метраполіі. Дастаецца Францыі і за сталую падтрымку афрыканскіх дыктатараў, ахвярамі якой, дарэчы, вельмі часта аказваюцца мясцовыя прадстаўнікі той жа франкафоннай культуры.

І, нарэшце, эксперты лічаць, што фатальным для падзення статусу французскай мовы ў свой час стаў прыём у склад ЕС цэлага пулу краін з Усходняй Еўропы. Сёння яны шмат у чым фармуюць абліччa аб'яднання. У гэтым рэгіёне ўся палітычная эліта размаўляе на англійскай мове, або ў іншым выпадку — на нямецкай. І наўрад ці сітуацыя з мовамі ў ЕС зменіцца праз вялікую ролю, якую адыгрываюць у палітычным жыцці ўсходнееўрапейскіх краінаў Злучаныя Штаты Амерыкі. Канстатацыя гэтага факта выклікае лагічныя сумневы наконт таго, што ў бліжэйшы час мы пабачым жабракоў, якія будуць прасіць міласціну словамі: «Жэ не манж па сіс жур».

# Расія: канец эры дыназаўраў

Алег НОВІКАЎ

**Сёлетнія выбары прэзідэнта Расіі былі апошнім званком для цэлай генерацыі палітыкаў. Хто прыйдзе на змену Жырыноўскаму, Зюганаву, Яўлінскаму і, магчыма, нават Пуціну?**



Фота www.job-in-net.ru

«Метэарыт, што праляцеў над палітычнымі дыназаўрамі», — такой фразай апісала сэнс выбараў 18 сакавіка адно з расійскіх СМІ. Сапраўды, сыходзіць эра тых, хто прыйшоў у палітыку ў 1990-я гады. Жырыноўскаму — 71 год, Яўлінскаму — 65, Зюганаву — 73. Салідны ўзрост наўрад ці дазволіць ім праз шэсць гадоў зноў балатавацца ў прэзідэнты. Затое самы час задумацца наконт пераемнікаў.

Напэўна, самая цяжкая сітуацыя ў ЛДПР, якая на 99,99 працэнтаў будуецца на харызме Уладзіміра Жырыноўскага. Праўда, сам Жырыноўскі на гэты конт спакойны. «Калі мяне няма, гэта значыць Міхаіл Дзегцяроў, Аляксандр Курдзюмаў, Барыс Чарнышоў, Аляксей Дзідзенка, Яраслаў Нілаў, Васіль Уласаў», — цытуе прэса словы Жырыноўскага. Усе пералічаныя ім асобы з'яўляюцца дзеючымі дэпутатамі Дзярждумы. Дарэчы, сярод дэпутацкай групы ліберал-дэмакратаў і віцэ-спікер парламента ад ЛДПР, сын Жырыноўскага Ігар Лебедзеў, якога таксама не варта скідаць з рахункаў.

Хаця кандыдатаў на пасаду старшыні ЛДПР шмат, ніводны не мае таленту клоўна, які ўласцівы Уладзіміру Вольфавічу. У выніку будучыня партыі вельмі цьмяная. Можа таму сам Жырыноўскі раней прапаноўваў цалкам распусціць усе існуючыя партыі і перайсці на амерыканскую мадэль, калі за ўладу будзе змагацца ўмоўна кансерватыўна-нацыяналістычная і сацыял-ліберальная структуры.

Яшчэ больш складаная сітуацыя назіраецца сярод камуністаў. КПРФ, атрымаўшы самы нізкі вынік у гісторыі, выходзіць з выбарчай кампаніі моцна расколатай знутры. Частка камуністаў, нагадаем, адмовілася падтрымліваць афіцыйнага кандыдата, бізнесмена Паўла Грудзініна. Зюганаў праводзіў нейкую незразумелую гульню, кулуарна выступаючы за пасіўны фармат кампаніі Грудзініна. Аб'ектыўна правальныя вынікі кандыдата КПРФ ствараюць сітуацыю, калі ўнутраныя групоўкі атрымліваюць аргументы для крытыкі — прычым, не толькі Грудзініна, але і нязменнага Зюганава. Усё гэта пагражае рэальным расколам структуры.

Прычым, стымуляваць дэструктыўныя тэндэнцыі ў КПРФ дакладна будуць і звонку. Напрыклад, лідар партыі «Справядлівая Расія» Сяргей Міронаў паведаміў пра неабходнасць аб'яднання «левых прапрэзідэнцкіх сіл», куды павінны ўвайсці камуністы, расчараваныя ў сваім кіраўніцтве.

А вось на ліберальным фланзе пытанне пра будучага лідара, здавалася б, стаяць не павінна. Відавочны прэтэндэнт — харызматычны і энергічны Аляксей Навальны. Аднак ёсць цэлы шэраг праблем, якія перашкаджаюць яму заняць пасаду лідара. Па-першае, Навальны ўшчэнт перасварыўся з паплечнікамі. Усе межы ён перайшоў 18 сакавіка падчас праграмы «Навальны Live». Па ходзе трансляцыі ён абвінаваціў прысутную ў эфіры Сабчак у тым, што ёй далі грошай для таго, каб яна выставіла сваю кандыдатуру на прэзідэнцкіх выбарах. Гэты некарэктны дэмарш аднагалосна асуджаюць усе дэмакраты.

Па-другое, пад сумневам знаходзіцца стратэгія стаўкі на моладзь, якую праводзіў Навальны. Як паказвае сацыялогія, цяперашняя расійская моладзь някепска ўпісаная ў спажывецкую мадэль, не фармулюе лозунгаў змены сістэмы. Радыкальныя погляды, як ні дзіўна, хутчэй уласцівыя жыхарам расійскай глыбінкі, дзе шмат побытавых і эканамічных праблем. Аднак рэцэпт рэформаў ад правінцыялаў прадугледжвае не дэмакратызацыю, а, хутчэй, рэстаўрацыю нейкага падабенства СССР.

Магчыма, пасаду спікера дэмакратаў будзе паступова займаць Сабчак. Вылучаная ад партыі «Грамадзянская ініцыятыва», яна набрала амаль 2 працэнты, моцна апярэдзіўшы іншага кандыдата ад апазіцыі Рыгора Яўлінскага з партыі «Яблоко». Гэта сапраўдны поспех, аднак у яго ёсць і адваротны бок. Сабчак падчас кампаніі ўмудрылася пабіць усе рэкорды антырэйтынгаў. Яе ў якасці палітыка ненавідзяць усе — уключаючы ліберальную публіку, і нават яе фанатаў. Для даведкі: Ксенія Анатольеўна набрала мільён з чвэрцю галасоў. Гэта амаль у чатыры разы менш, чым колькасць яе падпісчыкаў у Інстаграм.

Палітолагі кажуць, што асноўная прычына павальнай нелюбові да Сабчак — яе дэманстратыўны снабізм. Усё гэта дазволіла сфармуляваць нават новую аксіёму расійскай палітыкі: больш за «піндосаў» і «бандэраўцаў» расійскі народ ненавідзіць толькі «мажораў». Нездарма некаторыя лібералы кажуць, што Сабчак са сваім іміджам свецкай ільвіцы і тусоўшчыцы дыскрэдытуе дэмакратычную павестку дня.

Ну і, натуральна, галоўнае пытанне: хто будзе пераемнікам ВВП? Наконт гэтага дыскусія пакуль усур'ёз не пачыналася. Дарэчы, палітолаг Сяргей Бялкоўскі лічыць, што гэтым пераемнікам можа стаць... Сабчак. Хаця нельга таксама выключыць, што Пуцін застанецца ў Крамлі і далей, зноў падкарэктаваўшы Канстытуцыю.

Як бачым, пакуль будучы палітычны ландшафт у Расіі вельмі непрадказальны. Ёсць яшчэ адзін важны момант. Як слушна адзначыў палітолаг Канстанцін Косцін, «новыя асобы, новыя кандыдаты, якія ўдзельнічалі ў гэтых выбарах, — гэта не альтэрнатыва Яўлінскаму. Грудзінін — не альтэрнатыва Зюганаву. Сурайкін — не альтэрнатыва Жырыноўскаму». Усе новыя палітыкі сфармаваліся ў часы пуцінскай кіраванай дэмакратыі, калі палітычная канкурэнцыя мела пастановачны, а часам штучны характар. Таму ёсць рэальная пагроза падзення якасці палітычнага прадстаўніцтва ў Расіі, што адаб'ецца на легітымнасці і стабільнасці рэжыму.

У любым выпадку, ва ўсіх партый ёсць каля двух-трох гадоў на пошук новых лідараў і іх раскрутку. У 2021-м у Расіі адбудзецца думская кампанія, якая абяцае шмат сюрпрызаў.

**Усе новыя палітыкі сфармаваліся ў часы пуцінскай кіраванай дэмакратыі, калі палітычная канкурэнцыя мела пастановачны характар. Таму ёсць рэальная пагроза падзення якасці палітычнага прадстаўніцтва ў Расіі**

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Нікалае Паскару

Малдоўскі палітык, кіраўнік грамадскага руху «Ваяводы» падзяліўся сакрэтнай інфармацыяй пра арганізацыю ў краіне дзяржаўнага перавароту.

Паводле Паскару, у канцы сакавіка 2018 года ў Кішынёве адбудзецца антыдзяржаўны марш, у межах якога будзе абвешчана аб'яднанне з Румыніяй. «Ёсць сігналы, што 24 сакавіка будзе арганізаваны футбольны турнір, дзе збяруцца чальцы правых прарумынскіх арганізацый. Ёсць інфармацыя, што гэтыя экстрэмісцкія групоўкі дэстабілізуюць сітуацыю ў Кішынёве і акупуюць парламент Рэспублікі Малдова», — паведаміў ён. Лідар руху «ваяводаў» таксама заклікаў амбасады, акрэдытаваныя ў Малдове, і місію ААН у краіне «ўмяшацца для спынення гэтых правакацый і ціску з боку Румыніі».

Вельмі гучная заява Паскару выклікала цікавасць, аднак ацэнкі часам зусім супрацьлеглыя. Пішуць, што лялькаводы, якія могуць інспіраваць будучыя беспарадкі, сядзяць у Маскве, паколькі ў выніку перавароту будзе зрынуты цяперашні антырасійскі ўрад Малдовы. Не выключаюць, што ўрад партыі дэмакратаў і арганізуе пратэсты, каб увесці рэжым надзвычайнага становішча і застацца ва ўладзе. Якая версія слушная і наколькі ў прынцыпе сур'ёзны прагноз Паскару, мы даведаемся ўжо ў гэтыя выходныя.



### Дональд Трамп

Прэзідэнт ЗША абвясціў «ворагам нумар адзін» моладзевую крымінальную групоўку «MS-13», якую абвінавачу ў так званай «эпідэміі апіятаў».

Штогод у ЗША ад перадазіровак апіятамі паміраюць дзясяткі тысяч чалавек. Паводле разлікаў «The New York Times», толькі ў 2016-м ахвярамі перадазіровак сталі да 65 тысяч чалавек (гэта больш, чым тых, хто штогод гіне ў аўтакатастрофах). Прычым, як правіла, ахвяры апіятаў — белыя амерыканцы, на якіх трымаецца ўся сістэма.

Трамп спадзяецца спыніць рост наркаманіі праз удар па «MS-13» — добра арганізаванай міжнароднай злачыннай групоўцы, якая паўстала на базе вулічных банд Цэнтральнай Амерыкі. Адсюль зона дзейнасці яе пашыралася і на ЗША, дзе ў групоўку уваходзяць каля ста тысяч чалавек, як правіла, лацінаамерыканскага паходжання. Унутраны кодэкс братэрства і гарызантальны прынцып арганізацыі не дазваляе знішчыць групоўку за кошт ліквідацыі лідараў.

Нягледзячы на тое, што банда займаецца ў тым ліку гандлем наркотыкамі, абяцанне Трампа расправіцца з «MS-13» не выклікала ў грамадскасці аптымізму. Даследчыкі і журналісты звязваюць распаўсюджванне нарказалежнасці ў першую чаргу з рэцэптамі на лекі, якія ўтрымліваюць апіяты. З пачатку 1990-х гадоў у ЗША склалася лекавая практыка, якая прадпісвае дапамагаць пацыентам з хранічнымі болямі такога кшталту лекі. Ад гэтых прэпаратаў пацыент, які прывыкае да наркотыкаў, паступова пераходзіць на больш цяжкія сродкі, якія набывае на вуліцы. Аднак змагацца з моцнымі фармакалагічнымі кампаніямі Трамп не рызыкуе.

### Пётр Парашэнка



Прэзідэнт Украіны выкарыстоўвае напрацоўкі іншых лідараў аўтарытарных краін СНД, якія вельмі часта выкарыстоўваюць супраць апанентаў раз'юшаных пенсіянерак.

Маркуючы па ўсім, такая практыка паўстала ў Сярэдняй Азіі, дзе ўлада каля пяці гадоў таму пачала наймаць пенсіянерак для атак на акцыі апазіцыі. Прыкладна два гады таму вопытам зацікавіліся ў Расіі, дзе паўстаў рух «Бабулі Пуціна». Якраз «Бабулі Пуціна» стаялі за пагромамі шэрагу штабоў Навальнага. І вось цяпер, падаецца, нарадзіўся рух «Бабулі Парашэнкі».

18 сакавіка апанентаў Парашэнкі, якія прыехалі пікетаваць сядзібу прэзідэнта пад Кіевам, сустрэў натоўп тых самых бабулек. Апошнія перакрылі трасу, што ідзе да рэзідэнцыі, і скандавалі на адрас апанентаў кіраўніка Украіны: «Ганьба!». Журналістам не склала цяжкасці ўстанавіць, што пенсіянерак завезлі на спецыяльным аўтобусе.

Прыём з бабулямі, натуральна, выклікаў незадаволенасць у грамадскасці. Што тычыцца экспертаў, дык яны тлумачаць гэта праз прызму прэзідэнцкіх выбараў 2019-га. Відавочна, Парашэнка будзе ігнараваць грамадскую думку і рабіць стаўку на адмінрэсурс.

# 100 гадоў БНР:

# Раскол у шэрагах

Таццяна ПРОЦЬКА

**Яднанне беларускіх палітычных дзеячаў, якое дазволіла абвясціць незалежнасць БНР, аказалася нядоўгім — пратрымалася месяц. Галоўным чыннікам разладу стала пытанне, з якімі краінамі БНР павінна заключыць саюзныя дамовы.**



**Народны сакратарыят БНР (злева направа): сядзяць — Бурбіс, Серада, Варонка, Захарка; стаяць — Смоліч, Крэчэўскі, Езавітаў, Аўсянік, Заяц. Мінск, 1918 год**

У сакавіку 1918 года ў Радзе БНР вызначыліся прыхільнікі трох галоўных саюзаў БНР. Гэта былі саюз з Расіяй, саюз з Германіяй і саюз з Украінай. Тлумачылася ўсё проста: кожная з пералічаных краін ужо захапіла частку тэрыторыі Беларусі, мела намер аформіць гэты захоп як частку сваёй тэрыторыі, ці, як Германія, перадаць захопленыя беларускія землі краінам-саюзніцам — Літве і Польшчы. Спрэчным для радаўцаў было пытанне, ці будзе спрыяць той ці іншы саюз аб'яднанню беларускіх земляў у незалежную краіну. Бясспрэчнага станоўчага адказу ні для аднаго з гэтых саюзаў не мелася. Трэба было тэрмінова пачынаць дыпламатычную працу, якая вельмі хутка стала галоўнай працай радаўцаў.

Прыхільнікі саюза з Расіяй аргументавалі сваю пазіцыю, звяртаючы ўвагу на працу Народнага камісарыята па справах нацыянальнасцяў, які на тыя часы ўзначальваў Іосіф Сталін. 31 студзеня 1918 года ў складзе гэтага наркамата быў створаны Беларускі нацыянальны камісарыят, Белнацкам (дакументы пра яго стварэнне і дзейнасць захаваліся ў Нацыянальным архіве Беларусі). Узначаліў структуру бальшавік Аляксандр Чарвякоў, намеснікам прызначаны эсэр Уладзіслаў Скарынка, сакратаром стаў Зміцер Жылуновіч. Разам з беларускімі секцыямі РКП(б) Белнацкам не толькі агітаваў людзей за савецкую ўладу, але вёў культурна-асветніцкую працу сярод беларусаў на тэрыторыі Савецкай Расіі, клапаціўся пра бежанцаў, браў на ўлік беларускія арганізацыі і ўстановы, адкрываў беларускія школы і клубы, выдаваў літаратуру на беларускай і рускай мовах.

Пад уплывам гэтых арганізацый у Белнацкаме сфармавалася ідэя Беларускай Савецкай Рэспублікі. Гэта выяўлялася ў прыняцці адпаведных рэзалюцыяў беларускімі сходамі, канферэнцыямі і з'ездамі, у тым ліку і на тэрыторыі Беларусі, занятай савецкімі войскамі. Як зазначаў Яўген Калубовіч, «рэзалюцыі гэтыя дзеля таго й маюць у розных варыянтах адну й тую-ж схему з трох тэзаў: няпрызнаньня пазафронтавай БНР і яе кіруючых органаў — Рады й Ураду БНР; дэклярацыі ў адданасьці савецкай уладзе й Расеі; супрацьстаўленьня БНР ідэі БССР (фэдэрацыі ці саюзу Беларусі з Расеяй) як спосабу вырашэньня права беларускага народу на нацыянальнае самавызначэньне» (тут і далей аўтарскі правапіс захаваны. — НЧ).

Кіраўнікі Белнацкаму выступалі за ўтварэнне ў складзе Расіі савецкай беларускай рэспублікі з правамі нацыянальна-культурнай аўтаноміі. Ідэю падтрымлівала Цэнтральнае бюро беларускіх секцый РКП(б), арганізаваных з бежанцаў-беларусаў у розных гарадах Расіі.

Прыхільнікі саюза з Украінай грунтавалі сваю пазіцыю на двух матывах. Першы — усталяванне мяжы паміж БНР і УНР згодна з прынцыпам этнічнай перавагі беларуская насельніцтва, вызначанай даследаваннямі прафесара Карскага. Другі — на тэрыторыі Украіны пачалі збірацца і фармавацца польскія вайсковыя часткі (кіраўнікі БНР лічылі, што іх у красавіку 1918 года было ўжо 15 тысяч). Заключэнне саюзу, на думку яго прыхільнікаў, павінна было станоўча для БНР вырашыць гэтыя пытанні, адправіць польскае войска ў Польшчу.

28 красавіка быў падрыхтаваны «Прелиминарный договор между Украинской Народной Республикой и Белорусской Народной Республикой по вопросу о государственных границах», у якім, у прыватнасці, зазначалася: *«4. В свою очередь Правительство Украинской Народной Республики обязуется оказать дружескую поддержку Правительству Белорусской Народной Республики в переговорах его с Великороссией о признании независимости Белорусской Народной Республики и в вопросе о проведении белорусско-великорусской границы».* Найбольшым прыхільнікам саюза з Украінай з'яўляўся Вацлаў Ластоўскі, які нават распаўсюдзіў на гэтую тэму спецыяльную адозву.

**У архіве захавалася запіска невядомай асобы Язэпу Варонку: «Дзядзька Язэп, рыхтуйцеся, на вас будуць выліваць памыі». На жаль, «выліваць памыі» на сваіх паплечнікаў на доўгі час стала характэрным для беларускай палітычнай эліты**

Прыхільнікі саюза з Германіяй сцвярджалі, што немцы добра ставяцца да беларускай справы, як гэта было бачна яшчэ ў Першую сусветную вайну. Паколькі тагачасныя палітычныя лідары Літвы, Польшчы і Украіны былі ў саюзе з Германіяй і фактычна выконвалі загады нямецкага вайсковага камандавання, некаторыя беларусы таксама палічылі больш мэтазгодным дамаўляцца наўпрост з Германіяй. 25 красавіка ў Кіеў паслу Германіі ў УНР быў перададзены сакрэтны мемарыял, падпісаны А. Цвікевічам, прафесарам М. Доўнар-Запольскім і П. Трамповічам. Мемарыял быў пададзены на нямецкай мове з наступнага арыгіналу, у якім вызначалася сітуацыя і спадзяванні БНР:

*«Ваше Превосходительство! Мы, делегаты Белорусского Правительства, обращаемся с предложением к Вам, представителю Германского правительства, обратить внимание на белорусский вопрос, получивший сильное и здоровое развитие в последнее время.*

*Работа белорусского народа над созданием своего правительства могла проявиться по условиям военного времени позже, чем аналогичная работа на Украине и среди других народностей России. Но стремление к созданию самостоятельного государственного организма было всегда сильно среди руководящих белорусских партий, ибо эта тенденция основывалась на естественном стремлении народных масс. Чувство государственности глубоко внедрено в понятие белорусского народа, ибо оно основывается на его истории, этнографии, языке и на общности экономического строя. Не говоря о славной самостоятельности, государственной жизни древнего периода, напомним, что в средневековый период его истории до 1569 г. Белоруссия представляла самостоятельное государство под главенством Государя Литовской династии, а с 1569 г. по конец XVIII стол. составляла федеративную часть Великой Польской Республики, пользуясь, однако, внутри своей территории суверенным правом. Подчинение России не уничтожило в белорусах государственной самобытности, и в 1830, и в 1863 г.г. белорусы, не только интеллигенция, но и народ, приняли участие в восстании против Русского Правительства, сражаясь на братском поле вместе с поляками за свободу родины. Последовавшие затем годы тяжёлого режима смели белорусскую литературу, интеллигенцию, но в народе не уничтожили чувства государственной самостоятельности. Полного слияния народных белорусских масс с Россией не могло произойти между прочим по той весьма существенной причине, что белорусский народ по своей культуре всегда примыкал к народам западно-европейским, а не к востоку. Высший класс населения, притом весьма численный, и ныне слившийся в большинстве с народной массой, пользовался широко развитым конституционным правом, а многочисленные города пользовались немецким правом.*

*В экономическом отношении наша страна с 12-ти миллионным белорусским населением небогата дарами природы, но имеет хорошо развитые и культурные хозяйства — лесных и сельско-хозяйственных культур, не знает голодовок, имеет в общем экономически устойчивое крестьянство, владеющее землею на исторически развитом в Белоруссии праве собственности, притом трудолюбивое крестьянство. Наша страна всегда была местом обширного сбыта немецких или онемеченных товаров и в свою очередь давало значительное количество балтийским портам леса, хлеба, кожи и пр.*

*Наш народ своим трудолюбием достиг достаточной степени благосостояния, не смотря на тяжесть царского режима. Насколько последний был для нас тяжел, видно из того, что наша страна была беднее других школами, не имела ни одной высшей школы, и ничего не разрешалось с 1863 по 1905 г. печатать на белорусском языке. И это потому, что Царское Правительство знало о тяготении к самостоятельной государственности, которое глубоко заложено в нашем народе. Теперь этот вопрос стал жгучим и от Германского Правительства зависит — поставить ли его в благоприятное положение и тем обратить симпатии нашего народа к Германии или же обратить симпатии и взоры нашего народа в другую сторону, быть может менее благоприятную для германских интересов…*

*Если бы белорусский вопрос заинтересовал германскую политику, то конкретно мы бы выступили со своей стороны с нижеследующими предложениями:*

1. *Мы просили бы о признании самостоятельности Белоруссии и власти в ней в лице Рады и ее коалиционного Министерства.*
2. *Мы просили бы установления с местными немецкими властями таких отношений, при каких наше Правительство могло бы сорганизовать свои силы для установления своей власти в восточной Белоруссии, ныне занятой большевиками.*
3. *Вместе с тем, мы настоятельно просили бы о сохранении Белоруссии в ее естественных исторических, этнографических и экономических границах. Конкретно, мы настоятельно будем просить о сохранении за Белоруссией Гродзенщичыны, течения р. Припяти и г. Вильно. Если настояния о первых двух территориях вызываются соображениями экономическими и этнографическими, то относительно г. Вильно мы должны напомнить, что этот город сейчас — это умственный центр Белоруссии, наиболее живо сознающий идею белорусской национальной самостоятельности».*

На наступны дзень пасля візіту ў Германскую амбасаду ў Кіеве прэзідэнтам Рады І. Серадой, прэзідэнтам сакратарыяту Я. Варонкам і пяццю радаўцамі была накіраваная тэлеграма на імя германскага імператара Вільгельма ІІ са словамі падзякі за вызваленне Беларусі «ад цяжкага ўціску чужага пануючага здзеку і анархіі» і просьбай узяць Беларусь пад апеку Германіі. Германія, аднак, ніяк не адрэагавала на прапанову, і надзеі на яе дапамогу аказаліся марнымі.

Гэтая тэлеграма мела дрэнныя наступствы. Адзінства беларускіх палітычных сілаў было скасаванае. 1 мая ад удзелу ў працы ўрада адмовіліся Грыб і Бадунова, кабінет Варонкі выйшаў у адстаўку, самая буйная палітычная партыя — Беларуская сацыялістычная Грамада — распалася на тры партыі.

У архіве захавалася запіска невядомай асобы Язэпу Варонку: «Дзядзька Язэп, рыхтуйцеся, на вас будуць выліваць памыі».

На жаль, «выліваць памыі» на сваіх паплечнікаў на доўгі час стала характэрным для беларускай палітычнай эліты.

# Дакументы сведчаць

## У часы БНР у жанчын амаль не было правоў

Таццяна ПРОЦЬКА

**Жанчыны БНР браліся за самыя цяжкія справы, якія не давалі публічнага замілавання. Усе гэтыя жанчыны былі да фанатызму верныя тым ідэям, якім яны прысвяцілі жыццё, — ва ўсіх успамінах абавязкова адзначаецца гэтая іх якасць.**

### «Жанчына не можа быць прэзідэнтам»

Захаваўся ўспамін Ларысы Геніюш пра апошнюю сустрэчу з цяжка хворым Васілём Захаркам, які ў 1943 годзе ўзначальваў БНР:

«Ён сказаў мне, што прыходзіць канец яго жыцця, што ён быў адным з твасрцоў акту Дваццаць Пятага Сакавіка 1918 г., пасля смерці А. Крэчэўскага з'яўляецца Старшынёю БНР і, як выбраны народам сябра ўраду, адыходзячы, хоча перадаць свае паўнамоцтвы дастойнаму чалавеку. Што рабіць? Няма адпаведнага чалавека, ёсць толькі такая жанчына, а жанчына не можа быць прэзідэнтам. Што ж, гэта быў 1943 год... «На гэтае становішча я мог бы паставіць толькі цябе, каб ты не была жанчынай». Тады я запрапанавала Абрамчыка».

З пазіцый таго часу лічылася, што жанчыны мала і нешырока адукаваныя, больш эмацыйныя, менш адказныя — таму высокія пасады, дзе патрабуецца вытрымка, халодны разлік, адказнасць, для жанчын не падыходзяць. Сёння гэта называецца мужчынскім шавінізмам. І хаця ў тыя часы жанчын баяліся прызначыць кіраўнікамі, на самай справе яны адыгралі ў станаўленні і развіцці БНР важную ролю — былі на самых складаных і «негераічных» галінах. Узгадаем пра тры галіны, дзе жанчыны сталі легендарнымі.

Паўліна Мядзёлка і Палута Бадунова на палітычным небасхіле Беларусі як зоркі першай велічыні з'явіліся ў 1917 годзе. Іх лёсы неадначы перасякаліся, асабістыя адносіны не заўсёды былі прыгожымі і ўзнёслымі. Але бясспрэчна — без іх самаадданай працы памяць пра БНР была б іншай. Дакументы, якія захаваліся, распавядаюць, як складана было ў тыя часы будаваць беларускую дзяржаву. І сёння ўражваюць маштабы інтарэсаў і дзеянняў тагачасных жанчын.

### Паўліна Мядзёлка

Паўліна Мядзёлка была адной з арганізатараў і ўдзельнікаў Усебеларускага з'езда — узначальвала культурніцкую секцыю. Галоўным падмуркам для развіцця культуры, на думку радаўцаў, з'яўлялася адукацыя. Паўліна занялася арганізацыяй беларускай адукацыі там, дзе гэта было магчыма ва ўмовах вайны і акупацыі (тут і далей захаваны правапіс арыгіналу. — НЧ).

*«У Беларускую Цэнтральную Раду Віленшчыны і Горадзеншчыны.*

*Даклад.*

*Не зважаючы на загад польскага акружнога інспектара, павятовыя інспектары і дагэтуль адказваюцца зацвярджаць нашых вучыцялеў. Вучыцеля знаходзяцца у страшэнна цяжкіх варунках — некаторыя фармальна галадуюць і ў роспачы пакусяцца на жыцце. Патрэбна якнайхутчэйшая матэрыяльная дапамога. Горадз./енскі/ Вучыц./ельскі/ Саюз без капейкі. Інспэктар Возьнякоўскі нічога не выдае з затрыманых грашэй. Робяцца страшэнныя перашкоды з выдачай пропускаў для усіх беларусаў. Затрымліваюцца дакументы і прыехаўшыя галадуюць не маючы змогі на'т да хаты дабрацца. На станцыі робяць обыскі і калі знойдуць лісты пісаныя па беларуску — жандармерыя арыштовывае — было ўжо колькі такіх выпадкаў. Па почце так жа беларускія пісьма не даходзяць.*

*Праца на месцы ў Горадні налажваецца. У кожны суботнік рэфэраты і лекцыі. Зарганізаваўся хор.*

*Ратуйце галодных учыцелеў. Паўліна Мядзіолка, 5 кастрычніка 1919 г. Горадня».*

### Палута Бадунова

У гэты час ж, у лістападзе 1919 года, Палута Бадунова, якая адмовілася ад пасады міністра БНР, разам з Томашам Грыбам арганізавала **Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў**. Яны напісалі Нарыс праграмы сваёй партыі, у якім выклалі свае перакананні:

*«1. Незалежнасць і непадзельнасць Беларусі ў яе этнічных межах.*

*2. Зямля павінна належыць да таго, хто на ей працуе. Дзеля гэтага зямля на абшарах Беларусі павінна перайсці ў рукі працоўных грамадзян Беларусі. Дзяржава павінна мець зямельны фонд дзеля падняцьця агрыкультуры і прамыслвасьці. Усе лясы, рэкі, вазеры, балоты і недры зямлі павінны быць нацыяналізаваны. Норма зямлі не павінна перавышаць працоўнай і не ніжэй прадавольственнай.*

**Хаця ў тыя часы жанчын баяліся прызначыць кіраўнікамі, на самай справе яны адыгралі ў станаўленні і развіцці БНР важную ролю — былі на самых складаных і «негераічных» галінах**

*3. Рабочае пытаньне разглядаваецца праз прызму пераходу ад капіталістычнага к сацыялістычнаму строю шляхам развіцьця праізвадзіцельнай і патрабіцельскай коопэрацыі. Нацыяналізацыя крупнай прамысловасці і гандлю. 8 гадзінны рабочы дзень і страхоў рабочых за кошт прадпрыемства.*

*4. Асьвета павінна быць агульная, дарэмная. Единая працоўная аўтаномная школа. Адміністрацыя міністэрства прасьветы павінна быць у руках настаўніцкіх саюзаў.*

*5. Поўная свабода ўсім грамадзянам, жывучым на Беларусі. Свабода сумленьня, слова, друку, агульных сходаў, саюзаў, забастовак, незачэпнасьць асобаў, памяшканьня і гэтак далей...»*

### Яўгенія Аляксючанка

Тагачасныя беларускія жанчыны былі бясстрашныя і здатныя на працу, якую сёння можна пабачыць у добрых дэтэктывах. З Пратаколу пасяджэння Надзвычайнай Дыпламатычнай місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Берліне за 16.081919:

*«Слухалі: 1. Даклад п. Мюллера аб падарожжы Місіі белар. пасла на Украіне Цвікевіча. Місія, дзякуючы ваеннай зоне, праз Прагу на Украіну, ніўдалося праехаць. Прыйшлося прабаваць праз Варшаву, куды Місія і выехала. Аказалась, што з Варшавы на Украіну ніяк ня можа ўсей Місіі прабрацца. Пастанавілі пасласць, аказаўшую ўжо не раз цэнныя ўслугі Радзе Народных Міністраў у справе пераезду і правозу дакумэнтаў праз фронт, — Эўгенію Алексючанку як дыплёматычнага кур'ера да Украінскага Ураду у Камянец-Падольску, даручыўшы ей завязці і абмяняць не рэалізаваны у Бэрлінскім Рэйхс-банку (гдзе грошы адмовіліся выплаціць па украінскаму пераводу, бо быў наложэны арэшт на украінскія грошы) перавод на суму 1 500 000 карбованц.*

*З Варшавы Алексючанка з вялікімі труднасьцямі дабралась да Луцка адкуль, пераадзеўшыся селянкаю, пайшла праз лінію польска-бальшэвіцкага фронту. На бальшэвіцкай старане яе арыштавалі, але за 500 крон удалося ўцячы і нават ахранны дакумэнт атрымаць да Острогі. Каля самай граніцы, пасля таго, як у готэлі ноччу пры рэвізыі бальшэвікамі у яе адабралі усе пры ей знаходзячыеся грошы, убраньне лепшае, багаж і нават чаравікі, яна змушана была з дакумэнтамі, чудам захаванымі, без копейкі грошы уцячы раненька з готэлю, бо ні было чым плаціць. На самай бальшэвіцка-украінскай граніцы яе узноў арыштавалі для выясненьня асобы, але ей удалося уночы, разам з двумя украінкамі выламаўшы акно арыштанскай, уцячы і пірайсьці пад агнем бьючыхся бальшэвікоў і украінцыў граніцу.*

*Каманда перадавой украінскай лініі з пачотам даставіла яе у Камянец-Падольск, гдзе Прэм'ер-Міністр Мартос адразу зрабіў усе, каб перавод быў пераменяны на Аўстрыяцкі Банк у Вене на тры мілліоны крон. Падвезеная Алексючанка да польскай граніцы на Збруч узноў была арыштавана палякамі і, толькі дзякуючы спрыту і лоўкасьці, яна арыштаваная і пад канвоем жандармаў, згодна з яе прозьбамі, была дастаўлена ў Варшаву для праверкі асобы, гдзе удалося яе асвабадзіць з пад арэшту. Седзючы ў готэлю пад арэштам, яна сумела перадаць усе дакумэнты і прывезены перэвод яшчэ перад асвабаджэньнем праз дыплёмат. кур'ера Камарынца п. Цвікевічу.*

*Пастанавілі: 1. Прыймаючы пад увагу, што п. Цвікевіч па прывезеннаму дыпл. кур'ерам Э. Алексючанкай пераводу грошы ў Вене атрымаў, і што ў гэтым атрыманьні так патрэбных для нашай дзяржаўнай працы асабліва ў гэты час грошы вялікую ролю адыграла Алексючанка, рызыкуючая для дабра Бацькаўшчыны у праўягу цэлага месяца сваім жыццем, — пастанавілі шчыра дзякаваць п. Алексючанцэ ад імені Ураду БНР за такую самаатвержанную нацыанальную працу і прасіць яе прыняць ад імені таго жа Ураду у ліку аднэй тысячы пяцьсот (1500) марак. Прасіць п. Алексючанку прэдставіць заяву аб панесенай у часе падарожжы страце убраньня і інш. рэчаў на прэдмет аплаты гэтых стратаў».*

Жанчыны БНР браліся за самыя цяжкія справы, якія не давалі публічнага замілавання. Усе жанчыны былі да фанатызму верныя тым ідэям, якім яны прысвяцілі жыццё, — ва ўсіх успамінах абавязкова адзначаецца гэтая іх якасць. У часы БНР у жанчын амаль не было правоў, але сваімі здольнасцямі асобныя з іх маглі дасягнуць выбраных імі самімі вяршынь. Яны маглі адчуваць сябе свабоднымі.



Паўліна Мядзёлка, Людвіка Сівіцкая-Войцік, Палута Бадунова

# «Пад сцягам бел-чырвона-белым»

## Прысвячаецца 100-годдзю БНР

**Па гарызанталі:** 1. «Хай ... вечна будзе з намі,\\ А гвалту мы дамо адпор». З гімна Беларускай Народнай Рэспублікі «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» (словы Макара Краўцова, музыка Уладзіміра Тэраўскага). 5. ... крука за чуб не бярэ (прыказка). 7. Той, хто дамагаецца справядлівасці; імі былі і ёсць тыя, хто адстойваў і адстойвае незалежнасць Беларусі. 8. Вадкасць, якая змяшчае выцяжку з расліннага або жывёльнага рэчыва. 10. «Любіце і шануйце, як святыню, роднае слова, з якім вас літасцівы ... на свет пусціў». Францыск Скарына. 11. Прававое становішча. 13. ... Міністраў БНР. Назва вышэйшага органа ўлады БНР з кастрычніка 1918 года. 15. І ... ёсць, ды волі няма (прыказка). 16. «Чаму мая мова?\\ Паверце, вашай ён не ўкраў,\\ Сваё ён толькі ўспомніў ...,\\ З якім радзіўся, падрастаў». З верша Янкі Купалы «Ворагам беларушчыны». 17. «Беларусь! Беларусь! Пад штандарам бел-чырвона-белым\\ Век у шчасці жыві, беларускі ...!» З верша Уладзіміра Някляева «Жыві, Беларусь!». 19. Паўфабрыкат металургічнай вытворчасці жалеза. 21. Наша асоба — гэта ..., а наша воля — яго садоўнік (прыказка). 23. Сумеснае абмеркаванне чаго-небудзь. 25. Выпраўленне памылак на адбітку друкарскага набору. 27. Паўночны вецер. 28. «Усё лятуць і лятуць тыя ...,\\ Срэбнай збруяй далёка грымяць.\\ Старадаўняй Літоўскай Пагоні\\ Не разбіць, не спыніць, не стрымаць». З верша Максіма Багдановіча «Пагоня». 29. Адзінка даўжыні. 30. Летняя пабудова для адпачынку.

**Па вертыкалі:** 1. «Дзень Волі — гэта ...!\\ Гэта нашых сардэц адраджэнне!». З верша Крывіча Вольнага «Дзень Волі». 2. «Прыціх наш ...: ад гутарак аскома.\\ Прыціх наш ...:\\ Маўчыць, усе маўчаць.\\ Свабодай карыстаюцца сачкомы,\\ Каб тых, хто мысліць, у астрог саджаць». З верша Уладзіміра Дубоўкі «За ўсе краі, за ўсе народы свету». 3. ... зерне пуды прыносіць (прыказка). 4. Вышэйшага класу, гатунку. 6. «Мой бел-чырвона-белы сцяг — \\ Зямлі маёй ... і слава!». З верша Алеся Салаўя «Трыялет». 9. «... без незалежнасці, што банкаўскі кошт без укладу». Аляксандр Васільеў. 12. Ударны музычны інструмент. 14. ...! Вокліч з пераможнай інтанацыяй. 15. «Пад сцягам бел-чырвона-белым,\\ За волю, праўду, за штандар\\ Іду я ў бой адважна, смела:\\ Я — ... свабоды, я — змагар!». З верша Алеся Змагара «Даволі здзекаў і прымусаў». 16. Расійскі горад, дзе было прынята рашэнне аб стварэнні БССР. 18. Падрабязнасць, дэталь. 20. «Змагацца за волю — ...,\\ Змагацца за праўду — не страх». Ларыса Геніюш. 22. Адзінка вымярэння аб'ёму друкаванага тэксту. 23. «Дваццаць пятага сакавіка —\\ Наша свята, ... і прысяга». З верша Рыгора Барадуліна «25 сакавіка». 24. ... вольны, калі ў яго ёсць крылы (прыказка). 26. Медны духавы інструмент для падачы сігналаў.

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**




**Адказы на крыжаванку «Яны любілі Беларусь» (НЧ, №6 ад 23 лютага):**

**Па гарызанталі:** 2. Сакавік. 6. Пан. 7. Лад. 8. Камендант. 9. Мандат. 10. Плюмаж. 13. Язэп. 15. Сура. 17. Талака. 19. Смоліч. 22. Граматыка. 23. Сыр. 24. Тры. 25. Канцлер.

**Па вертыкалі:** 1. Вацлаў. 2. Слава. 3. Адна. 4. Канал. 5. Сакратар. 11. Юрыст. 12. Апора. 14. Загадчык. 16. Віхура. 18. Корак. 20. Макар. 21. Заяц.



Новы час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №289

Падпісана да друку 23.03.2018. 8.00. Наклад 2500 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.